ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 43 (2622)
ПЯТНІЦА
27
кастрычніка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:



**Добра ведаюць на Барысаўскім заводзе аўтатрактарнага абсталявання камсамолку Святлану Крапіўку. Прадукцыя, якая выходзіць з-пад яе рук (Святлана — намотчыца ўчастка катушак), — заўсёды выдатнай якасці; пры гэтым С. Крапіўка сістэматычна перавыконвае зменныя заданні.**

**Нядаўна Святлану абралі ў заводскі камітэт прафсаюза рабочых машынабудавання. Гэта—не толькі высокі гонар, але і вялікая адказнасць. Зрэшты, яна Святлане па плячы.**

**Поспехаў табе, Света!**

Фота Ул. КРУКА і А. ЦЕРЛЮКЕВІЧА.

НЯХАЙ ЖЫВЕ САВЕЦКАЯ НАРОДНАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ — АКТЫЎНЫ БУДАЎНІК КАМУНІЗМУ!

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС.

## ад пятніцы да пятніцы

# ОРДЭН НА СЦЯГУ БІБЛІЯТЭКІ



Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. СУРГАНАЎ прымацоўвае ордэн да сцяга.

ЗУСІМ НЯДАЎНА грамадскасць рэспублікі ўрачыста адзначала паўвекавы юбілей Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. А 25 кастрычніка сюды сабраліся шматлікія чытачы, каб павіншаваць нашу «Ленінку» і яе супрацоўнікаў з уручэннем высокай узнагароды — ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Пяцідзесяцігоддзе «Ленінкі» супала з паўвекавым юбілеем з дня ўтварэння СССР. Гэта прыемна і сімвалічна. Многія кнігі з цэнтральнай бібліятэкі ў перыяд вайны захоўваліся ў Ташкенце, Ашхабадзе Ерэване і іншых гарадах.

Міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч адкрывае ўрачысты сход, дае слова Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаву.

— Сёлетні год, — гаворыць Ф. А. Сурганаў, — у нашай краіне праходзіць пад знакам усенароднай падрыхтоўкі да 50-годдзя ўтварэння СССР. Супадзенне юбілею Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі з гэтай падзеяй вельмі знамянальнае. Сёння з поўным правам мы можам зазначыць, што ні ў адной краіне кнігавыдавецкая і бібліятэчная справа не атрымала такога шырокага размаху, як у нас. Савецкі народ па праву лічыцца самым чытаючым народам у свеце. Гэта адзін з уражлівых вынікаў сапраўднай культурнай рэвалюцыі, якая стала магчымай дзякуючы перамозе Вялікага Кастрычніка і стварэнню непарушнага брацтва народаў — Саюза ССР.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад праяўляюць нястомныя клопаты аб развіцці культуры ў нашай краіне, аб духоўным росце і ўдасканаленні чалавека. У арсенале выхаваўчых сродкаў кнізе належыць асабліва важная роля. Яна нясе ў масы ідэі марксізму-ленінізму, натхняючае слова партыі, вучыць людзей жыць і працаваць, знаёміць іх з духоўнымі скарбамі грамадства.

— Дзяржаўная бібліятэка БССР, — працягвае Ф. А. Сурганаў, — з'яўляецца важным звяном у сістэме навукова-тэхнічнай інфармацыі, навуковым і метадычным цэнтрам рэспублікі ў галіне бібліяграфіі і бібліятэказнаўства. Кніжныя выдавецтвы рэспублікі выпускаюць штогод больш чым дзве тысячы назваў рознай літаратуры тыражом звыш 26 мільёнаў экземпляраў. Масаваму чытачу адкрыта шырокая дарога да кнігі праз шматлікія бібліятэкі: сёння іх у рэспубліцы больш чым 20 тысяч.

Дзяржаўная бібліятэка БССР праводзіць вялікую работу па камуністычнаму выхаванню працоўных, мабілізацыі іх на барацьбу за выкананне нашых народнагаспадарчых планаў.

Ф. А. Сурганаў зачытвае Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Дзяржаўнай бібліятэкі Беларускай ССР імя У. І. Леніна ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Пад бурныя апладысменты ён прымацоўвае ордэн да сцяга бібліятэкі.

Затым Ф. А. Сурганаў уручыў вялікай групе бібліятэчных работнікаў Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета БССР.

Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР Ф. А. Сурганаў сардэчна павіншаваў калектыў бібліятэкі і яе работнікаў з заслужанай узнагародай, пажадаў ім плённай працы, новых поспехаў у выхаванні адданых Радзіме, актыўных і свядомых будаўнікоў камунізму.

Са словам удзячнасці выступіў дырэктар бібліятэкі Э. Цыганкоў.

Загадчыца аддзела беларускай літаратуры і бібліяграфіі бібліятэкі Л. Апацкая, кандыдат філалагічных навук М. Яўневіч ад імя чытачоў сардэчна падзякавалі партыі і ўраду за высокую ўзнагароду.

На сходзе прысутнічаў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў.



У зале сходу.

Фота Ул. КРУКА.

## ВЕЧАР НАЗЫВАЎСЯ «УКРАІНА ЗАЛАТАЯ»

«Украіна залатая» — так называўся вечар, што праходзіў у Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў Беларусі. Да мінчан прыехала дэлегацыя Савецкай Украіны.

Мовай мастацтва госці вялі захапляючы расказ аб сваёй рэспубліцы, аб яе мінулым і сучасным.

Саліст Кіеўскага дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага тэатра оперы і балета імя Т. Р. Шаўчэнкі заслужаны артыст Украінскай ССР Аляксандр Чулюк-Заграй, салістка опернай студыі Акцябрскага Палаца культуры прафсаюза г. Кіева Вольга Янкоўская, вакальны дуэт у складзе Галіны Кацюк і Тамары Куліковай, бандурысты Кіеўскай дзяржаўнай філармоніі азнаёмілі прысутных з мастацтвам Украіны.

Сапраўдным упрыгожаннем канцэрта гасцей з'явілася выступленне Народнага ансамбля танца «Горліца» пад кіраўніцтвам лаўрэата рэспубліканскага фестывалю самадзейнага мастацтва Украіны Яўгена Зайцава. І «Прывітальны танец», якім пачалі святочны канцэрт, і лірычны танец «Галубка», і руская танцавальная сюіта, і сучасны маладзёжны танец былі выкананы ўдзельнікамі ансамбля на высокім мастацкім узроўні.

Удзельнікі тэматычнага вечара пазнаёміліся з выстаўкамі літаратуры і фотаілюстрацыі «Украіна сёння», на якіх былі паказаны творы класікаў і сучасных украінскіх аўтараў, праслухалі вершы і песні ўкраінскіх аўтараў у грамзапісе, атрымалі арыгінальныя сувеніры з даравальнымі надпісамі гасцей, прынялі ўдзел у віктарыне «Мы падарожнічаем па сонечнай Украіне».

Я. МАЛЫ.

## АРХІТЭКТУРА І АДПАЧЫНАК

Гэтай тэме быў прысвечаны XI Сусветны кангрэс Міжнароднага саюза архітэктараў, які адбыўся ў балгарскім горадзе Варна. У ім прынялі ўдзел выпускнікі Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута Віктар Някрасаў і Анатоль Сувораў. Іх праект «Прастора калектыўнага адпачынку» для перспектыўнага будаўніцтва ў сельскай мясцовасці, разлічаны на 5000 жыхароў, атрымаў высокую ацэнку. Праект выкананы пад кіраўніцтвам выкладчыка інстытута Валерыя Канстанцінавіча Храноўскага.

Б. АРКАДЗЕЎ.

## ГОСЦІ З КАЗАХСТАНА

Нядаўна ў Палацы культуры Мінскага ордэнаў Леніна і Кастрычніцкай рэвалюцыі трактарнага завода адбылася сустрэча рабочых і служачых гэтага прадпрыемства з заслужаным калектывам Казахскай рэспублікі, лаўрэатам Усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў Дзяржаўным аркестрам народных інструментаў імя Курмангазы.

Праграма выступлення была складзена з твораў кампазітараў саюзных рэспублік, а таксама кампазітараў замежных краін. Яна прагучала як своеасаблівы музычны летапіс нашай Радзімы, як дасягненне музыкальнага мастацтва. Разнастайныя па жанру творы — песні, уверцюры, фантазіі, урыўкі з опер — прысвечаны У. І. Леніну, партыі, Савецкай дзяржаве, Вялікай Айчыннай вайне, пакарыцелям космасу, дружбе братніх народаў.

Цёпла сустрэлі трактаразаводцы народную артыстку Казахскай ССР Розу Тулігенаву, якая выканала песню Л. Хамідзі «Жазгы Танга», з асаблівай увагай слухалі варыяцыі В. Андрэева «Свеціць месяц», уверцюры Расіні, Вердзі, Глінкі і іншых класікаў музыкальнай культуры.

А ў час антракту з кампазітарамі братняй рэспублікі сустрэліся самадзейныя кампазітары і музыканты. Сваімі думкамі, планамі падзяліліся народны артыст Казахскай ССР Шамгон Кашгаліеў, заслужаныя артысты Алдаберген Музабекаў і Г. Сафонцаў. У гутарцы аб музыкальным майстэрстве прыняў удзел артыст Беларускага радыё і тэлебачання Ю. Маляўка.

Да позняга вечара гучала цудоўная музыка ў Палацы культуры Мінскага трактарнага. Канцэрт, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння Саюза ССР, прайшоў з вялікім поспехам.

Лідзія НЕСЦЯРОВІЧ.

## ПРАЙШОЎ ТЫДЗЕНЬ

□ У Чэрыкаўскім раённым доме культуры адкрылася выстаўка вырабаў народных умельцаў. Увагу прыцягваюць работы Івана Кірпічова (разьба па дрэву), Мікалая Брындзікава і інш.

Лепшыя работы будуць адабраны для ўдзелу ў выстаўцы, якая адбудзецца ў Магілёве.

І. СУРМАН.

□ Рэчыцкія нафтавікі пабывалі на канцэрце Іосіфа Кабзона, які адбыўся ў гарадскім Доме культуры. Слухачы вельмі ўдзячны спеваку за яго песні, якія ён выканаў пранікнёна, з добрым густам.

І. САВІЦКІ.

□ Выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва народных умельцаў Полаччыны адкрылася ў гарадскім Доме культуры. На ёй прадстаўлена звыш 200 работ: жывапіс, чаканка, разьба па дрэву, ткацтва.

Я. МАЦЮШЭНКА.

□ Сто малюнкаў школьнікаў Гомеля дэманстраваліся на выстаўцы ў абласным Доме настаўніка.

Дзеці расказваюць пра восень, пра сваіх сяброў, пра настаўнікаў, пра ўсё, што можна аб'яднаць пад дэвізам «Хай заўжды будзе сонца»

М. ГАТОЎКІН.

## НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ, ДЭБЮТЫ

*БУДНІ ОПЕРНАГА*

□ Афіша прапануе мінчанам пазнаёміцца з новымі выканаўцамі, якімі папоўніўся сёлета творчы калектыў Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Цікава прайшоў спектакль «Аіда», якім дырыжыраваў новы галоўны дырыжор народны артыст УССР Яраслаў Вашчак. У спектаклі прымалі ўдзел вядомыя салісты беларускай оперы — народныя артысты БССР С. Данілюк, І. Саронін, В. Чарнабаеў, артысты Г. Лебедзева, М. Галкоўскі.

Сёння ў балеце Чайкоўскага «Лебядзінае возера» Адэту-Адылію ўпершыню выканае салістка балета, лаўрэат Міжнароднага конкурсу Людміла Сінельнікава, а 31-га кастрычніка ў оперы Пучыні «Чыа- Чыа-Сан» у галоўнай партыі выступіць народная артыстка Украінскай ССР Галіна Паліванава.

Спявачка тэатра заслужаная артыстка БССР І. Шыкунова паспяхова дэбютавала ў партыі Маргарыты ў оперы Гуно «Фаўст».

□ Адразу пасля адкрыцця сезона артысты пачалі даваць канцэрты для сельскіх гледачоў. Днямі перад працаўнікамі саўгаса імя Тэльмана Мінскага раёна выступілі народная артыстка СССР Т. Ніжнікава, народны артыст БССР Л. Бражнік, заслужаныя артысты БССР В. Ганчарэнка і А. Сухін, артысты Л. Пільдыш, Р. Прашко, А. Бокаў. Канцэртмайстар В. Багатырская.

□ Мацнеюць творчыя сувязі з мастацтвам братніх рэспублік. У гэтыя дні галоўны рэжысёр тэатра А. Дадзішкіліяні працуе над пастаноўкай балета Я. Глебава «Альпійская балада» на сцэне Чэлябінскага тэатра оперы і балета.



Ім апладзіравалі жодзінцы...



На эстрадзе — Ганна Стрыжакова.

# СЕРАДА. ВЕЧАР МУЗЫКІ

У фае Палаца культуры жодзінскіх аўтамабілебудаўнікоў стаіць невялікая мадэль самазвала БелАЗ-540. Яна зроблена рукамі дзяцей. Дзеці заўсёды цягнуцца за бацькамі, а пераважная большасць бацькоў у Жодзіна — аўтамабілебудаўнікі. Тут жывуць сапраўдныя майстры сваёй справы, адданыя і верныя ёй. Пра гэта сведчыць сусветная слава беларускіх самазвалаў, пацверджаная залатымі медалямі Лейпцыгскага і Плоўдзіўскага кірмашоў.

А пра тое, што жодзінцы не замыкаюцца ў вузкім коле сваёй прафесіі, што іх цікавіць многае, сведчаць і іх спартыўныя дасягненні, аб якіх расказваюць стэнды ў палацы, і выстаўка жывапісу, графікі і разьбы, што наладжана тут; доказам таму — і тая цікавасць, якую выклікаў прыезд сюды групы беларускіх кампазітараў і артыстаў.

— Спорт робіць прыгожым цела. Музыка, тэатр, літаратура робяць прыгожай душу, — з такімі словамі звярнуўся да прысутных у зале народны артыст СССР Рыгор Раманавіч Шырма.— Захопленасць сваёй справай плюс улюбёнасць у мастацтва ў многім фарміруе гарманічную асобу.

Рыгор Раманавіч падзяліўся сваімі ўражаннямі ад сустрэч з многімі музычнымі калектывамі, якія сабраліся на фестывалі «Варшаўская восень». Гэты фестываль вельмі яскрава прадэманстраваў розніцу паміж музыкай, якая нараджае думку, абуджае пачуццё, надае сілы, і фармальнай музыкай «авангардыстаў», якая не паспеўшы нарадзіцца, ужо асуджана на выміранне. Гэта пацвярджаецца жыццём.

Канцэрт пачаўся «Песняй вясны» І. Кузняцова. Яе праспявала салістка Беларускага тэлебачання і радыё Ганна Стрыжакова. Вакальныя творы Ю. Семянякі і Г. Вагнера выканалі салісты тэатра оперы і балета Тамара Шымко, Віктар Кірычэнка, Анатоль Бокаў. Кампазітары прысутнічалі на канцэрце, і таму гарачыя апладысменты залы адрасаваліся не толькі артыстам, але і аўтарам. Шмат разоў у гэты вечар ім даводзілася ўставаць са сваіх месцаў, каб выказаць удзячнасць сардэчным, шчырым слухачам.

Цёпла віталі слухачы Генрыха Вагнера, які бліскуча выканаў на фартэпіяна «Цыганскі танец» з балета «Падстаўная нявеста».

Вялікі поспех выпаў таксама на долю цымбаліста Яўгена Гладкова, якому акампаніравала Ларыса Жукава. Віртуозна, своеасабліва выканаў ён Канцэртнае скерца І. Лучанка і «Беларускія танцы» І. Жыновіча. Ён захапіў залу, літаральна ўзяў яе ў «палон».

Канцэрт завяршыўся выступленнем інструментальнага ансамбля пад кіраўніцтвам Л. Смялкоўскага.



Канцэрт спадабаўся.
Фота Ул. КРУКА.

ПІСЬМО МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ І КАМЕНТАРЫЙ МІНІСТРА

КАЖУХІ з дублёнай фарбаванай аўчыны — вялікія, варсістыя дарожныя, кажушкі — абшытыя футрай і расшытыя мудрагелістым узорам — іх яшчэ нядаўна ў Беларусі можна было сустрэць паўсюдна. Цяпер кажушок стаў рэдкасцю. Гэта не таму, што майстры пераваліся. Не. Проста кажушку не пашанцавала. Пра яго неяк забыліся нашы народныя мастацкія промыслы.

А між іншым, попыт сёння на кажух небывалы і не проста таму, што гэта модна. Ён вельмі практычны, асабліва ў марозную зіму, а калі яго вышыць, як гэта робяць майстры сяла Моталь, што на Брэстчыне, выглядае шыкоўна, элегантна.

Сяло Моталь, бадай, адно з нямногіх у рэспубліцы, дзе яшчэ шыюць кажушкі з дублёнай аўчыны, пафарбаваныя ў чорны або жоўты колер, расшытыя арнаментным узорам. Праўда, слова «шыюць» тут не зусім дарэчы. Было б больш правільна сказаць — шылі.

Так, калісьці такія кажушкі шылі ў Моталі амаль у кожным доме. Цяпер не шыюць. Няма з чаго. Працуюць па дамове з Мастацкім фондам БССР толькі Ульяна Васілевіч і Ганна Валынец і то ад выпадку да выпадку. А маглі б працаваць не толькі яны, а і многія іншыя. Апрацоўка аўчын і пашыў кажушкоў — рамяство тут традыцыйнае.

Здавалася б, гэтым цікавым, патрэбным сёння рамяством, павінны б зацікавіцца па-сапраўднаму Мастацкі фонд і мясцовая мастацкая прамысловасць Беларусі. Аднак гэтага не здарылася. Запрашаючы майстра працаваць у сваёй сістэме на дагаворных умовах, яны не вырашаюць асноўнага пытання — забеспячэння майстроў сыравінным матэрыялам, не клапоцяцца аб паляпшэнні ўмоў іх працы. Больш таго, майстры, якія працуюць на дагаворных умовах з фабрыкай мастацкіх вырабаў або Мастацкім фондам БССР, т. зв. «надомнікі», па-сутнасці, застаюцца самі па сабе, яны і не калгаснікі і не рабочыя. З другога боку — надомнікі, як правіла, рассеяны па вялікай тэрыторыі і, натуральна, фабрыка не можа праяўляць аб кожным з іх належных клопатаў, нават у забеспячэнні сыравінай. Вось і даводзіцца мотальскім майстрам самім набываць і апрацоўваць аўчыны, што стварае нямала цяжкасцей.

Апрача таго, майстры, працуючы ў хатніх умовах, не могуць выкарыстоўваць новыя, больш дасканалыя, тэхналагічныя прыёмы, механізацыю, якая б аблегчыла іх працу (напрыклад, пры апрацоўцы скуры). Таму вырабы многіх майстроў не адпавядаюць сучасным патрабаванням. Майстры, адчуваючы гэта, паступова губляюць цікавасць да традыцыйнага рамяства, а моладзь наогул лічыць занятгкі хатнім рамяством бесперспектыўнымі. Усё гэта наводзіць на роздум.

Так павялося ўжо, што ў размовах, нават пры пастаноўцы праблемных пытанняў, мы, неяк не заўважаючы, чапляемся за саматужніка. А ці не аджыў свой век саматужнік-адзіночка? Ці не варта паглядзець на хатнія рамёствы з другога боку, з улікам новага ўкладу жыцця ў горадзе і вёсцы?

Хаця творчасць нельга паставіць на канвеер, аднак гэта не значыць, што майстар павінен працаваць у адзіноце ў сваёй хаце, як сто гадоў таму назад. Ды і хто сёння, асабліва з моладзі, згодзіцца займацца хатнім рамяством? Відаць, гаворка павінна ісці аб стварэнні вытворчых майстэрняў, у якіх народныя ўмельцы маглі б выконваць найбольш складаныя, працаёмкія працэсы. Маюцца на ўвазе новыя формы арганізацыі працы, пры якой маглі б спалучацца калектыўны і індывідуальны пачатак. Аб іх неабходнасці сведчыць вопыт аб'яднання майстроў у рэспубліках Прыбалтыкі. Але хто арганізуе такія майстэрні ў сяле Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці?

У Моталі захаваліся розныя народныя хатнія рамёствы: ткацтва, вышыўка, выпрацоўка аўчын і пашыў арнаментаваных кажушкоў. Вось тут на месцы варта было б стварыць майстэрні па вытворчасці мастацкіх вырабаў і сувеніраў як філіял Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, паколькі яна ўжо мае вопыт работы з народнымі майстрамі, з вытворчасцю вырабаў, што выпускаюцца ўручную і г. д.

Нам здаецца, стварэнне такіх майстэрняў у Моталі неабходна. Гэта дазволіла б узнавіць многія мясцовыя рамёствы, у тым ліку і славутыя мотальскія кажушкі.

**Таццяна ВАЛАДЗЬКО.**

# ПРА МОТАЛЬСКІ КАЖУШОК І ІНШАЕ...

**РЭДАКЦЫЯ папрасіла міністра мясцовай прамысловасці БССР Г. Семяніхіна пракаменціраваць гэтае пісьмо.**

**— Аўтар пісьма, па сутнасці, уздымае два пытанні, — гаворыць Георгій Усеваладавіч. — Першае—аб вырабе дублёнкі, другое, як мне здаецца, больш цікавае і прынцыповае — аб адраджэнні народных мастацкіх промыслаў, арганізацыі работы ўмельцаў.**

**Адкажу спачатку на першае пытанне. Я згодны з аўтарам пісьма,— попыт на кажушкі і сапраўды вялікі. Але, як піша ён, ніхто не хоча займацца вырабам дублёнак. Ёсць, маўляў, традыцыі, ёсць майстры-ўмельцы, але ўсе яны самі па сабе, не арганізаваны, не атрымліваюць належнай дапамогі і г. д.**

**Думаю, што Т. Валадзько не зусім разабралася ў гэтай справе. Калі б у нас было ўдосталь сыравіны—усё наладзілася б, і ў тым жа Моталі можна было б тады стварыць цэх па вырабе дублёнак.**

**Цяпер — пра галоўнае. А галоўнае гэта тое, што ў рэспубліцы з году ў год расце вытворчасць мастацкіх вырабаў. Падмацуем гэта такімі лічбамі. У 1969 годзе ўсіх відаў мастацкіх вырабаў выпушчана на суму 32,5 мільёна рублёў, сёлета гэты паказчык складае 45,5 мільёна, у 1975 годзе—58 мільёнаў рублёў.**

**Шырока распаўсюдзілася вытворчасць строчка-вышываных вырабаў, мастацкага ткацтва, вырабаў з саломкі, чароту, лазы, дрэва, чаканка па метале і г. д.**

**Мы аднаўляем традыцыйныя беларускія рамёствы, такія, скажам, як ганчарны (у Радашковічах зараз будуецца буйная фабрыка па выпуску ганчарных вырабаў, развіваюцца ганчарныя промыслы ў Мазыры, Пінску, Івянцы), бандарны, роспіс па тканіне і гэтак далей.**

**Зараз у рэспубліцы працуе 24 прадпрыемствы па выпуску мастацкіх вырабаў. Некаторыя з іх—у Оршы, Магілёве, Слуцку—рэканструяваны. Плануецца рэканструкцыя мастацкай фабрыкі ў Слоніме.**

**Я не памылюся, калі скажу, што наша мастацкая прадукцыя карыстаецца добрым попытам. Ведаюць яе далёка за межамі рэспублікі. Частку вырабаў мы адпраўляем на экспарт. Нашы ўмельцы—удзельнікі рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выставак. Высокую ацэнку атрымалі, напрыклад, вырабы з саломкі (прадукцыя Магілёўскай фабрыкі) на міжнароднай выстаўцы ў Югаславіі ў гэтым годзе.**

**Як жа развіваецца мастацкая прамысловасць рэспублікі! Мы трымаемся, так сказаць, дзвюх форм. Першая — арганізацыя груп умельцаў для работы непасрэдна на прадпрыемствах, другая — надомнікі. Гэта людзі, якія па розных прычынах не могуць пакінуць вёску, хату, гаспадарку. Такіх умельцаў у нас больш трох тысяч — ткачыхі, вышывальшчыцы, бондары, ганчары і г. д.**

**Усе ўмельцы-надомнікі канцэнтруюцца вакол той ці іншай фабрыкі, якая дае і прымае работу, забяспечвае матэрыяламі, эскізамі і гэтак далей.**

**Аўтар пісьма прапануе адмовіцца ад надомнікаў, якія, маўляў, адарваны ад калектыву, прадастаўлены самі сабе, працуюць па старой тэхналогіі, як працавалі іх дзяды і прадзеды. Карацей кажучы, прапануецца падвесці пад усё гэта прамысловую аснову.**

**Думаю, што і тут Таццяна Валадзько не мае рацыі. У чым прыгажосць і каштоўнасць мастацкага вырабу, які выходзіць з рук умельца! У тым, што ён нясе на сабе сляды індывідуальнасці.**

**Гэта, вядома, не значыць, што ўсё робіцца самапасам, каму што ўздумаецца. Мы ўважліва вывучаем рынак, попыт на той ці іншы выраб. Пры кожнай фабрыцы ёсць мастацкі савет, які распрацоўвае матэрыял, малюнак, форму і г. д. Ён і дапамагае ўмельцам асвойваць новыя вырабы, сочыць за якасцю.**

**Аўтар пісьма бачыць у інстытуце надомнікаў і нейкую сацыяльную праблему. Маўляў, гэтыя людзі ператвараюцца ў саматужнікаў-адзіночак і, жывучы на тэрыторыі калгасаў і саўгасаў, цураюцца грамадскай вытворчасці.**

**Гэта не так. Пераважная большасць вясковых умельцаў прымае ўдзел у сельскагаспадарчай вытворчасці і мастацкім рамяством займаецца ў вольны час. На жаль, кіраўнікі некаторых гаспадарак трымаюцца той жа думкі, што і аўтар пісьма. Яны ўсімі сродкамі перашкаджаюць рабоце ўмельцаў. У мінулым годзе ў Пінскім раёне быў такі выпадак. Адзін з калгаснікаў, дарэчы пенсіянер, па дамоўленасці з фабрыкай рабіў у сябе дома ганчарны посуд. Пра гэта даведаўся старшыня мясцовага калгаса, які ўласнаручна паламаў ганчарныя прылады. Старшыня той за самаўпраўства быў прыцягнуты да адказнасці.**

**Слушна гаворыць аўтар: хатнім рамяством не хоча займацца моладзь. Але гэта не азначае, што выміраюць традыцыі народнага ўмельства.**

**На фабрыках і прадпрыемствах мастацкіх вырабаў працуе ў асноўным моладзь. Але праблема кадраў існуе. Мы робім у гэтым напрамку пэўныя захады. У Гомелі плануецца стварэнне прафтэхвучылішча на 400 чалавек, якое будзе рыхтаваць кадры для мастацкай прамысловасці рэспублікі. У гэтай галіне працуе нямала выпускнікоў Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута, Бабруйскага мастацкага вучылішча.**

**Мы аптымістычна глядзім ў будучыню. Мастацкая прамысловасць рэспублікі набрала добры разгон і ідзе па правільным шляху.**

# САМЫ ЗАПАВЕТНЫ ДАР

### ПРА «БЕЛАРУСКУЮ КАЛЫХАНКУ» ВАСІЛЯ ВІТКІ

КАЛІ чытаеш «Калыханку» Васіля Віткі, мрояцца думкі, нараджаюцца высокія пачуцці. Аўтар назваў кніжку паэмай. Але гэта нешта большае за паэму. Гэта і філасофскі трактат, і гістарычная эпапея, і, можа нават, аснова для оперы. А кніга прызначана для дзяцей старэйшага ўзросту, школьнікаў.

Праз калыханку — песню беларускай маці — і праз яе лёс, лёс маці, аўтар паказаў найбольш высокія, трагічныя, пакутныя, але пераможныя ўзлёты народнага духу.

«Калыханка — гэта першая матчына песня, — піша аўтар. — Што можа быць вышэй гэтага шэдэўра сусветнай лірыкі, якую стварылі самі нашы маці, несучы яе праз вякі, праз тысячагоддзі і перадаючы адна другой з памяці ў памяць, з пакалення ў пакаленне. У кожнага народа яна — самы запаветны дар».

І вось мы з настаўніцай мовы і літаратуры Вольгай Піліпаўнай Вінянковай—у дзесяцікласнікаў.

Чыталі ахвотна, здзівіліся, зацікавіліся... А калі ёсць здзіўленне — гэта цудоўна, бо яно абуджае цікавасць да кнігі, да яе зместу, будзіць думкі, уздымае пачуцці.

— Уся гісторыя народа-волата —у гэтай маленькай кніжачцы, — гаворыць Наташа Казлянкова.

— І гісторыя беларускай літаратуры, — дадае Саша Цалка.

— А мяне ўзрушыў вобраз маці, —умяшалася Надзея Ярмоленка. —Я ўсё думаю і пра сваю маці.

— Мне спадабаліся народныя матывы, народныя песні і танцы, якія я ўяўляю, калі чытаю паэму, —гаворыць Лідзія Мінчанка.

Я ўслухоўваўся ў разважанні вучняў, глядзеў, як яны гарталі кніжачку, разглядалі малюнкі, чыталі, спрачаліся. Баяўся, каб чаго не прапусціць у гэтай шчырай размове.

— Мне не спадабаўся Багрым, —зусім сур'ёзна заўважыў Васілёк Бугакоў.

— Чаму?—запыталі адразу некалькі галасоў у класе.

— А таму, што выканаў загад прыстава, на вайну пайшоў за цара галаву класці.

— Вось ты які, Вася,—здзівілася Ліда. — А ты што зрабіў бы, каб цябе ў кайданы закавалі?

— І ў кайданах не пайшоў бы за цара на вайну. Я лепей з Каліноўскім у гай падаўся б.

Вучні абрадаваліся Васільковай здагадцы. Яны разам з Васільком ужо ўяўлялі, што крочаць па Белавежскай пушчы ў атрадзе Каліноўскага. Што ім, маладым, — хіба цяжка перанесціся ў мінулае стагоддзе!

І раптам Віця Спадабаеў, гэты разважлівы віхрасцік:

— Нічога ў вас з Васільком не выйшла б, як і ў Каліноўскага. Бо ў той час яшчэ не саспелі ўмовы, каб скінуць усю царскую навалу. Таму і калыханка тых гадоў вельмі засмучае душу.

— Калі ты такі разумнік, — кажа Уладзік Якутовіч, — дык скажы, што рабіў бы ты ў тых абставінах?

— Тое, што рабілі перадавыя рабочыя...

Зноў крыху змоўклі. Відаць, задумаліся. Непакойліва пазіраюць на нас, настаўнікаў.

Вольга Піліпаўна ўжо хацела падвесці вынікі дыскусіі. Але Аня Васільева, паэтэса нашай школы, запярэчыла.

— Не, не, не скончылі мы размову.

— Што ж яшчэ?

— У творы столькі дзейных асоб... Давайце паставім на сцэне паэму!

Крыху зноў паспрачаліся, пакуль ролі падзялілі.

— А ці можна напісаць водгук на паэму?—пачуўся голас з апошняй парты, здаецца, Клаўкі Міхачовай.

— Можна, можна, — адказала настаўніца.

Мне крыху шкада стала развітвацца з вучнямі, бо сёй-той спяшаўся паглядзець трэцюю серыю «Маёра Віхра». Але што гэта? Восем вучняў не пайшлі глядзець тэлевізар, засталіся з кніжкай у класе.

Я задумаўся... Якое ж гэта вялікае багацце — твор, што так прыцягнуў да сябе вучняў. Відаць, Васіль Вітка вельмі трапна і вобразна адлюстраваў жыццё народа ў яго ўяўленнях, мысленні, пачуццях...

Думаю, што калі ў маіх вучняў будуць свае дзеці, яны будуць чытаць ім «Беларускую калыханку» Васіля Віткі — паэта, які звязаў свой лёс з выхаваннем маладога пакалення.

**М. ДЗМІТРЫЕЎ,**
дырэктар Кармянскай сярэдняй школы, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны настаўнік БССР, кандыдат педагагічных навук.

# ПРАЗ ЖЫЦЦЁ...

### ПРА «КНІГУ СТА ПЕСЕНЬ» К. КІРЭЕНКІ

«КНІГА СТА ПЕСЕНЬ» Кастуся Кірэенкі даўно набыла шырокую вядомасць сярод аматараў беларускай паэзіі. Гэта невыпадкова.

Сто песень пра сябе, сяброў сваіх, Бацькаўшчыну, словам, сто песень пра самае святое — жыццё чалавечае.

Злучыць разам «сто дум», «сто крывінак ад крыві», усе мары, радасці і нягоды, якімі штодня жыве чалавек, — асноўнае жаданне паэта. Вядома, і сам паэт — часцінка глебы народнай — неад'емны ад долі свайго грамадства.

**Сто песень... І нямнога быццам...**
**А як няпроста іх здружыць...**
**І сто разоў наноў радзіцца.**
**І сто разоў наноў пражыць.**

**І без канца знаходзіць словы,**
**Да ўсіх даходзячы прыкмет,**
**І чуць—дакорам і вымовай:**
**Ты—ўсім павінен, ты—паэт.**

Лірычная споведзь у ста песнях — так можна яшчэ назваць гэтую кнігу Кастуся Кірэенкі. Шчырая споведзь душы і сэрца пра ўсё, аб чым думае і непакоіцца аўтар. І яму, паэту, нельга існаваць без уласнага творчага свету. А свет гэты, крэда паэтава — «ісці на свой маяк да «мэты»...

**Раве над морам, б'е віхура,**
**За валам вал, нібы гайня.**
**Ды толькі б як ні выла бура —**
**Жыве па-свойму глыбіня.**

**Там мір святла, там спеюць сілы,**
**Там свой заўжды, глыбінны свет...**
**Вось так і ты для справы мілай**
**Настрой душу сваю, паэт.**

На кожную песню (а іх сто), як кажа сам Кастусь Кірэенка, ёсць «сто адказаў...» Гэтыя адказы заключаюцца ў апошніх радках кожнага верша. Усе песні — нібы «сто жывых паданняў... сто дум», аб якіх паведаць не заўсёды бывае лёгка. Патрэбна спаведаць самае дарагое, патаемнае, што назапасілася ў сэрцы за дзесяткі пражытых гадоў.

Разам з беларускай дэлегацыяй паэту давялося ўдзельнічаць у рабоце сесіі ААН у Нью-Йорку. З гэтай паездкі Кірэенка прывёз цыкл вершаў пад агульнай назвай «Далёка ад дому». Гэтая нізка ўвайшла ў другі раздзел кніжкі. У амерыканскім цыкле паэт звяртае ўвагу на рэзкі сацыяльны кантраст паміж служкамі «жоўтага д'ябла» і простым рабочым людам. Уражваюць чытача вершы «Роўнасць», «Песня негра», «Хіпі». Яны напісаны ў лепшых традыцыях твораў аб загранiцы вялікага трыбуна савецкай літаратуры Уладзіміра Маякоўскага. Асабліва запамінаецца верш «Рэчаньку» пяюць амерыканцы». Яна нібы журботны ўспамін беларусаў-эмігрантаў па сваёй Радзіме:

**«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,**
**Над Брадвеем—жаласць**
**невымоўная.**
**— Ой, рэчанька, рэчанька,**
**Чаму ж ты няпоўная?**

**— А як жа мне поўнай быць,**
**З беражкамі роўнай быць?—**
**«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,**
**І тугі мне іхняй не забыць.**

Чытаючы творы Кастуся Кірэенкі, адчуваеш своеасаблівае ўменне разумець найскладаныя жыццёвыя сітуацыі. Прычым, ён перадае гэта праз багатую гаму паэтычнай душы.

**Мікола ХВЕДАРОВІЧ.**

# ДУХОЎНЫ ЗДАБЫТАК НАРОДА

### ПРА КНІГІ ІВАНА НАВУМЕНКІ «ЯНКА КУПАЛА. ДУХОЎНЫ ВОБЛІК ГЕРОЯ» І «ЯКУБ КОЛАС. ДУХОЎНЫ ВОБЛІК ГЕРОЯ»

ВЫЛУЧЭННЕ КНІГІ на Дзяржаўную прэмію само па сабе сведчыць пра яе маштабнасць і вымагае гаворкі ўсебаковай — пра значэнне яе ў духоўным жыцці народа, уплыў на грамадскую думку рэспублікі, месца ва ўсесаюзнай культуры. Вывучэнне духоўнага вобліку героя ў якасці спецыяльнай задачы даследавання ўпершыню пастаўлена ў беларускім літаратуразнаўстве менавіта ў кнігах І. Навуменкі пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Імкненне аўтара разглядзець героя ва ўсёй разнастайнасці яго праяў, выявіць заканамернасці яго паводзін дало магчымасць выразна паказаць купалаву і коласаву канцэпцыю чалавека.

Народжаны ў адных сацыяльных умовах, «селянін Купалы ў пэўнай меры фігура рамантычная. Ён калі адмаўляе — то ўсё...

Селянін Коласа больш памяркоўны, ураўнаважаны». «Купала пераважна выказваў гераічныя тэндэнцыі народнага жыцця, яго вабіла «высокае», гераічнае, нават выключнае. Стыхія Коласа — паўсядзённае, звычайнае жыццё з буднямі працы, побыту». Іван Навуменка пераканальна паказвае, як прыйшлі да рэвалюцыі, прайшлі праз яе і адчулі яе значэнне гэтыя два, так не падобныя адзін на аднаго «беларускія дзядзькі». Сам творчы метад літаратуразнаўцы з'яўляецца ўкладам у нашу навуку, аўтар не шукае ў творчасці народных паэтаў ілюстрацыі да сацыялагічных тэзісаў, а праз грунтоўны аналіз паэзіі, драматургіі, прозы Я. Купалы і Я. Коласа, псіхалагічны разгляд паводзін і эмоцый герояў прыходзіць да эстэтычнага абгрунтавання сваіх вывадаў. Адкрываючы новыя таямніцы творчага стылю нашых класікаў, праца І. Навуменкі дае магчымасць глыбей скарыстаць іх спадчыну, з'яўляецца, такім чынам, пэўным здабыткам сённяшняй філасофскай думкі ў рэспубліцы.

Разгляд рамантызму Купалы, сувязяў інтанацый і асобных матываў яго творчасці з агульнай плынню еўрапейскага рамантызму, позірк на коласавых герояў у святле сучаснай ім тэорыі «натуральнага чалавека», як і сам напамін пра суадноснасць народнага эпасу Наднямоння і Скандынавіі, дазваляюць аўтару абгрунтаваць сваю ацэнку нацыянальных паэтаў Беларусі, як буйнейшых мастакоў не толькі ўсходнеславянскага, але і еўрапейскага маштабу. Такі вывад, (вядома, з улікам значэння ідэй сацыялістычнай рэвалюцыі для творчасці Купалы і Коласа) дае магчымасць доказна гаварыць пра поспехі літаратуры сацыялістычнага рэалізму, пра росквіт беларускай культуры ў савецкі час. Аргументацыя І. Навуменкі абвяргае спрошчаныя, завужаныя ацэнкі буйнейшых нашых майстроў слова, і гэтым самым нясе добры зарад у ідэалагічнай спрэчцы з публіцыстамі антыкамунізму.

Нельга не пагадзіцца з І. Навуменкам:

«Колас рашуча парваў з традыцыяй папярэдняй і сучаснай яму беларускай літаратуры паказваць селяніна, простага чалавека пакутнікам, асобай, настолькі знявечанай неспрыяльнымі абставінамі жыцця, што яе прыходзіцца толькі шкадаваць.

Міхал — чалавек нармальны... Мы спачуваем Міхалу і яго сям'і не таму, што людзі гэтыя голыя, галодныя, а па другой прычыне, якая датычыць хутчэй іх духоўнага жыцця».

У абедзвюх гэтых кнігах І. Навуменкі вялікая ўвага надаецца выяўленню таго новага, што ў савецкі час узбагаціла селяніна, абудзіла гонар за яго сённяшняе духоўнае жыццё.

**Уладзімір ІСКРЫК.**

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# ЮЛЬЯНУ ПШЫРКОВУ—60



*31 кастрычніка споўніцца 60 год вядомаму беларускаму літаратуразнаўцу і крытыку Юльяну Пшыркову. Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне:*

**«Дарагі Юльян Сяргеевіч!**

**Сардэчна віншуем Вас, вядомага літаратуразнаўцу, вучонага, з днём слаўнага шасцідзесяцігоддзя.**

**Просты сялянскі хлапец з Рагачоўшчыны, Вы пайшлі ў жыццё з добрай марай пазнаць святло навукі і культуры. Атрымаўшы дыплом настаўніка, доўгі час працавалі ў пачатковай школе, а потым у сямігодках. Пасля зноў была вучоба ў Ленінградскім дзяржаўным універсітэце.**

**У часе Вялікай Айчыннай вайны Вы былі салдатам, мужна змагаліся з ворагамі. Вярнуўшыся з фронту, актыўна ўключыліся ў літаратурна-даследчую і педагагічную дзейнасць.**

**Вашаму пяру належаць шматлікія крытычныя артыкулы, даследаванні аб творчасці буйнейшых пісьменнікаў рэспублікі. Такія працы, як «Якуб Колас. Жыццё і творчасць», «Трылогія Я. Коласа «На ростанях», «Беларускае літаратуразнаўства», «Беларуская савецкая проза».**

**20-я — пачатак 30-х гадоў», «Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура», «А. Я. Багдановіч», «Уплыў творчасці А. С. Пушкіна на развіццё беларускай літаратуры» і іншыя, сталі вядомымі і папулярнымі сярод студэнцтва, выкладчыкаў школ і ВНУ.**

**Вашы даследаванні з'яўляюцца грунтоўным укладам у беларускае літаратуразнаўства, вызначаюцца глыбокім разуменнем літаратурна-эстэтычных працэсаў, добрым веданнем марксісцка-ленінскай метадалогіі.**

**Прыемна адзначыць, што Ваша імя шырока вядома нашым школьнікам, для якіх Вы напісалі падручнікі і нарысы па роднай беларускай літаратуры.**

**Жадаем Вам, дарагі Юльян Сяргеевіч, добрага здароўя, бадзёрасці, плённай творчай і грамадскай дзейнасці».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» таксама сардэчна віншуе юбіляра і жадае яму поспехаў.*

**НА АДНОЙ З УСКРАІН нашай сталіцы захавалася яшчэ некалькі ціхіх зялёных вуліц і вулачак, якія нагадваюць звычайную беларускую вёсачку. Тут, на Светлай вуліцы, у зеляніне дрэў стаіць сялянская хата. Хата, як хата, вакол яе яблыні і грушы, а ў садзе просценькая альтанка з пісьмовым сталом і самаробнымі паліцамі для кніг. А яшчэ вышэй, пад самай столлю, тапырацца пучкі розных лекавых траў і кветак.**

**Гэта летняе рабочае месца Юльяна Сяргеевіча Пшыркова — чалавека, улюбёнага ў літаратуру і навуку, родную прыроду і жыццё. Тут, на маляўнічым прыволлі, куды амаль не далятае гарадскі грукат, лёгка дыхаецца, добра думаецца і спакойна пішацца...**

**Хто з беларускіх літаратуразнаўцаў не ведае гэтай хаты і гэтай альтанкі? Кожны, хто трапляў за брамку сядзібы, бачыў нейкае простае сялянскае харaство кветніка, адчуваў цяпло і дабрату сэрца гаспадара, шчырую гасціннасць гаспадыні. Кожны, хто сядзеў за сталом у хаце ці ў альтанцы, ведае, як ад сардэчнага і гаючага слова Юльяна Сяргее-**




## Генадзь БУРАЎКІН



# З новай кнігі

●

Заморскія дэлікатэсы
Не падыходзяць для мяне...
Я выпечан з такога цеста,
Што толькі ў нашай старане.

Яго ўсцынялі ў пушчы сіняй
Пад булькат жвірыстых крыніц.
Яго бязлітасна мясілі
Цяжкія рукі чужаніц.

І разрывалі, распіналі,
І насміхаліся над ім.
І не віно і цукар клалі,
А слёзы з попелам сівым.

Але яно —
усім на дзіва —
Перацярпела здзек і жах
І паднімалася, «хадзіла»,
Расло,
нібыта на дражджах.

І розных вылюдкаў нямала,
Што лезлі к нам ва ўсе вякі,
Аб гэта цеста паламала
Свае хіжацкія клыкі...

### ВЯРТАННЕ ПЕСНІ

*Ансамблю «Песняры»*

Аж хістае сцены палацаў
Гучных воплескаў вадаспад,
Калі хлопцы
«Скрыпяць мае лапці...»
Запяюць на сучасны лад.

Сэрцу радасна і балесна
Ад таго,
як прыходзіш зноў
Ты, мая беларуская песня,
Да сваіх і чужых сыноў.

Дзе тыя выжарыны,
Дзе тыя прашчуры,
Што цябе,
як жаваранка,
Бераглі і лашчылі,
У туманы хуталі,
Грэлі пад пахаю,
Ціхую-ціхуткую,
Верасам прапахлую?..

Як крынічка, праз камні
і наледзі
Ты прабілася з роднай зямлі
І ніякія беды і нелюдзі
Замуціць цябе не змаглі.

Ты ж мая адзіная,
Ты ж мая ніўная,
Ты ж мая радзінная,
Ты ж мая жніўная,
Ты ж мая вясельная,
Ты ж мая вясенняя,
Ты ж мая нязваная,
Ты ж мая нязнаная,
Да грудзей прытуленая —
Матуліна...

Спявайце ж, хлопцы, спявайце!..

●

Вы чуеце —
чаромха расцвіла?
Гайда ў лясы,
у веснавыя нетры!
Раз'ятраныя, халастыя ветры
Гуляюць ад сяла і да сяла.

Чаромхавая бель —
як цёплы снег,
Як незаплямлены вясельны
вэлюм...
І галава ўжо кружыцца
завельмі,
І так салодка вабіць першы
грэх...

Заві сваю адзіную,
заві,
Бяжы да мілых вуснаў
напярэймы,
Ламай чаромхі пахкія бярэмы,
Кідай вясну да ног сваёй любві.

І шчасцем спапялі душу да тла
Рашуча,
безразважна
і чароўна...
Ах, што ты робіш,
горкая чаромха!
Навошта гэтак рана расцвіла?..

## Ніна МАЦЯШ



### АДЛІГА

Перапацелі шыбы, ўчора
шызыя,
Пацінькваюць цяжкія кроплі
зрэдку.
З чаго ж ты, сэрца, радасцю
пранізана?
Я толькі ў маі знаю цябе гэткім!

О, сэрца, ты такое рызыкоўнае:
У студзені адліга—
не прадвесне.
Табе ж хапае промня
выпадковага,
Каб ашукацца
і—каб уваскрэснуць.

### ГАЛІНКА ПЛЫВУНУ

Двайныя рамы ўстаўляе хата.
А каб святлей было чакаць
вясну,
На падаконнік, высцелены
ватай,
Кладзе галінкі плывуну.

Душа мая, і ты даўно прызнала
Прыход зімы. Але ў тваім акне
Галінка плывуну яшчэ не звяла
І веснавее мне.

### І ЧЫЯСЬЦІ ЎСМЕШКА

*З Поля ЭЛЮАРА*

Абсалютнага мораку не бывае
ніколі.
Вечна дзесь існуе, раз я гэта
кажу,
Раз я гэта сцвярджаю,
За любою тугой—раскрытае
насцеж акно,
Азоранае акно.

Вечна дзесь існуе чыясьці мара
бяссонная,
Прага нешта зробіць, голад
каб наталіць,
Чыёсьці чулае сэрца,
Чыясь працягнутая рука,
шчырая рука,
Чыесьці ўважлівыя вочы,
Чыёсь жыццё, гатовае
раздзяліць іншае жыццё.

віча весялей і спакойней рабілася на душы, прыходзіла жаданне працаваць і адстойваць свае перакананні і погляды.

Доктар філалагічных навук прафесар Юльян Сяргеевіч Пшыркоў — чалавек незвычайна сціплы і просты, добразычлівы і патрабавальны. Ён умее падтрымаць, падбадзёрыць, непрыкметна паправіць і падказаць тэму, зацікавіць навінкаю, якая толькі з'явілася ў «Полымі» ці іншым часопісе. Нездарма ў гэтага чалавека ёсць столькі вучняў і сяброў, паслядоўнікаў і прыхільнікаў. Яго школу прайшлі дзесяткі навукоўцаў, якія цяпер працуюць у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, ва універсітэтах і педагагічных інстытутах рэспублікі. У аднаго ён быў навуковым кіраўніком кандыдацкай, у другога — апанентам, у трэцяга— рэдактарам ці рэцэнзентам кнігі, інцы проста раіўся з ім сваёй задумай ці прасіў пачытаць рукапіс. І заўсёды ўсе ведалі, што Юльян Сяргеевіч дапаможа, проста і шчыра выкажа сваю думку, самы суровы прысуд вынясе з такім чалавечым тактам і аргументацыяй, што не будзе на яго ніякай крыўды.

Я ганаруся тым, што з'яўляюся яго вучнем. Мне пашанцавала пазнаёміцца з Юльянам Сяргеевічам чвэрць веку таму назад, калі ён чытаў курс лекцый пра Якуба Коласа для студэнтаў-завочнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Слухачамі былі пераважна настаўнікі — выкладчыкі роднай літаратуры. Таму паміж аўдыторыяй і лектарам усталявалася нейкая асаблівая атмасфера даверу, шчырасці і ўзаемаразумення. У часе перапынку ці пасля лекцый доўга ішла размова і спрэчкі. Мы, студэнты-завочнікі, з вялікай радасцю і прыхільнасцю сустракалі і праводзілі Юльяна Сяргеевіча.

Гаворка ішла не толькі пра літаратуру, але і пра перажытае на нялёгкіх франтавых дарогах, пра Нясвіж (там тады жыла сям'я Пшыркова). Сярод літаратурных тэм у цэнтры была пераважна адна—Якуб Колас. І гэта не выпадкова. Пазней я даведаўся, што Юльян Сяргеевіч яшчэ ў 1940 годзе на старонках часопіса «Полымя рэвалюцыі» выступіў са смелым і змястоўным артыкулам пра «Новую зямлю» Я. Коласа. Пасля ў цікавых даследаваннях творчасці Коласа я сустрэў развіццё многіх думак, якія выказваў Юльян Сяргеевіч у гутарцы са студэнтамі і на лекцыях. Цяпер Ю. С. Пшыркоў—адзін з прызнаных і аўтарытэтных старэйшын літаратуразнаўчага цэху, які займаецца вывучэннем і выданнем спадчыны Якуба Коласа. Нядаўна ім закончана вялікая праца «Эпас рэвалюцыі», прысвечаная таксама аўтару «Новай зямлі».

Ёсць яшчэ адна дзялянка беларускай літаратуразнаўчай навукі, якая цесна звязана з імем і дзейнасцю Ю. С. Пшыркова. Маецца на ўвазе беларуская тэксталогія. Пад кіраўніцтвам Юльяна Сяргеевіча і пры яго непасрэдным удзеле складаліся, рыхтаваліся і выдаваліся зборы твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Кузьмы Чорнага. Упершыню зроблена вялікая і адказная справа па ўдакладненні і выверцы тэкстаў беларускай класікі.

За шэсцьдзесят год пройдзена шмат далёкіх і блізкіх дарог, многае зроблена таленавітым вучоным для літаратуры і навукі. Няхай жа і далей будуць новыя манаграфіі і артыкулы, няхай цвітуць вяргіні ля ціхай альтанкі і свеціцца ласкавая ўсмешка працавітага і добрага чалавека!

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ПАЭЗІЯ ПАЛЕСКАГА КРАЮ

Гомельскія мастакі паказалі свае творы, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР. Выстаўка— творчая справаздача абласной арганізацыі Саюза мастакоў БССР — дае ўяўленне пра напрамкі пошукаў жывапісцаў, скульптараў, графікаў Гомельшчыны.

Край палескі—край вялікіх пераўтварэнняў. Сваю новую карціну-пейзаж Я. Пакаташкін назваў «Маё Палессе». Назва адпавядае аўтарскай задуме адлюстраваць змены на тутэйшай зямлі за апошнія гады. Перад гледачом—панарамны краявід: шырокія палеткі, «абжытая» шаша імкне ўдалячынь... Акцэнт зроблены на нафтавыя вышкі.

Індустрыяльны матыў у пейзажы «Рэчыцкі край» В. Казачэнкі: тут зноў падкрэсліваюцца самыя істотныя перамены ў развіцці сённяшняй Гомельшчыны—стварэнне нафтавай прамысловасці.

Паэтычная работа М. Казакевіча «Вясна на Гомельшчыне». Разам з мастаком любуешся ціхім вечарам, прыгожаю вёскай, адмысловымі фарбамі неба. У пейзажы выразны рытмічны лад, заснаваны на плаўных лініях: пераклікаюцца дыск сонца, стажкі сена з першага ўкосу, асветленыя промнямі вечаровага сонца, яблыні. І сярод гэтай прыгажосці ўрачыста выглядае вёска, якая адпачывае пасля працоўнага дня.

Такі ж паэтычны і другі пейзаж М. Казакевіча—«Змярканне». Тут «ціхі» матыў і «ціхія» фарбы ствараюць настрой задушэўнасці.

Прываблiваюць лірычныя пейзажы заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Б. Звінагродскага, мастакоў Д. Алейніка, Р. Ландарскага, Ф. Махаўцова, У. Кароткага.

Прыемна адзначыць, што за апошнія гады ў работах маладога мастака У. Цімафеева жывапіс стаў больш тонкі і больш змястоўны.

Аналіз выстаўкі твораў гомельскіх мастакоў мы пачалі не выпадкова з пейзажнага жанру. Тут —найбольшыя ўдачы, хоць і не ўсе пейзажы выкананы на дастаткова прафесійным узроўні (асабліва гэта датычыцца работ маладых мастакоў). У іншых жа жанрах гомельскія мастакі, на наш погляд, страцілі пазіцыі, заваяваныя ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў. Тэматычная карціна, партрэт у іх творчасці змізарнелі.

Мала на выстаўцы работ, прысвечаных значным падзеям нашай гісторыі і нашай сучаснасці. Адзіная карціна А. Васільева «Зямля—сялянам»—пра часы калектывізацыі — на ўзроўні эцюда.

Да героікі Вялікай Айчыннай вайны звярнуўся толькі М. Палянкоў. Ён напісаў палатно «У хвіліны зацішша». Паміж баямі салдат смакуе бульбу, спечаную на вуголлі. Задумаўся баец аб родным доме, аб родных палетках. Засумаваў па мірнай працы хлебароба. Але і сам жывапісец прызнае, што над карцінай яшчэ трэба працаваць, каб яна займела свой голас.

Мастакі Гомельшчыны зусім абышлі і наш сённяшні дзень, калі не лічыць індустрыяльных пейзажаў Я. Пакаташкіна і В. Казачэнкі.

Вядома, мастак выбірае тэму сам. Але выбраць яе і здзейсніць ён здолее толькі тады, калі ўдумліва паставіцца да жыцця.

Творчы калектыў Гомельскай абласной арганізацыі мастакоў БССР вялікі і працаздольны. Ад яго мы мусім чакаць сур'ёзных здзяйсненняў.

**А. ШНЫПАРКОЎ.**

Гомель.

## У рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва»

*Усім арганізацыям і сябрам-таварышам за віншаванне з прысваеннем мне звання Героя Сацыялістычнай Працы — вялікае дзякуй!*

**Пятрусь БРОЎКА.**

# З ЛЕГЕНДЫ — НА ЭКРАН

М. ПРАШКОВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

Фільм «МАГІЛА ЛЬВА», які нядаўна выйшаў на экраны (сцэнарыст Ю. Лакербай, рэжысёр В. Рубінчык, аператар Ю. Марухін), рабіўся па матывах легенды пра ўзнікненне Магілёва. Сама легенда яркая, каларытная, але вельмі скупая на факты, імёны, увогуле на звесткі гістарычнага характару. З яе мы можам даведацца не так ужо шмат.

**...Калісьці ў даўнія часы недзе на беразе Дняпра жыў прыгожы і добры душою сялянскі хлопец Машэка. Ён моцна пакахаў сваю аднавяскоўку. Здарылася так, што ў той час, як Машэкі не было ў вёсцы, яго дзяўчыну заўважыў баярын, захапіўся яе прыгажосцю і сілком забраў да сябе, у палац. Машэка ад гора стаў разбойнікам, нападаў спачатку толькі на багатых, а пасля забіваў усіх без разбору, наводзіў жах на наваколле.**

**Аднойчы Машэка выпадкова напаў на карэту, у якой ехаў баярын з яго былой каханай. Ён забівае баярына, а дзяўчыну забірае да сябе ў пушчу. Але дзяўчына, якая прывыкла да жыцця ў палацы, не магла дараваць Машэку смерці баярына. Карыстаючыся тым, што Машэка заснуў, яна зарэзала яго. Усё наваколле радавалася гэтаму, а магілу Машэкі на гары над Дняпром назвалі Магілай Льва. Пазней на гэтым месцы і ўзнік Магілёў.**

Легенда вельмі «сюжэтная», яна, як кажуць, сама просіцца ў сцэнарый або драму. Адказаць на пытанне, які час адлюстраваны ў легендзе, немагчыма. 12—14 стагоддзі — кожнае з іх з поўнай падставай можна назваць часам, калі мог жыць легендарны Машэка. А 300 гадоў прамежак досыць значны, і што было характэрна, напрыклад, для 12 стагоддзя, тое ўжо можа быць анахранізмам для 14.

На сённяшні дзень мы ведаем тры творы па матывах легенды: паэму Я. Купалы, п'есы Е. Міровіча і В. Вольскага. Больш строга трымаўся духу легенды Купала. Яго Машэка — бунтар супраць несправядлівасці, а пазней страшны разбойнік. Заўважым, што ў паэме адсутнічаюць бытавыя рэаліі, твор рамантычны, даўніна паказана з пэўнай праекцыяй на сучаснасць. Па-мастацку ярка раскрыў Янка Купала трагізм лёсу Машэкі.

Заслугоўвае добрага слова п'еса Е. Міровіча «Машэка». Аўтар, абапіраючыся на легенду, уводзіць у твор мноства персанажаў, насычае дзею песнямі і танцамі. У п'есе В. Вольскага багата выкарыстаны фальклорныя паданні пра Машэку і яго паплечнікаў.

**За кім жа пайшоў сцэнарыст фільма «Магіла льва»? За легендай ці за мастацкімі творамі пра Машэку? Ён выбраў свой уласны шлях, хоць адчуваецца, што Ю. Лакербай вывучыў літаратуру пра Машэку. Выбіралася ім найбольш прыдатнае да сцэнарнай пабудовы твора. Машэка ў фільме значна бліжэй да Машэкі Міровіча і Вольскага, чым да легендарнага або купалаўскага. Ён не разбойнік-адзіночка, а, калі можна так сказаць, калектывіст, узначальвае вялікую групу такіх жа пакрыўджаных людзей, як і ён сам.**

**Ці правільна зрабіў сцэнарыст, адступіўшы ад легенды? Думаецца, што такое адступленне, па-першае, дыктавалася кінематаграфічнымі меркаваннямі. Па-другое, аўтар імкнуўся шырэй паказаць народны рух, класавыя супярэчнасці той далёкай эпохі. Так, напрыклад, сцэнарый дае магчымасць паказаць узаемаадносіны паміж князем і сялянамі, паўней раскрыць збіральны вобраз народа.**

У фільме, як і ў літаратурных творах пра Машэку, нельга хоць бы ў межах стагоддзя суаднесці падзеі з рэальнай гісторыяй Беларусі. Зрабіць гэта, бадай, што немагчыма. Тым не менш, бытавыя рэаліі павінны як мага блізка адпавядаць гісторыі. У фільме, на жаль, сустракаюцца недакладнасці, пралікі ў гэтым напрамку.

Пачнем з хваробы і смерці бацькі Машэкі. Усе абрады тут яўна паганскія, далей жа ў фільме ўсе героі паказаны звычайнымі хрысціянамі, хоць яны часам і звяртаюцца да сіл прыроды. Нам могуць запярэчыць, што ўвядзенне хрысціянства было справай доўгага часу. Бясспрэчна, так. Але ж падзеі ў легендзе ды і ў фільме ніяк нельга аднесці глыбей за 12 стагоддзе, хрысціянства было прынята яшчэ ў 10 стагоддзі. Зразумела, паганскія звычаі, абрады, доўга яшчэ бытавалі ў асяроддзі простага люду, асабліва ў глухіх мясцовасцях. Але гэтыя звычаі праяўляліся ў іншым: варажбе, замовах, верай у добрыя і злыя духі і г. д. Што датычыцца пахавальных і хрысцінных абрадаў, то яны ўкараніліся ў звычай нашых продкаў адносна хутка, дзякуючы суроваму ганенню царквы і свецкіх улад на тых, хто адкрыта прытрымліваўся паганскіх абрадаў. Таму, застаючыся ў душы паганымі, прасталюдзіны хрысцілі дзяцей, спраўлялі пахаванні на хрысціянскім рытуале. Таму пахаванне бацькі Машэкі не звязана арганічна з наступнымі падзеямі, з іншымі народнымі абрадамі, якія сустракаюцца ў фільме.

Хворы бацька Машэкі ляжыць спавіты вяроўкамі. Машэка гаворыць над ім замову, робіць адпаведны рытуал. Пагодзімся, што такі спосаб лячэння сапраўды існаваў. Тут няма нічога, што магло б супярэчыць гістарычнай праўдзе. Супярэчнасць я бачу ў іншым. Наўрад ці мог рабіць замову над бацькам сын. Такое лячэнне было справай чараўнікоў ці проста людзей староніх, састарэлых, якія ведалі замовы.

Пахаванне бацькі Машэкі таксама паганскае: для ахвяры нясуць звязаную авечку, старога збіраюцца спальваць. І тут пастаноўшчыкі фільма адышлі ад праўды, бо ў нашых продкаў рытуал спальвання быў распаўсюджаны вельмі мала, ды і то на больш раннім этапе (гл. «Гісторыя БССР», том I, Мінск, 1972, стар. 71—75). І гэты эпізод на экране выглядае, як даніна даволі таннай «экзатычнасці», якая не мае пад сабой рэальнай глебы.

Такім чынам, першая сцэна «павісла» ў паветры, засталася самаізаляванай. Сур'ёзны пралік сцэнарыста і рэжысёра!

**Дарэчы, мне ўяўляецца не зусім праўдападобным і ўзрост бацькі Машэкі. Мяркуючы па ўсім, Машэку ў час канфлікту з князем было прыкладна 24—26 гадоў. Бацька яго глядзіцца з экрана чалавекам, якому ўжо даўно за 80. Відаць, для большага праўдападабенства варта было б выканаўцу ролі старога Машэкі, ну, хоць бы на гадоў дваццаць «падмаладзіць».**

У фільме не абыдзены этнаграфічны бок жыцця нашых продкаў. Але наколькі гэтыя этнаграфічныя сцэны суадносяцца з тымі ўяўленнямі пра звычаі і вераванні нашых продкаў, якія ў нас ужо склаліся? Шчыра кажучы, яны для мяне, як гледача, былі нечаканымі.

Сама па сабе прыгожая сцэна варажбы, калі дзяўчаты ходзяць з факеламі па лузе, загортваюцца ў палатно, што, як я зразумеў, сімвалізуе залежнасць чалавека ад лёсу. Але мы хутчэй чакалі б на Купалле вогнішча, праз якое скачуць хлопцы і дзяўчаты. Чакалі б пошукаў папараці-кветкі, пускання вянкоў па вадзе і інш. Добрая сама па сабе сцэна не звязваецца ў маім уяўленні з тымі звычаямі і абрадамі нашых продкаў, пра якія я ведаю.

Больш пераканальнай выглядае сцэна скамарохаў на вяселлі князя (хоць, як пасля высветлілася, скамарохі гэтыя не сапраўдныя). Тут мы бачым і дасціпны гумар, і алегарычныя адказы скамарохаў на пытанні... Гэты момант успрымаецца як рэальнае адлюстраванне тагачаснай рэчаіснасці.

Добра глядзіцца і сцэна сустрэчы Машэкі і Любавы ў трыснягах, але чаму гэта яны сустракаюцца менавіта ў вадзе, у нейкай затоцы, а, скажам, не ў лесе, ці на сухім лузе?..

**Але ў пераважнай большасці эпізодаў этнаграфічна-бытавы характар жыцця нашых продкаў у фільме, па сутнасці, застаўся не раскрытым. А тут жа можна было дасягнуць многага, напрыклад, разгарнуць у маляўнічае відовішча Купалле, даць сцэны жніва, гукання вясны і г. д. Паўсядзённае жыццё народа, яго праца, клопаты, інтарэсы, тагачасны сялянскі побыт засталіся па-за ўвагай сцэнарыста і рэжысёра (адзінае выключэнне складае сцэна працы Машэкі ў кузні).**

**Вельмі мала месца адведзена ў фільме Дняпру-Славуцічу. А ён мог стаць адным з галоўных «герояў». Нават тыя два эпізоды, якія непасрэдна звязаны з Дняпром (пагоня за Машэкам і спальванне стругаў) зняты як бы мімаходзь, бо ўвага гледача акцэнтуецца на другарадных дэталях. Магчымасць даць паэтычны вобраз рачной стыхіі не выкарыстана.**

У той жа час зашмат доўга трымаюцца ў «аб'ектыве» камеры замак і яго жыхары. Я не хачу сказаць, што гэтыя сцэны не глядзяцца, што яны супярэчаць гістарычнай праўдзе. Справа ў іншым: за імі губляюцца нават тыя нешматлікія эпізоды, дзе можна ўбачыць просты люд у дзеі.

Многа ўвагі ўдзяляецца аўтарамі фільма ўзаемаадносінам князёў Усяслава і Дзімітрыя, паказу нянавісці Дзімітрыя да Усяслава, былой каханкі Усяслава да Любавы... Паказваць гэта трэба, але больш скупымі штрыхамі, засяродзіўшы асноўную ўвагу на ўзаемаадносінах замка з вёскай. У фільме яны атрымаліся хоць часам і эфектнымі, але, па сутнасці, бляклымі. Напрыклад, Машэка кідае гордыя словы аб тым, што ён вольны. З гэтага можна зрабіць вывад, што ён незалежны ад князя, што ён асабіста вольны. Але чаму тады князь сілком забірае яго ў двор? Калі вёска і не належала яму, князю, то чаму ён беззаказна яе спальвае? Кожны больш-менш разумны гаспадар і кемлівы чалавек (а ў фільме князь паказаны менавіта такім), не стаў бы без прычыны спустошаць свае ўладанні. Стрыгчы авечак, але не здзіраць з іх шкуру, бо другі раз не настрыжэш — так рабілі разумныя ўладальнікі. Знішчэнне князем вёскі ніяк немагчыма растлумачыць, тым больш, што і спальваць яе не было ніякай прычыны. Узаемаадносіны двара з вёскай, як сацыяльны аспект фільма, пазбаўлены па-мастацку выразнай аргументацыі.

**Вельмі дзіўная і незразумелая назва беларускай вёскі — «Трэдзьякова рошча». Невядома, чаму «рошча», калі ў беларусаў ёсць гай. Няўжо нельга было знайсці звычайную назву?**

**Незразумела, хто такі князь Дзімітрый? Ці ён толькі аслеплены нянавісцю да Усяслава, ці да ўсяго гэтага ён яшчэ і юродзівы? У фільме гэтыя рысы спалучаюцца. Па сваіх здольнасцях ён далёкі ад Усяслава. Калі Усяслаў па-свойму сумленны (паядынак з Машэкам), мужны і храбры, то Дзімітрый палахлівы і подлы чалавек, які ўмее толькі нацкоўваць аднаго на другога. Такім спосабам ён імкнецца знішчыць і князя Усяслава. Дзімітрый нікчэмны інтрыган, славалюбец... Ці ён хворы? Выглядае ён на экране і такім, і гэткім...**

Нарэшце, скажам і пра ўзаемаадносіны Машэкі з Любавай. Гэта ж тая «кінематаграфічная ізюмінка», якую заўсёды ў фільмах на гістарычную тэму «ўціскаюць» у сюжэт. Паводле легенды і яе пазнейшых літаратурных інтэрпрэтацый Машэка гіне ад рукі каханай. У фільме ж ён гіне ў паядынку з князем. Любава, жывучы ў замку, увесь час думае пра Машэку, спачувае яму. Які сэнс у такой замене?

Шчыра кажучы, калі глядзіш фільм, з'яўляецца такое ўражанне, нібы галоўным клопатам Ю. Лакербая і В. Рубінчыка было імкненне

---

# ПАД ЧЫРВОНЫЯ СЦЯГІ СТАНОВЯЦЦА ЎНУКІ



Мабыць, многія, паглядзеўшы на гэты здымак, пазнаюць на ім Марыю Барысаўну Осіпаву. Яна ў страшны і цяжкі 43-ці была адной з тых, хто прывёў у выкананне смяротны прысуд фашысцкаму гаўляйтэру Кубэ. Адбылося гэта ў той час, калі Мінск кішма кішэў нямецкімі карнікамі, калі нават за адзін касы позірк на гітлераўца можна было пайсці на «той свет...»

Савецкія людзі змагаліся з акупантам бязлітасна. Іх подзвіг адлюстроўваюць шматлікія літаратурныя, публіцыстычныя, мемуарныя творы, выдадзеныя ў пасляваенны час. Даследуе векапомныя старонкі гісторыі і кінамастацтва. Асабліва каштоўныя творчыя пошукі вядуць дакументалісты. Яны, па сутнасці, аднаўляюць на экране тое, што было ў рэчаіснасці.

Большасць дакументальных фільмаў, прысвечаных барацьбе партызан і падпольшчыкаў, мае кароткі метраж. Часцей за ўсё гэта дзве, нават адна частка, а гэта дваццаць або дзесяць хвілін экраннага часу. Але сярод даробку ў галіне дакументальнага жанру ёсць творы высокага ідэйна-мастацкага гучання. Напрыклад, сцэнарыст А. Вялюгін і рэжысёр І. Вейняровіч у шэсцьдзесят пятым годзе зрабілі лірычна - пранікнёную стужку «Балада аб маці». На два гады раней А. Бялевіч з Ул. Шэлегам усхвалявана расказалі пра подзвігі бацькі Міная. Мужнасці юных змагароў супраць акупантаў, піянерам, якія са зброяй у руках станавіліся ў адзін рад з дарослымі, беларускія дакументалісты прысвяцілі не адзін фільм, — «У шаснаццаць хлапечых гадоў» (аўтары Э. Мілова і С. Сплашноў), «Пакараны смерцю ў 41-м» (аўтары В. Марозаў і В. Чацвярыкоў), «Марат Казей» (М. Гарулёў і С. Прошын)... Мастацкі ўзровень гэтых твораў неаднолькавы. Ёсць сярод іх больш і менш удалыя. Калі даводзіцца знаёміцца з імі, робячы нібы рэтраспектыўны агляд дакументальных кароткаметражак на пэўную тэму, успрымаеш гэта як старонкі кінематаграфічнага летапісу.

«Клятва на ўсё жыццё», — новы фільм, зняты па сцэнарыі В. Марозава і В. Шаталава. З яго і ўзяты кадр, надрукаваны на гэтай старонцы газеты.

Адразу зазначым, што пра сам подзвіг Марыі Осіпавай экран гаворыць вельмі стрымана. Увага гледача засяроджана на вытоках патрыятычнага подзвігу гераіні і яе паплечнікаў.

Кампазіцыйна стужка будуецца так, што кінематаграфісты то расказваюць пра сённяшні дзень, то паглыбляюцца ў нядаўняе мінулае, робяць экскурс у дваццатыя і трыццатыя гады, аднаўляюць старонкі станаўлення Савецкай улады. Надзейным памочнікам партыі і камсамола і тады была наша «басаногая» піянерыя. Нельга без хвалявання глядзець кінадакументы аб тым, як юныя ленінцы змагаліся з рэлігійным дурманам, дапамагалі будаваць калектыўную гаспадарку на вёсцы, вучылі (самі яшчэ вучні пачатковай і сярэдняй школы) бацькоў пісаць і чытаць...

Аўтары фільма ствараюць абагульнены вобраз савецкага піянера. І, разам з тым, кожны кадр паасобку мае рысы непаўторнай канкрэтнасці.

Іканаграфічныя кадры ў спалучэнні з выразным дыктарскім тэкстам і жывымі ўспамінамі самой гераіні фільма даюць шырокае ўяўленне аб тым, «як гартавалася сталь» піянерскага племені. Маючы ў сваім распараджэнні не надта багаты выяўленчы матэрыял, дакументалісты ярка перадалі атмасферу жыцця і дзейнасці савецкай дзетвары незабыўных дваццатых і трыццатых гадоў...

Дарэчы, аб выяўленчых сродках. Кінадакументалісты на гэты раз адшукалі каштоўныя фільматэчныя кадры. Яны ўспрымаюцца як раней намі нідзе не бачаныя, мабыць, яшчэ і таму, што рэжысёр дынамічна і ўнутрана сюжэтна зманціраваў стужку.

як мага далей «адысці» ад таго, што ведае пра Машэку чытач гістарычных і літаратурных крыніц. Што ж, жаданне быць арыгінальным — натуральнае для маладых кінематаграфістаў. Ды толькі ў дадзеным выпадку яны дарэмна «перакрэслівалі» легенду і давалі сваю трактоўку вобразу Любавы. Тое, што Машэка гіне ад рукі каханай, вытрымана ў народным духу паданняў і песень сівой мінуўшчыны. Мадэрнізацыя тут зусім не патрэбна. А яна, кінематаграфічная мадэрнізацыя, зрабіла з Любавы жанчыну, якая можа быць толькі цацкай у руках іншых людзей. Сцэнарыст і рэжысёр чамусьці не заўважылі, што пры такой трактоўцы вобраза замах Любавы на князя выглядае на экране ўнутрана малаапраўданым.

**Відаць, і выбар артыстаў на галоўныя ролі дыктаваўся часамі пагоняй за арыгінальнасцю. Так, на ролю князя Усяслава рэжысёр запрасіў вядомага артыста балета з Масквы М. Ліепу. Дэбют танцоўшчыка ў драматычнай ролі аказаўся ўвогуле ўдалым. Але яго князь зусім чужы духу і сутнасці легенды. Да таго ж ён выклікае больш сімпатыі гледача, чым Машэка (артыст А. Відаў).**

**Фільм глядзяць мільёны. І ніякіх каментарыяў да стужкі не прыкладзеш. Уражанні складаюцца з таго, што эмацыянальна нясе ў залу экран. І тут нельга было парушаць мастацкалагічную сувязь, такую моцную у народных паданнях пра Машэку. А ў «Магіле льва» яна парушаецца часта.**

Ёсць і менш значныя пралікі, але і яны зніжаюць мастацкую вартасць стужкі. Ну, няўжо В. Рубінчык, калі манціраваў фільм, не заўважыў, што дарога на беразе Дняпра, па якой скачуць коннікі, пракладзена... аўтамабільнымі шынамі? Або прыгадаем эпізод у карчме. Адкуль яна ўзялася? Карчма на Беларусі з'явілася значна пазней... Мабыць, і тут кінематаграфісты гналіся за вонкавым эфектам. На эфект разлічаны кадры поля бітвы, пакрытага трупамі. Калі бачыш на экране такія, часамі па-аператарску выразна знятыя кадры (Ю. Марухін і тут быў, як кажуць, на вышыні), зноў і зноў адчуваеш, што аўтарамі часцей кіравала імкненне да самамэтнай арыгінальнасці.

**Рэцэнзенты часта робяць папрок у адрас студыі «Беларусьфільм» за тое, што яна не здымае ў стужках такога плану вядомых і маладых артыстаў беларускай сцэны. І «Магіла льва», на маю думку, траціць па той жа прычыне. Да таго ж і празмерна вольны пераказ мовы, на якой гавораць героі, мовы, якая так зазвяла некалі пад пяром Янкі Купалы, не ўпрыгожвае фільм. Згубілася метафарычнасць, сакавітасць і каларыт, знаёмыя нам па фальклорных узорах. Мо таму, нават удалыя эпізоды і асобныя вобразы (напрыклад, гусляра Андрэя, віжуна Нічыпара, селяніна Хведара), выглядаюць мазаікай у тканіне недастаткова выверанай па думцы стужкі.**

Я прыслухоўваўся да глядзельнай залы і мушу сказаць, што цікавасць да гістарычнага мінулага беларускага народа бярэ верх ва ўражаннях большай часткі публікі. Але гэта не можа і не павінна супакойваць студыю і аўтараў стужкі. Надта значныя творчыя пралікі характарызуюць фільм «Магіла льва».

---

Своеасаблівай кульмінацыяй фільма з'яўляецца эпізод, калі на экране сённяшнія піянеры паўтараюць прысягу на вернасць Радзіме і партыі, словы якой урачыста і ўсхвалявана вымаўляе М. Б. Осіпава. Ды гэта і не можа не ўсхваляваць: сорак пяць гадоў назад маленькая Марылька горда ўскінула руку ў піянерскім салюце!.. І з таго часу ўсё жыццё яе аддадзена ленінскай справе. Гэта і факт біяграфіі пэўнай асобы, і ў кантэксце дадзенага фільма — сімвал.

Праўда, вялікай навізны ў структурнай пабудове фільма В. Шаталаў не знайшоў. Экскурсы ў мінулае, нібы промні, разыходзяцца ад кульмінацыйнага эпізоду, часам набываючы чыста ілюстрацыйнае гучанне. Відаць, рэжысура меркавала, што самі па сабе змястоўныя кадры, знітаваныя ўнутраным сюжэтам больш эмацыянальнага, чым лагічна-паслядоўнага мантажу, нададуць стужцы рысы завершанага твора. Калі ацэньваць фільм «Клятва на ўсё жыццё» па высокіх прафесійных крытэрыях, то трэба сказаць, што ён пакідае ўражанне яркіх эскізаў, сабраных па пэўным сцэнарным плане. Калі б не было такой фрагментарнасці, В. Марозава і В. Шаталава можна было б павіншаваць з поўным поспехам.

І тым не менш, фільм выклікае змястоўны эмацыянальны водгук у сэрцах і аднагодкаў М. Б. Осіпавай, і іх нашчадкаў — сённяшняй піянерыі.

**Алесь МАЦКЕВІЧ.**



# ВЫХАВАННЕ ПРЫГАЖОСЦЮ







АБ МАСТАЦКА-ЭСТЭТЫЧНЫМ выхаванні нашага юнацтва, аб ролі эстэтыкі ў фарміраванні асобы мы зараз гаворым вельмі і вельмі многа. Між тым, яно, гэта выхаванне, яшчэ не заняло належнага месца ў жыцці агульнаадукацыйнай сярэдняй школы — асноўнага звяна навучальна - выхаваўчага комплексу. Ды і далучаць дзіця да прыгожага трэба яшчэ да школы — у сям'і, дзіцячым садзе.

Выхаванне прыгажосцю пачынаецца з акружэння дзіцяці прадметамі, якія адпавядаюць эстэтычным (і утылітарным) нормам. Здавалася б, усё проста. Аднак заглянем, напрыклад, у дзіцячыя сады №№ 126, 103, 210 горада Мінска. Нельга не здзівіцца адсутнасці самага элементарнага з таго, што павінна садзейнічаць развіццю ў дзяцей добрага густу. Старая паношаная мэбля не толькі не адпавядае мастацкім патрабаванням, але і ўся аднаго памеру. Таму даводзіцца ножкі дзіцячых крэсельцаў і столікаў падпілоўваць або падаўжаць, у залежнасці ад патрэбы. Якая ўжо тут эстэтыка!

Добры спадарожнік кожнага дзіцяці — цацка. Менавіта яна першая вучыць яго прыгажосці. Аднак у нашых дзіцячых садах прыгожая цацка амаль не сустракаецца...

Вось і даводзіцца пакуль толькі марыць аб прыгожых і практычных ложках, уманціраваных у сцены; аб зручнай і элегантнай дзіцячай мэблі; аб сталовым посудзе — камплектах талерачак, кубкаў з роспісам на дзіцячую тэматыку; аб дзіцячых коўдрах, ручніках, парцьерах — радасных па колеры, выразных; аб дзіцячых дыванках з казкай; аб цацках — прыгожых, разумных...

Прыходзяць дзеці ў школу — і ўсю работу з імі па мастацкім выхаванні трэба пачынаць практычна з нуля. Але і тут мастацкае выхаванне не пастаўлена на прафесійную аснову. Праўда, нядаўна мы даведаліся аб увядзенні ў гэтым навучальным годзе новых эксперыментальных праграм па выяўленчым мастацтве. Аднак нам здаецца, што эксперыментальная праграма, хоць і з'яўляецца крокам наперад, яшчэ не дае ключа да вырашэння асноўных пытанняў мастацкага выхавання. Эксперымент аб'яўлены... у дзвюх школах рэспублікі і разлічаны да 1980 года! Ці не занадта расцягнуты тэрмін?

Важна, каб ужо сёння, побач з правядзеннем эксперыменту, вялася непасрэдная падрыхтоўка да пераходу на новыя праграмы, вырашалася важнейшае пытанне аб прафесійным выкладанні выяўленчага мастацтва. Нашы агульнаадукацыйныя школы зараз маюць вострую патрэбу ў такіх выкладчыках, у мастацтвазнаўцах і мастаках, якія кваліфікавана ўмелі б раскрыць эстэтычныя вартасці, прыгажосць мастацкага твора. А гэтых выкладчыкаў практычна ніхто не рыхтуе; больш таго, іх падрыхтоўку ніхто не плануе — хоць, згадзіцеся, што для яе патрэбна часу, бадай, нават больш, чым на вышэй памянёны эксперымент. Міністэрства асветы, праўда, збіраецца праводзіць перападрыхтоўку настаўнікаў па гісторыі і літаратуры для выкладання імі выяўленчага мастацтва.

Але, відаць, гэта ўсё ж не выхад са становішча. Нельга за паўгода або год навучыць чалавека разумець мову мастацтва. А гаворка ж ідзе аб тым, каб надаць мастацкаму выхаванню ў школе намнога больш глыбокі сэнс, стварыць перадумовы да раскрыцця творчых магчымасцей асобы, навучыць чалавека выказваць сваю індывідуальнасць, сваё ўласнае стаўленне да жыцця, да твора мастацтва. Няма спецыялістаў — чаму б не адкрыць пры універсітэце і вядучых педінстытутах факультэты з аддзяленнямі музычнага і выяўленчага мастацтва, чаму б не ўвесці спецкурсы і спецсемінары па эстэтыцы на іншых факультэтах, чаму б не стварыць кафедры мастацкага выхавання?

Вернемся, аднак, да размовы пра эксперымент. І вось, у рэспубліцы шукаецца агульнае, так сказаць, фундаментальнае вырашэнне праблемы мастацкага выхавання ў школе — і ў той жа час (як гэта вынікае з інтэрв'ю намесніка міністра асветы Г. Канцавой, гл. «Літаратуру і мастацтва» ад 1 верасня гэтага года) у Міністэрстве асветы схільны лічыць «вельмі перспектыўным» стварэнне пры школах студый па выяўленчым мастацтве на сродкі бацькоў. Але хіба можа студыя, у якой займаюцца толькі жадаючыя, — да таго ж платная — замяніць праграмнае школьнае навучанне?.. Гаворка ж ідзе аб мэтанакіраванай усеагульнай мастацкай адукацыі.

Прапанова эксперыментальнай праграмай факультатыва і студый негрунтоўная яшчэ і таму, што наўрад ці варта разлічваць на актыўнае наведванне імі пазакласных заняткаў. Безумоўна, ад факультатыва адмаўляцца нельга, але ён дасць вынікі толькі пры ўмове пэўнага перагляду вучэбных планаў і праграм сярэдняй школы. Важна знайсці тыя аптымальныя суадносіны гадзін на вывучэнне розных дысцыплін, якія забяспечылі б сапраўды ўсебаковае і гарманічнае фарміраванне асобы.

На нашу думку, ужо зараз, нават пры сучаснай недасканаласці праграм па выяўленчым мастацтве, можна зрабіць многае. Маглі б, напрыклад, атрымаць мастацкую накіраванасць урокі працы. Іменна на іх навучэнцы — калі іх, зразумела, будзе накіроўваць педагог, — могуць адкрываць для сябе прыгажосць у формах прадметаў, вучыцца разумець прыгажосць матэрыялу, яго пластычныя магчымасці. Тады ўрокі працы стануць, па сутнасці, урокамі эстэтычнага выхавання. І дарэмна не распаўсюджваецца вопыт 28-й школы г. Мінска, дзе ўрокі працы — мадэліраванне, пляценне з саломы і бяросты — вядзе мастачка Ларыса Лось, і 5-й школы г. Слуцка, дзе пляценню арнаментальных паяскоў, закладак для кніг, гальштукаў вучыць народная майстрыха Ніна Паўлава. У гэтых школах дзеці з вялікай цікавасцю авалодваюць асновамі дэкаратыўнага мастацтва.

У нас у рэспубліцы, больш як 20 фабрык мастацкіх вырабаў, нямала і мастацкіх майстэрняў. Толькі на ўліку дамоў народнай творчасці лічыцца больш як 6000 народных майстроў і самадзейных мастакоў (керамістаў, разьбяроў па дрэву, майстроў пляцення з лазы і саломы, ручнога ўзорнага ткацтва, вязання карункаў і г. д.). Многія з іх узнагароджаны граматамі, дыпломамі, медалямі ВДНГ СССР, з'яўляюцца лаўрэатамі рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставак. Давайце запросім гэтых майстроў у школу.

Нямалаважнае значэнне для эстэтычнага выхавання мае азнаямленне школьнікаў пры дапамозе друку, радыё, тэлебачання з творчасцю мясцовых майстроў народнага мастацтва, народных мастацкіх промыслаў. А што атрымліваецца ў нас на практыцы?

У Івянцы побач са школай знаходзіцца фабрыка мастацкай керамікі, але мала хто са школьнікаў мае ўяўленне аб гэтым цікавым мастацтве. А івянецкай керамікай любаваліся наведвальнікі выставак не толькі ў нас у Мінску і Маскве, але і ў Францыі, Балгарыі, Фінляндыі, Венгрыі, ЗША.

Што ведаюць выхаванцы Пружанскай школы-інтэрната аб унікальным мастацтве свайго земляка Антона Тарэўскага — майстра чорнаглянцавай керамікі? Не прыйшлі ў школу і майстры старажытных ганчарных цэнтраў Беларусі — сяла Гароднае, горада Дуброўна, сяла Благаўска.

Важную ролю ў мастацкім выхаванні маглі б адыграць школьныя музеі (карцінныя галерэі), куткі народнага мастацтва сяла, якое абслугоўваецца школай. Многае можа быць сабрана ў сёлах у час летніх паходаў па вывучэнню роднага краю, нямала сапраўдных твораў маглі б прынесці школьнікі з дому — работы маці, бацькоў, бабулек... Такая работа вядзецца ў школах Прыбалтыкі, РСФСР. У нас дапамогу ёй маглі б аказаць дамы народнай творчасці, аддзелы Саюза мастакоў БССР.

Нядрэнна, калі б школы, асабліва сельскія, якія маюць месца для размяшчэння экспазіцый і забяспечваюць іх захаванне, атрымалі б з мастацкіх фондаў сапраўдныя, высокамастацкія творы выяўленчага і дэкаратыўна - прыкладнога мастацтва. Самыя лепшыя! Ідэйна-эстэтычнае выхаванне можа ажыццяўляцца толькі на сапраўды мастацкім узроўні. На жаль, не ўсе гэта разумеюць. Бо рэкамендуюць часам у друк і ўстановы Міністэрства асветы сумніцельныя работы некаторых мастакоў - аматараў, якія ніяк нельга аднесці да разраду мастацкіх, для школьных калекцый. Такія работы не могуць выхоўваць эстэтычны густ дзяцей. Прапаганда іх неабгрунтаваная і проста шкодная, прыгажосць павінна быць непадробнай, час навучыцца гэта разумець. Разумеюць жа гэта ў Арменіі, дзе ў Ерэване створана дзіцячая карцінная галерэя, а ў школах Кіравакана, Эчміадзіна, Арташата функцыянуюць музеі выяўленчага мастацтва. Як мы бачым, тут не эксперымент, а разгорнутая планамерная работа. Такая ж сур'ёзная работа па мастацкаму выхаванню праводзіцца ў многіх школах Прыбалтыкі, Малдавіі, РСФСР.

Гэта думка — мастакоўскае выхаванне кожнаму — мае глыбокі сэнс. Культура ж не проста раскошная калекцыя розных твораў, вершаў, карцін, статуй, нот. Яна — арыенцір у любых кантактах чалавека з грамадствам і прыродай, яна ўзбагачае яго розум, фарміруе яго пачуцці, накіроўвае яго волю. Да культуры нельга «далучацца» ў спецыяльна адведзеныя для гэтага гадзіны нядзельнага адпачынку. Яна — увесь чалавек, у сукупнасці яго ідэй, пачуццяў, учынкаў. І не падлягае сумненню, што менавіта школа заклікана выхоўваць у чалавеку імкненне да шматграннасці духоўнага развіцця, да раскрыцця ўсіх яго творчых задаткаў, заклікана зрабіць з падрастаючага пакалення Краіны Саветаў людзей высокай культуры. А для гэтага патрэбны не нясмелыя і разрозненыя эксперыменты, а адзіная і цэльная сістэма мастацка-эстэтычнага выхавання.

**Алег ОЙСТРАХ.**

# НА ПАЧАТКУ ДНЯ

Алесь МАСАРЭНКА



УРЫВАК З НОВАЙ КНІГІ

ПЕРШЫ НА РАБОЧЫ АБ'ЕКТ з'явіўся Яўгеш Цёпік. Зрэшты, раней яго ніхто не называў Яўгешам. А тут, у брыгадзе, усё роўна як згаварыліся: Яўгеш ды Яўгеш. Усе так завуць — нават сам брыгадзір, Сцяпан Рышчанка, Хаця, праўда, не заўсёды: як толькі прыязджае на ўчастак Бурыла — іх прараб, то от тады і Рышчанка заве ўсіх — і Яўгеша таксама — па прозвішчу, як і Бурыла.

Хлопцаў гэта дзівіць. Яны хітравата пераморгваюцца і ўпотай пасміхаюцца: гэта ж брыгадзір перад прарабам стараецца так, каб той, маўляў, думаў, што ён не абы-які брыгадзір, а сур'ёзны, патрабавальны!

Яно так і ёсць — брыгадзір іх што трэба, непарадку не пацерпіць! Але ж і праўда: зусім іншы ён, калі без Бурылы. Ён тады не камандуе, а працуе, як і ўсе, ды яшчэ абавязкова там, дзе цяжэй; бывае, што і курыць з усімі, па чарзе,— гэта калі курыва скончыцца і толькі ў некага аднаго раптам знойдзецца, хоць і пакамечаная, а ўсё ж цыгарэтка!

Не адстае брыгадзір ад сваіх падначаленых і яшчэ ў адным — дужа любіць жарты. Можа таму і патурае часам некаторым жартаўнікам, якіх у брыгадзе не адзін і не два... Ды такія ўжо ўсе, што наўрад ці зроўніцца хто з імі! Асабліва вылучаюцца трое з іх — і ўсе Мішкі: Мішка Гук, Мішка Красноў і Мішка Замухніцкі.

Мішка Гук і Мішка Красноў — электраманцёры-мантажнікі. Працуюць заўсёды разам. Калі верыць Мішку Замухніцкаму, то яны нават дзяўчыну адну ўдвух праводзяць дахаты—і ўсё, каб весялей было!

Мішка Замухніцкі — трактарыст, няблага грае на гармоніку, любіцельскай хромцы. З гармонікам сваім хлопец амаль і не расстаецца ніколі, ён заўсёдна ў яго пад рукамі, стаіць у кабіне трактара ў драўляным, аклееным дэрмацінам, футарале-скрыначцы. Мішка гэты, як ёсць, добры дзяўчур, але ж і адменны танцор-масавік — самадзейны, канечне. Тут ужо нічога не скажаш. Асабліва любіць ён вадзіць «вальц» і «шэйну» — так называе звычайны вальс і вясковую ў дванаццаць кален кадрылю.

Ёсць у брыгадзе яшчэ два Іваны: адзін Цвяткоў, другі —Чарапахін, а потым — Пахом Слізнікаў і Валодзька Малашонак, навічкі.

Іваны таксама, як Мішка Гук і Мішка Красноў, сябруюць адзін з адным. Сышліся яны хутка, і можа нават таму, што і той і другі служылі ў марфлоце і ўмеюць скакаць па-матроску «яблычка». Праўда, першынство ў гэтых скоках трымае Іван Чарапахін. І не дзіва. Ён жа ў свой час удзельнічаў нават у акруговым ансамблі, ды пабыў там, на жаль, не доўга: аказалася, што ў вялікія танцоры яму не выбіцца. Прычына — яго ўласныя цыбачы сорак пятага з нечым памеру ў ступнях. Для танцора такія ногі — тое ж самае, што для музыкі нязграбныя рукі з кручкатымі пальцамі-карацелькамі...

Сваім заліхвацкім «яблычкам» Цвяткоў і Чарапахін яшчэ як чаруюць мясцовых красунь, хаця самыя-самыя з іх, як заўсёды, міла ўсміхаюцца зусім і не Іванам, і нават не зуху-гарманісту, а Мішкам: Гуку і Краснову, ды яшчэ Валодзьку Малашонку, які апошнім часам трымаецца іх, і яго непакорныя кучары, канечне ж, найперш кідаюцца ў вочы...

Іваны, абодва, маюць шафёрскія правы трэцяга класу, хаця машына, аднак, замацавана за Цвятковым. Таму, калі трэба ехаць куды ў раён ці іншы які аддалены пункт, за баранку сядае яе афіцыйны гаспадар — Цвяткоў. А так, у лесе ці там у полі — на лініі, адным словам, на гэтай самай машыне з пад'ёмнай вышкай і прыкузаўнай кабінай-буданчыкам на аднаго чалавека калясіць Чарапахін, а сябра яго з вялікай ахвотай, апрача ўсіх іншых работ, ладкуе яшчэ і грамаадводы да слупоў, прытым робіць усё правільна— як ніхто ў брыгадзе, і гэтак жа правільна зазямляе іх.

Некалі гэтым займаўся Мішка Замухніцкі...

Добрае зазямленне — тое, калі ніз грамаадвода дасягае вільготнага грунту. Ды не так проста бывае ўлетку дакапацца да такога грунту дзе-небудзь на пясчаным узлобку. А загадзя падрыхтаваныя металічныя штыркі з прываранымі да іх драцінамі грамаадвода, як не заганяй у зямлю, — кароткія ў такіх выпадках.

Замухніцкі, аднак, знайшоў выйсце — прыдумаў штучную вільгаць: выкапае зверху наўкол штырка ямінку, крадма ад усіх сыпане туды жменьку, а то і дзве, солі... Пасля зараўняе ямінку, утопча ботамі, вады палье — і парадак.

Брыгадзір, а было што і Бурыла калі, правераць прыборам — зазямленне ёсць. Усё, значыць, правільна. Замухніцкі задаволены: проста, калымна і петавацца не трэба — лёгка!..

А потым неяк усё ж выкрылі яго: ці то падказаў хто брыгадзіру, ці сам, можа, заўважыў... От тады ўжо Замухніцкі пры ўсіх раскопваў тыя свае ямінкі з соллю — і як не плакаў...

З тае пары ён стаў не толькі пабойвацца брыгадзіра, але і недалюбліваць.

Словам, усе хлопцы як хлопцы, а гэты — як падмяніў яго хто: чамадорыцца, трымаецца асобна, глядзіць ваўкавата, асцярожнічае з усімі, і ўсё як бы чакае з боку амаль кожнага аднабрыгадніка падэсці якой... Так-сяк працоўны дзень міне. А вечарам... вечарам Замухніцкага не пазнаць — іншы чалавек, зусім іншы. Ажно не верыцца, што такое можа быць. І праўда, адна крыніца хіба здольная даваць адначасова прэсную і салёную ваду? Канечне ж, не. А тут— неверагоднае нешта.

Рышчанка не без падстаў занепакоены: не пайшлі б толькі следам за Мішкам Замухніцкім астатнія. Пачнуць раптам граць з ім у адну дудку, от тады ўжо ён у іх кампаніі лішні будзе, тады ўжо яму давядзецца надзяваць когці, падпярэзвацца поясам — і коўзацца дзятлам уверхуніз па слупах, а брыгаду ўзначаліць Замухніцкі. Ён верхаводзіць любіць, хоць такое яму ўдаецца пакуль толькі на вясковых вечарынках...

Насцярожваў Рышчанку яшчэ і Пахом Слізнікаў. Ён хоць і пажылы чалавек, Пахом, у гадах, але ж надта нейкі пахмурны — усё роўна як нявылечнай хваробай якой хварэе... Яму, як заўважыў Рышчанка, хлопцы нават заўвагу якую не рашаюцца даць, калі не так што, а не тое, каб пажартаваць з яго, як гэта часта робяць міжсобі. Хлопцы навучаны — аднойчы пажартавалі з навічка, далі яму брыгадную мянушку, а той не прыняў яе і назаўтра ж звольніўся ды яшчэ Бурылу пераняў і ўсё выклаў яму... Цяпер ужо хлопцы пільныя, добранька прыглядаюцца да Пахома, імкнуцца зразумець яго да канца. І яшчэ адно цвёрда ведаюць і перакананы, што той чалавек, які не любіць жартаў — агранічаны, чалавек без сонца ў душы...

З Валодзькам Малашонкам атрымалася ўсё проста — гэты адразу ж уліўся ў брыгаду, стаў, як і ўсе іншыя, нават абавязкі хутка засвоіў. Неўзабаве яго «ахрысцілі» Малодзькам. Кіраваліся той жа самай методай, што і з Цёпікам — памянялі ўсяго толькі адну літару... Пасля абмеркавалі ўсё як след, напісалі свой, брыгадны, «загад», зачыталі ў час абедзеннага перапынку, а тады віншавалі яго, падымалі новага члена брыгады Малодзьку на «ўра»...

Смяяліся ўсе, і толькі Пахом маўчаў, крадма зіркаў на хлопцаў — усё роўна як чакаў, што гэтыя бязвусыя блазнюкі і з яго, старога, раптам гэтак вось уздумаюць насміхацца.

Яўгешу і праўда, вельмі хацелася падказаць Мішкам, каб і Пахома не абмінулі — па традыцыі, калі ўжо так! Ён ужо ўсё прыдумаў нават: Пахома трэба зваць Пачомам, бо, як прыкмеціў Яўгеш, стары любіць часта паўтараць: «Пачом я знаю...»

За пяты месяц працы ў брыгадзе Цёпік прывык да ўсяго, нават і да «Яўгеша», і ўжо, калі дома — маці ці хто іншы — клікалі яго Жэнем або Жэнікам, як раней, то яму смешна рабілася, і тады ён чамусьці пачынаў успамінаць маленства — здавалася, што даўно ўжо тое было, калі ён быў Жэнікам, і што васьмігодку скончыў не два гады назад, а чатыры, а то і болей... Здавалася таксама, што ў брыгадзе ён працуе доўга, і ўжо скора яму — не сёння-заўтра — трэба будзе ісці ў армію. Тады і яго, Яўгеша, будуць праводзіць гэтак жа, як нядаўна праводзілі Лёньку Падабеда — усёй брыгадай; і Надзька яго будзе на гэтых праводзінах сядзець побач з ім — бы на вяселлі ўсё роўна. А Мішкі, як толькі захмялеюць, будуць гарлапаніць «горка» — як і Лёньку Падабеду, бо той таксама быў са сваёй Шурай, і калі нагінаўся і, як бы жартам, цалаваў Шуру, то на яго вастраверхай стрыжанай макушцы бялеў крывенькі сярпок — след ад кусачыкаў, якія незнарок упусціў Мішка Гук, калі сядзеў на перамычцы і мацаваў ізалятар. Калі б гэта ды летам было, а не зімой, то Лёньку дасталося б на бліны, а так ўратавала звычайная шапка-вушанка, купленая ў сельмазе за сем рублёў. Шчаслівая шапка!

Яўгеш прытуліў да слупа свой яшчэ амаль новы веласіпед, зняў з руля пашарпаны — школьны — партфель, дзе былі яму на абед пляшка малака, кавал сала і хлеб, паставіў яго на пясокжаўцяк ля слупа і паглядзеў на гадзіннік. Аказалася, што васемнаццаць кіламетраў дарогі ён адужаў недзе менеи чым за якую гадзіну. Такі вынік яго задаволіў, бо да пачатку работы заставалася яшчэ паўгадзіны.

Яўгеш хацеў быў прысесці на лапіку ўмуражэлага дзёрну, што молада буяў на прасецы, ды раздумаў — гэпнуў на рукі, падняўся на іх, тыкнуў нагамі колькі разоў ўверх патрымаўся хвіліну струной, потым сагнуў ногі ў каленях, каб лепей было трымаць раўнавагу, і пайшоў так па прасецы. Дзе-нідзе траплялiся яму пад рукі разлузнутыя сасновыя шышкі, калолі далоні, і тады ён стараўся пераносіць цяжар цела на тую руку, пад якой не было перашкоды...

Яўгеш скончыў свае дзівацтвы, калі падумаў пра Пахома Слізнікава: маўляў, той прыйшоў ужо і, пэўна ж, стаіць недзе за дрэвам і назірае... І толькі як збяруцца ўсе, то і ён выкаўзнецца затым на вочы. Значыць, Пахом якраз жа можа і бачыў, як Яўгеш хадзіў на руках, і падумаў што-небудзь дрэннае — нездарма ж ён адразу так і ўспомніўся яму...

Яўгеш вось ужо каторы дзень запар прыязджаў раней, чым хто. Летам такая язда — семачкі, як ён любіць казаць. Летам усё гэта за маліну сходзіць, за фіззарадку. А пад восень — там відаць будзе: можа нават павучыць правілы руху ды здасць на правы матацыкліста, а не — купіць сабе мапед. Усё-ткі ж і мапед машына, цягне сам, не трэба круціць нагамі...

Зрывацца з дому Яўгеш не стане, бо жыве толькі ўдваіх з маці, і пакідаць яе не думае. Маці настаўнічае ў Калядзіцкай васьмігодцы, вядзе пачатковыя класы. Жыла яна ўвесь час адна, і адзінота для яе — самыя страшныя пакуты. Яўгеш гэта добра разумее.





На сынавы роспыты пра бацьку, якога ён ніколі не бачыў, Варвара заўсёды адказвала спакойна, роздумна, і ён слухаў маці ўважліва і верыў кожнаму яе слову. «Калі быў той сорак сёмы год, — казала яна. — Даўно, так? Ужо ж во ты, сынок, вырас які, мужчынам стаў... Дай-ка такі час! То, можа, бацька твой, Трахім казлы ўжо задраў за столькі гадоў, памёр ужо, можа. А мы тут яго спамінаем... Хаця не,—часам сумнявалася яна. — З ім такое наўрад ці станецца, — дужа ж быў ён пры целе тады, спраўны і не заморанны. Такія жывуць доўга, не паміраюць. Ха! Ці ж ён зломак, каб паміраць?.. Жыве, нябось, недзе, і можа блізка дзе, а во не прызнаецца... Хаця ён, можа, і не ведае, што ў яго ты ёсць, сын... То і хай жыве сабе, навошта ж ён нам з табою?..»

Яўгеш помніць гэтыя матчыны словы і чамусьці заўсёды, як толькі іх брыгада набліжаецца да якой-небудзь новай вёскі, усё спадзяецца напаткаць свайго бацьку, Трахіма Казярога. Нядаўна ён пачуў ужо, што нібыта ў Гіжэцку ёсць нейкіх аж два Казярогі... І цяпер ён чакае выпадку, каб патрапіць як у той Гіжэцк. Праўда, пакуль гэта немагчыма. А ўжо з Канаплянаў — можна. Там пойдуць разгалінаванні — у Гіжэцк, у Выкрутнае, у Цялёбічы... От тады ён папросіцца ў брыгадзіра, каб паслаў яго ў Гіжэцк і там пастараецца пабачыць тых Казярогаў, гіжэцкіх, пастараецца ў кожнага пабыць, пагаварыць...

Дзень выдаўся на дзіва сонечны — па ўсім відаць, што пачалася новая квадра і цяпер дажджы схлынуць, будзе пагодліва.

Яўгеш зноў глянуў на гадзіннік. Было крыху больш паловы дзевятай. Ды што гэта?.. Яго слых улавіў нейкі невыразны і дужа няроўны гуд дратоў, што звісалі з перамычкі. Яўгеш уважліва агледзеў бліжэйшы слуп, затым перамычку, а тады і на драты кінуў вокам. Здагадаўся адразу: нешта не так тут, нехта пазбродаваў... Якраз і парушэнне заўважыў: быў напяты адзін з дратоў, што спадалі з перамычкі. «Пацанва, пэўна, ці так які ахвотнік... — падумаў ён. — Няўжо наўмысна зрабілі, каб дрот гу-

# МАСТАЦКАЯ СПАДЧЫНА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Гэты цудоўны альбом з партрэтам Францыска Скарыны на супервокладцы бярэш у рукі з пачуццём радасці і —глыбокага смутку. Радуешся, што ён, нарэшце, выйшаў — прыгожы, з густам афармлены, добра скампанаваны. І разам з тым шкада,— заўчасная смерць аўтара ўступнага артыкула гэтага унікальнага выдання, мастака Лявона Баразны не дала яму магчымасці ўбачыць сваю працу.

Яна была яго надзеяй, калі хочаце, марай... Над збіраннем гравюр Ф. Скарыны Л. Баразна працаваў натхнёна, упарта, доўга.

Пра гравюры скарынінскіх выданняў пісалі многія: П. Уладзіміраў, Я. Карскі, У. Стасаў. Найбольшы ўклад у іх вывучэнне ўнёс мастацтвазнаўца Мікола Шчакаціхін.

Усе, хто пісаў пра ксілаграфіі кніжак беларускага першадрукара, у адзін голас адзначалі іх выключныя мастацкія якасці. І гэта не выпадкова.

Выкананыя ў стылі Рэнесансу і готыкі (з яўным пераважаннем рэнесанскіх рысаў), скарынінскія гравюры здзіўляюць рэдкім уменнем аўтара арыгінальна кампанаваць шматфігурныя сцэны, незвычайнай для познагатычнага мастацтва жывасцю і выразнасцю тыпажу, дзівоснаю дасканаласцю абагульненага, нейкага асабліва манументальнага рысунка, сапраўды віртуознай тэхнікай, якая панавала ў перыяд «абразнай» ксілаграфіі.

Буйнейшы рускі крытык У. Стасаў параўноўваў гравюры кніг беларускага першадрукара толькі з венецыянскімі ксілаграфіямі эпохі Рэнесансу. «Тая прыгожасць рысунка, тое майстэрства гравюры, якія на такі кароткі час праблiснулі ў выданнях венецыянскіх і скарынінскіх, ніколі ўжо больш не паўтарыліся ні ў адным выданні царкоўна - славянскага друку на працягу ўсёй другой паловы XVI стагоддзя, усяго XVII і першай паловы XVIII стагоддзя. Але затое і тыя і другія выданні мелі пазней прамы ўплыў на лёс рускай гравюры на дрэве», — рашуча сцвярджаў У. Стасаў.

Нягледзячы на відавочныя мастацкія вартасці і высокую ацэнку гравюр спецыялістамі, да сучаснага моманту ў нашай краіне і за рубяжом не было ні адной поўнай публікацыі скарынінскіх ксілаграфій.

І вось нарэшце падрыхтаваны да выдання Л. Баразной альбом «Гравюры Францыска Скарыны» з'явіўся на прылаўках кніжных магазінаў.

Альбом складаецца з уступнага артыкула, рэпрадукцый, каментарыяў да іх і бібліяграфіі.

У паліграфічных адносінах альбом з'яўляецца ў многім узорным. Зробленыя П. Захарэнкам фотаздымкі гравюр выкананы і рэпрадуцыраваны на даволі добрым узроўні і ў многім набліжаюцца да арыгіналаў. У выданні ўзноўлены не толькі самі гравюры, але і фрагменты лепшых з іх, што дае магчымасць убачыць многія дэталі гравюр, тыпаж, адзенне персанажаў і г. д.

Альбом выдатна, з густам скампанаваны і афармлены мастакамі У. і М. Басалыгамі.

Аднак найбольшую цікавасць і каштоўнасць уяўляе напісаны Л. Баразной уступны артыкул. У ім дадзена агульная ацэнка дзейнасці беларускага першадрукара, зроблены мастацтвазнаўчы аналіз ксілаграфій яго выданняў. Сам прафесійны мастак, даследчык добра разумеў усе тонкасці рысунка, кампазіцыі.

Выключна складанае пытанне аўтарства гравюр скарынінскіх выданяў розныя даследчыкі вырашалі па-рознаму. Важна, аднак, падкрэсліць, што амаль усе даследчыкі не адмаўлялі магчымасці ўдзелу самога Скарыны ў афармленні сваіх кніг. У. Стасаў лічыў, напрыклад, што Скарына сам выканаў гравюру «Сёмуха», П. Уладзіміраў бачыў (і не без падстаў!) у Скарыне аўтара шрыфту, М. Шчакаціхін — аўтара рысункаў да гравюр, кампазіцый.

У той жа час у XIX стагоддзі ўпершыню была выказана думка аб залежнасці скарынінскіх ксілаграфій ад нямецкай школы. П. Уладзіміраў, напрыклад, указвае на нюрнбергскіх друкароў Кабергераў, і нават называе настаўніка Дзюрэра, нюрнбергскага мастака Вольгемута, які зрабіў ілюстрацыі да вядомай «Сусветнай хронікі Шэдэля» (1491).

Між тым, залежнасць гравюр кніг Скарыны ад нямецкай гравюры надта перабольшана. З гравюрамі «Сусветнай хронікі Шэдэля» скарынінскія гравюры не маюць нічога агульнага. Яшчэ даследчык еўрапейскай гравюры Крысталер зусім правільна заўважыў, што «гравюры Шэдэля вельмі наіўныя і даволі безгустоўныя». Гравюры кніг Скарыны, наадварот, поўныя жыцця, свежасці і майстэрства. Гравюры Вольгемута, зробленыя ў канцы XV стагоддзя, належаць гатычнаму мастацтву; скарынінскія гравюры, выкананыя ў пачатку XVI стагоддзя, нясуць у сабе яркія рэнесанскія рысы.

Беларускі першадрукар, які добра ведаў рэнесанскую венецыянскую гравюру (Скарына, як вядома, жыў у Падуі, а Падуя ў той перыяд уваходзіла ў Венецыянскую рэспубліку), не мог звярнуцца за першакрыніцай да паміраючага мастацтва готыкі. Ён не мог вывучаць сухія, пазбаўленыя жыцця ксілаграфіі Вольгемута, калі ў Чэхіі ўжо, безумоўна, ведалі вялікае, сапраўды рэнесанскае мастацтва Дзюрэра і М. Гольбейна. Да таго ж, калі гравюры Скарыны выконваў нямецкі майстар, то адкуль узяўся на іх вызначаны Стасавым славянскі тып твару? Адкуль з'явіліся на іх элементы беларускай этнаграфіі, народнай творчасці, разьбы, арнаменту і г. д. Меў рацыю М. Шчакаціхін, які першы паказаў беспадстаўнасць «нямецкай тэорыі» П. Уладзімірава аб гравюрах Скарыны.

Несумненна, нямецкая, у прыватнасці, нюрнбергская школа аказвала ў той час вядомы ўплыў на развіццё гравюры ў чэшскіх і беларускіх кнігах Скарыны. Аднак уплыў гэты не варта перабольшваць. ва ўсякім выпадку ў Скарыны пакуль што не знойдзена запазычаных у немцаў кампазіцый, фігур, дэталяў гравюр і г. д.

Пераканаўча развянчаўшы «Нямецкую тэорыю» П. Уладзімірава, М. Шчакаціхін выказаў меркаванне (толькі меркаванне!) аб залежнасці гравюр Скарыны ад чэшскай школы. Меркаванне гэтае ў значнай ступені абверг у нашы дні пісьменнік С. Александровіч пасля сваёй паездкі ў Прагу. У нарысе «З майго падарожжа» («Полымя», 1969, № 8) С. Александровіч паказаў, што росквіт чэшскай гравюры пачаўся ў Празе толькі пасля ад'езду адтуль Скарыны.

Скарына, несумненна, валодаў майстэрствам малюнка. Ён вучыўся і многа гадоў пражыў у Італіі, на радзіме Рэнесансу. Яго сучаснікі былі вялікія майстры Высокага Адраджэння: Леанарда да Вінчы, Мікельанджэла, Рафаэль, Тыцыян, Тынтарэта. Беларускі асветнік і гуманіст жыў у эпоху, якая, паводле выразу Ф. Энгельса, мела патрэбу ў тытанах і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, страсці і характары, па шматбаковасці і вучонасці». Тады, пісаў Энгельс, не было амаль ні аднаго вялікага чалавека, які «не паспяваў бы ў некалькіх галінах творчасці.

Зроблены Л. Баразной уважлівы аналіз гравюр у кнігах Скарыны, фактаў яго біяграфіі і дзейнасці пераконвае ў тым, што беларускі асветнік і гуманіст мае прамыя адносіны да мастацкага афармлення сваіх выданняў.

Ніхто з ранейшых даследавальнікаў не адзначыў, што самым важкім доказам таго, што Скарына цудоўна валодаў майстэрствам малюнка, з'яўляецца шрыфт яго кнігі. Узыходзячы да паўустава беларускіх рукапісаў, гэты шрыфт, як даказана, быў спецыяльна зроблены для яго выданняў. П. Уладзіміраў пераканаўча даказаў, што шрыфт кніг Скарыны зроблены па ўзору беларускіх рукапісаў. Наўрад ці можна сумнявацца ў тым, што ў Заходняй Еўропе кірылічны шрыфт для выданняў Скарыны мог быць зроблены толькі па яго ўласных малюнках. Да таго ж, яшчэ акадэмік Карскі заўважыў, што за аснову скарынінскага шрыфту ўзяты рукапісныя літары Полацкага (!) Евангелля XIV стагоддзя. У сваіх падарожжах па Еўропе «сын слаўнага града Полацка», відаць, вазіў з сабой гэты рукапіс і потым выкарыстаў яго для сваіх кніг. Але шрыфт кніг Скарыны — не звычайны шрыфт. На яго адметную прыгажосць і мастацкасць звярнуў увагу яшчэ У. Стасаў. «У Апостале 1525 г. загаловачныя літары, герб Скарыны і манаграма з літарай «Т» выкананы так пяшчотна, так тонка, з такім дзівосным густам, што пераўзыходзяць усё награвіраванае ў падобным жа родзе ў Бібліі»,—пісаў ён.

Зразумела, што такі шрыфт мог стварыць толькі вялікі мастак і ім быў, як сцвярджае Л. Баразна, сам Скарына.

У большасці гравюр на самым відным месцы змешчана скарынінская манаграма — сонца і месяц. Гэта, на думку Л. Баразны, самы высокі доказ таго, што ксілаграфіі маюць непасрэдныя адносіны да асобы Скарыны.

Заслугоўваюць увагі і іншыя факты. Напрыклад, тое, што гравюры зроблены спецыяльна для кніг Скарыны і не паўтараюцца ні ў якім іншым выданні ні да яго, ні пасля. Гравюры пражскіх выданняў Скарыны па рысунку, і, галоўнае, па кампазіцыйных схемах набліжаюцца да гравюр яго віленскіх выданняў. Адсюль не цяжка зрабіць вывад, што аўтар гравюр пераехаў з Прагі ў Вільню. Ці не быў гэтым аўтарам сам Скарына?

Пасля спынення выдавецкай дзейнасці Скарыны (у Празе і Вільні) знікае і мастак яго выданняў. Усе наступныя гравюры толькі старанна капіруюць асобныя дэталі скарынінскіх выданняў.

Яшчэ У. Стасаў звярнуў увагу на тое, што ў скарынінскіх ксілаграфіях дамінуюць славянскія тыпы твараў і адзення. На гэтай падставе ён, як пазней і М. Шчакаціхін, меркаваў, што ў выкананні гравюр, магчыма, прымалі ўдзел чэшскія майстры. Аднак ні адзін з сучасных даследчыкаў чэшскай гравюры не прыпісвае ксілаграфіі выданняў Скарыны чэшскай школе. Тое ж самае трэба сказаць і ў адносінах італьянскіх, нямецкіх і польскіх мастацтвазнаўцаў. Тое, што Скарына валодаў майстэрствам рысунка, пацвярджаецца, як адзначае Л. Баразна, і дакументамі. М. Шчакаціхін звярнуў увагу на некалькі незвычайны тытул, які апрача іншых меў Скарына, — «доктар мастацтваў». Л. Баразна прыводзіць словы Скарыны, змешчаныя ім на 62-й старонцы кнігі «Іісус Сірахаў»: «...пильность его применяет малевание...»

На думку даследавальнікаў ў гэтых словах беларускі першадрукар паўстае перад намі і як мастак.

«Альбом «Гравюры Францыска Скарыны»—толькі спроба сістэматызацыі і аналізу выяўленчай творчасці вялікага беларускага асветніка. І, безумоўна, справа будучага — шырэй і глыбей вывучыць і раскрыць велізарны ўклад Скарыны не толькі ў друкарскую справу, але і ў выяўленчае мастацтва беларускага народа», — піша Л. Баразна ў заключэнні.

Вялікая заслуга аўтара і ў тым, што ён упершыню адкрыў і апублікаваў некалькі раней невядомых нікому гравюр Скарыны.

**В. ШМАТАЎ.**















Вокладкі новых кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»: «Кліча Радопскі бор» Г. Угарава (мастак В. Стасевіч); «Першая восень» М. Кацюшэнкі (мастак В. Кандзер); «Я сам» Ул. Машкова (мастак П. Калінін); «Агеньчык у акне» С. Грахоўскага (мастак М. Бельскі); «Сонечны клубочак» В. Зуёнка (мастак Я. Кулік).

# ДАСЛЕДУЕЦЦА ПУБЛІЦЫСТЫКА КУПАЛЫ

Да нядаўняга часу даследчыкі творчай спадчыны народнага пісьменніка Беларусі Янкі Купалы сваю асноўную ўвагу скіроўвалі на вывучэнне ягонай паэзіі і драматургіі. У той жа час публіцыстычныя артыкулы, паасобныя выступленні па самых надзённых пытаннях нашага жыцця не атрымалі належнай ацэнкі. Прыемна, што цяпер гэты прабел запоўнены — выйшла манаграфічнае даследаванне І. Жыдовіча «Янка Купала —публіцыст».

Аўтар упершыню робіць грунтоўны навуковы аналіз публіцыстычных твораў пісьменніка. Разглядаюцца артыкулы, нататкі, нарысы, карэспандэнцыі, фельетоны, памфлеты, рэцэнзіі.

Нават з назваў паасобных раздзелаў бачыш той шлях, які прайшоў пісьменнік у барацьбе за інтарэсы свайго народа: «За шчасце, за долю», «Па шляху Кастрычніка», «За сацыялістычную культуру», «Услаўленне братняй дружбы», «Роздум пра Радзіму і народ», «У гадзіну суровага выпрабавання».

Ужо ў сваіх ранніх допісах, змешчаных у «Нашай Ніве» ў 1907 годзе, Я. Купала выступае ў абарону настаўнікаў, у якіх узялі падпіску аб нявыездзе, гаворыць аб вострай неабходнасці арганізацыі беларускіх школ для вясковых дзяцей, якія не маглі атрымліваць нават пачатковую адукацыю.

Пад уплывам рэвалюцыі 1905—1907 года ён пачынае больш шырока глядзець на грамадскія з'явы, шмат піша пра бяспраўнае жыццё беларускага народа, востра ставіць пытанні развіцця яго мовы і культуры.

Так, у нататцы «Хто з лесу, а хто к бесу» Я. Купала

І. Жыдовіч «Янка Купала — публіцыст». Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск. 1972.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ПРА ЧАС, ПРА ЧАЛАВЕКА

Свайму новаму раману Іван Мяла даў назву даволі шматзначную—«Раскол». У цэнтры ўвагі аўтара—рэвалюцыйныя падзеі 1918 года на Чарнігаўшчыне, дзе ўкраінцы, беларусы, рускія змагаліся за ўстанаўленне Савецкага ладу. Псіхалогію дзейных асоб вызначае таксама і той факт, што па волі гісторыі менавіта тады яны—сяляне Пячэнікскай воласці апынуліся ў так званай нейтральнай (па Брэсцкім міры) паласе. У пяці вярстах ад Пячэнікаў стаялі немцы, з поўдня пагражалі гайдамакі, у сарака вярстах, ва Унечы, фарміраваўся паўстанцкі, бальшавіцкі атрад Мікалая Шчорса.

Але не толькі гістарычны раскол вызначае вобразны свет рамана. Раскол праходзіць праз сэрцы герояў. Усе мы памятаем незабыўныя маналогі Кандрата Майданнікава, у якіх увасобіліся ў мастацкім слове ваганні сялянства, што ў пакутах і сумненнях ішло да новага жыцця. Можна без перабольшання сказаць, што аўтару «Раскола» ўдалося пасвойму паказаць пакутлівы працэс, раскрыць яго ў святле іншай эстэтычнай задачы. Праўда, часам здаецца, што раман перанасычаны дзеяннем са стратай псіхалагічных момантаў. Аднак пры ўважлівым чытанні няцяжка пераканацца, што рэзкія, а часам і зусім палярныя ваганні сюжэта дазваляюць аўтару ўвасобіць вобраз чалавека, які ўвесь час мітусіцца, шукае сябе і свой свет. Сапраўдным адкрыццём у гэтым плане стаў характар Сігея Кубая. Сігей маладзей за Кандрата Майданнікава гадоў на дзесяць, і на столькі ж ён нявопытней і імпульсіўней за свайго старэйшага сабрата.

Тое, што ў Кандрата стала пакутлівым роздумам, у Сігея бачна ў дзеянні. і зусім не дзіўна, што сёння мы бачым яго ў кампаніі сельскага багацея і тайнага кіраўніка кулацкага бунту Дзяміда Балабы, заўтра — побач са старшынёй рэўкома Міцькам Рудым, паслязаўтра — ён зноў пакорны слуга Дзяміда і гэтак далей.

Сігей жыў як бядняк і загінуў як бядняк — такая аб'ектыўная ісціна вобраза. Але сам асабіста Сігей жыў як раб, і вось гэта рабскае ў Сігею і падобных да яго не здымаецца нават іх гібеллю за справу рэвалюцыі. Сюжэт данага характару вычарпаны, але на парозе іншыя Сігеі, яны доўга і цяжка будуць шукаць сябе. Суб'ектыўна Сігей яшчэ застаўся ў тым напалавіну сляпым становішчы, якое і прымусіла яго кідацца ад аднаго лагера да другога, падаць на калені ў малітоўным экстазе і тут жа падпальваць панскі дом; ісці на небяспечную справу са старшынёй рэўкома і збегчы, трасучыся ад страху, ад свайго цесця — кулака Ермалая Рудога, пакідаючы Міцьку аднаго на пагібель.

«Раскол» — дакладная назва таму, што адбывалася з сялянствам у першыя гады рэвалюцыі. Раскол душы, свядомасці, раскол сям'і, грамадства, урэшце, часу.

У магічнае кола сімвала **раскол** уплятаюцца ўсе характары рамана. Каларытны, супярэчлівы, выпісаны тым жа метадам, што і характар Сігея, вобраз бабкі Параскі, галавы цэлага рода, дзе ў дзівосным клубку пераплёў лёс сына-шахцёра і сына-інтэлігента, зяця-парабка і нявесткі з кулацкай сям'і.

Рэвалюцыя агаліла і завастрыла супярэчнасці, паставіла пытанне не толькі аб матэрыяльным, але і духоўным абнаўленні свету.

Учарашні парабак Яварок, які па-рабску прымаў падачкі з кулацкага стала, толькі сёння ўсвядоміў усю глыбіню свайго прыніжэння.

Аднак аўтар «Раскола» разумее рэвалюцыйны працэс не адназначна. Супярэчлівыя калізіі эпохі ўвасобіліся не толькі ў сялянстве, але і ў саміх носьбітах рэвалюцыйнай місіі.

Рэвалюцыйны матрос Сяргей Кубай, які прыбыў ва Унечу з мандатам Леніна, не менш за свайго брата Сігея ўцягнуты ў раскол часу. Сляпое каханне матроса да княгіні Ліды паставіла яго ў двухсэнсоўнае становішча не толькі ў адносінах да таварышаў, а перш за ўсё да самога сябе. Самагубства Сяргея — лагічны вынік працэсу...

Значнае месца ў кампазіцыі рамана займае вобраз манастыра. Манастыр успрымаецца як жывая істота, цудоўная і прывабная, каварная і двухаблічная, якая абяцае адначасова і выратаванне і пагібель. І, бадай, ніхто з герояў рамана не мае ні гістарычнага, ні чалавечага права знішчыць страшную прыгажосць манастыра, акрамя Сяргея Кубая, бо толькі ён, адзіны, знайшоў у манастыры каханне, ганьбу, а пасля і смерць. Варта сказаць, што і тут аўтар не адступае ад гістарычнай праўды — пры ўсёй сваёй ненавісці да манастыра, сяляне Пячэнікаў успрымаюць яго разбурэнне як нешта містычнае, што выклікае свяшчэнны жах.

І такая ўнутраная мелодыя ўсяго рамана: свет, які раскалоўся, яшчэ не сфармаваўся ў нешта новае і цэлае, яго структуру вызначае не гармонія будучых сацыяльных адносін, а прадчуванне гэтага сінтэзу.

Аднак там, дзе аўтар адступае ад свайго творчага крэда, дзе ён спяшаецца расставіць кропкі над «і», падсцерагаюць яго няўдачы. Няпэўнае, з пункту гледжаня мастацкай логікі, развіццё характару Мікіты Нябабы. Пераўтварэнне яго з легкадумнага палюбоўніка і нахлебніка багатай пані ў бальшавіцкага лазутчыка выклікае недаўменне.

Гэтак жа не вытрыманы і характар брата Мікіты—Васіля. Павярхоўна, знешнімі дэталямі акрэслены Мікалай Шчорс, нічога новага не раскрывае чытачу і прадстаўнік рабочага кантролю Унечы, бальшавік «з лявацкім ухілам», Зарэмба. Аўтар любіць сваіх герояў, але калі-нікалі гэта любоў парушае разумную меру. Наўрад ці ёсць неабходнасць параўноўваць цёмную (але ад гэтага не менш прывабную) Дашку з «богиней Возмездия», або прымяняць у характарыстыцы Сяргея Кубая такія «разумныя» і яўна не адпаведныя яго вобліку словы «тэза», «антытэза».

А вось народныя песні, якія ўдосталь сустракаюцца ў рамане, нікольні не замінаюць імкліваму і катастрафічнаму развіццю дзеяння, а гарманічна ўпісваюцца ў яго мастацкі свет, нязмушана і тактоўна падкрэсліваюць вечнасць жывога жыцця ў народзе, толькі часова расколатага гісторыяй.

Аналагічную ролю нейкай мастацкай процівагі выконваюць і кароткія, але выразныя, рассыпаныя па ўсім рамане, апісанні прыроды. Апісанні гэтыя, як правіла, канкрэтныя і заўсёды звязаны з чалавекам; крэўная сувязь з прыродай вырастае ў непарушны саюз чалавека з роднай зямлёй, Радзімай.

**Галіна ЕГАРЭНКАВА.**

Іван Мяла. «Раскол». Раман. На рускай мове. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1972.

# ВЯСНА КАЛЯ РОДНАЙ КРЫНІЦЫ

З КНІЖКІ ВЕРШАЎ «ЯСА», што ўбачыла свет зусім нядаўна ў выдавецтве «Молодь» у нашым Кіеве, пачынаецца вясна маладога беларускага паэта Васіля Сідарэнкі.

За апошнія гады «Молодь» выдала некалькі кніжак тых паэтаў, якія па розных акалічнасцях (а найчасцей з-за ўласнага палкага жадання) апынуліся ў Кіеве. Спачатку дэбютаваў, а потым падмацаваў свой дэбют другой кніжкай малады балгарскі паэт Захар Іванаў. Потым выйшаў паэтычны зборнік грузінскага паэта Рауля Чылачавы, які прыехаў да нас вывучаць украінскую мову і ўжо зрабіў вельмі многа для абедзвюх культур сваімі таленавітымі перакладамі. В. Сідарэнка — трэці з навабранцаў, прапісаных ва ўкраінскай літаратуры.

Аўтар належыць да пасляваеннага пакалення паэтаў, якое ў асноўным распрацоўвае праблемы свайго часу: нядаўняя вайна з яе жахлівымі вынікамі, рамантыка аднаўлення і будаўніцтва, будні сучаснай Чырвонай Арміі і, вядома, прырода і найглыбейшыя інтымныя сферы. І ўсюды, куды ні кідае вокам паэт, ён заўважае тое, што важкае і характэрнае. Паэт патрабавальны да кожнага радка, да кожнага слова. Нават нямала таго, што з'яўлялася ва ўкраінскай перыёдыцы, ён не ўключыў у першае асобнае выданне.

Васіль Сідарэнка ўмее знайсці ў пабачаным уласнымі вачамі паэзію — адсюль чысты біяграфізм многіх вершаў. Звязаўшы свой лёс з Украінай, ён многа і прыгожа піша пра яе і ў час службы ў арміі, і ў час навучання ў Кіеўскім тэхнікуме радыёэлектронікі. І зараз братняя зямля натхняе яго на паэтычную працу. Але за кожным радком стаіць святая для паэта, цудоўная Беларусь, якая дала яму жыццё і непаўторнае слова. Пішучы пра Крыварожскі басейн, ён радуецца, што там сумленна працуюць магутныя МАЗы. Услаўляючы Букавіну. сваіх новых сяброў, ён адчувае, што «дзвінкостволі букі відгукнуться до білоруських вікових борів». У вершы «Дома» ён прызнаецца сам сабе, што «з постійною треба прopискою бути в рідній моїй стороні». Патрыёт усёй Савецкай краіны, паэт не перастае быць сынам сінявокай Беларусі, што цалкам зразумела і заканамерна.

У зборніку толькі адзін верш з прысвячэннем — «Поетовій правді». Гэта ўшанаванне аднаго з духоўных настаўнікаў паэта, незабыўнага Максіма Рыльскага, які ўважліва ставіўся да першых спроб аўтара. У сваёй творчасці Сідарэнка і працягвае яго манеру пісьма, чыстага і лёгкага, дасканалага ў сваёй прастаце.

Вершы Васіля Сідарэнкі перакладала вялікая група паэтаў. З аднаго боку, такая шырокая зацікаўленасць яго творчасцю прыемная. Але разам з тым яна і нарадзіла некаторы разнабой — бо вядома, што пры перакладзе абавязкова адчуваюцца манера перакладчыка, яго ўплыў. Таму і ў зборніку відавочна парушэнне маналітнасці аўтарскай манеры. Не задавальняюць некаторыя штучныя вобразы, яўна не характэрныя для Сідарэнкавай паэзіі. Але пры ўсім гэтым «Яса» застаецца прыкметным фактам літаратурнага жыцця абедзвюх нашых рэспублік.

**Леанід ГАРЛАЧ.**

В. Сідарэнка. «Яса». Выдавецтва «Молодь». Кіеў. 1972.

рашуча асудзіў тагачасны грамадскі лад і даклярававаную царскім маніфестам «свабоду». Тыя ж матывы, але ўжо мацней гучаць у артыкуле «Старыя праўды на новы лад».

І. Жыдовіч уважліва ставіцца да публіцыстычнай спадчыны народнага песняра, імкнецца дэталёва разгледзець своеасаблівасць яго творчага метаду, асаблівую ўвагу звяртае на тыя выступленні, што былі для свайго часу вельмі надзённымі, рабіліся па гарачых слядах падзей.

Вялікую ўвагу, у прыватнасці, даследчык удзяляе палеміцы, якая разгарнулася на старонках «Нашай нівы» па асноўных пытаннях эстэтыкі. Я. Купала абараняў пазіцыі рэвалюцыйна-дэмакратычнай і рэалістычнай літаратуры. Яго артыкул «Чаму плача песня наша?» — гнеўны адпор буржуазнаму нацыяналісту Ю. Верашчаку, які заклікаў Купалу пісаць толькі аб прыгажосці роднага краю.

Наогул, пытанні развіцця нацыянальнай культуры заўсёды стаялі ў цэнтры ўвагі Я. Купалы, які ў той час піша праграмныя артыкулы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы?» і «А ўсё-такі мы жывём!». У першым ён з хваляваннем пісаў: «Сёння налічваецца больш тысячы народнасцей. Кожная з гэтых народнасцей жыве сваімі асобнымі нацыянальнымі праявамі, кожная народнасць састаўляе... адну сям'ю-радню, рознячыся складам сваім ад суседняй такой народнасці-сям'і. І адлічаем мы кожны такі народ ад другога ўсе той жа яго адвечнай уласнай мовай, якую вякі ўсвяцілі, укаранілі ў ім, на якой ён і яго продкі з самага пачатку свайго паяўлення на зямлі ўзраслі і ўзгадаваліся».

Падрабязна спыняецца аўтар манаграфіі і на пасляка-стрычніцкай публіцыстычнай творчасці Я. Купалы. Яркія і глыбокія думкі аб рэвалюцыі паэт выказвае ў вершах «Вялікаму Кастрычніку» і «Маладым паэтам». Пазней, прыпамінаючы гэты час, у артыкуле «Кліч да беларускага народа» ён пісаў: «Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя дала нам волю і права быць гаспадарамі на сваёй роднай зямлі. Мы сталі людзьмі звацца. Наша беларуская гордасць і наша сіла была ўзведзена вялікай Камуністычнай партыяй у стан дзяржаўнасці, у стан нашай беларускай нацыянальнай дзяржавы».

Я. Купала як паэт і грамадзянін радаваўся кожнаму поспеху сваёй рэспублікі, стваральнай працы народа. Ён піша артыкул «Сам напаўняешся вялікай радасцю», потым выступае па пытаннях культуры: «Створым літаратуру лепшую ў свеце». У артыкуле «Магутная сіла» паэт пісаў: «Сіла народа здольна разбурыць усе перашкоды, якія стварылі эксплуататары і сама прырода на шляху да светлага жыцця ўсяго чалавецтва, яна здольна пабудаваць жыццё на ўсёй зямлі, яна здольна наладзіць міжпланетныя зносіны». Яшчэ далей заглядвае ён у будучыню ў артыкуле «Мы жывём у казачны век», дзе адзначае бурнае развіццё навукі і тэхнікі.

У манаграфіі шмат увагі ўдзелена даследаванню і тых артыкулаў, у якіх Я. Купала пісаў аб сацыялістычным будаўніцтве, якое разгарнулася па ўсёй краіне. У іх народны пясняр выступае палымяным публіцыстам, які горача адклікаецца на падзеі часу. Даследчык падкрэслівае маштабнасць творчага метаду Я. Купалы, неаднаразова ўказвае на глыбокае пранікненне яго ў сутнасць жыццёвых з'яў.

Праўда, на жаль, даследчык не паглыбіўся ў «творчую лабараторыю» Купалы-публіцыста. А гэтага ад такой грунтоўнай працы заўсёды чакаеш!..

Значная частка кнігі прысвечана купалаўскай публіцыстыцы перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Паэт да самай сваёй смерці актыўна выступаў у друку і па радыё. У гэты час асноўнай яго тэмай была тэма нянавісці да ворага. Я. Купала заклікаў да актыўнай барацьбы з фашызмам. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся яго верш «Беларускім партызанам».

Загарнуўшы апошнюю старонку даследавання, застаешся ўдзячны яго аўтару, які здолеў данесці да чытача бессмяротную публіцыстычную спадчыну народнага песняра. Шкада толькі, што ў гэтай манаграфіі замала ўвагі ўдзелена мове і стылю артыкулаў Я. Купалы.

**І. ПАЎЛЮКОЎСКІ.**

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

### ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»

**А. Мацко. Рэвалюцыйная барацьба працоўных Польшчы і Заходняй Беларусі супраць прыгнёту буржуазіі і памешчыкаў. 1918—1939.** На рускай мове. 1972 г. 336 стар. Тыраж 1500 экз. Цана 1 руб. 33 кап.

**У. Ухаў. Марсісцка-ленінская загартоўка камуністаў.** Мастак М. Стас. На рускай мове. 1972 г. 176 стар. Тыраж 6 000 экз. Цана 18 кап.

**Э. Шыкунова. Прыгожае каля нас.** Мастак М. Стас. На рускай мове. 1972 г. 112 стар. Тыраж 7 000 экз. Цана 17 кап.

### ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

**В. Адамчык. Дзікі голуб.** Апавяданні. Мастак Г. Грак. 1972 г. 192 стар. Тыраж 7 000 экз. Цана 26 кап.

**Адважныя людзі.** Зборнік нарысаў. Укладальнік І. Калеснік. На рускай мове. 1972 г. 120 стар. Тыраж 10 500 экз. Цана 16 кап.

**Я. Брыль. Вітраж.** Апавяданні. Мастак Б. Забораў. 1972 г. 200 стар. Тыраж 7 000 экз. Цана 43 кап.

**Горад мільённы і мы. Паэзія чырвонай Лодзі.** Серыя «Паэзія народаў свету». Пераклад з польскай мовы. 1972 г. 208 стар. Тыраж 2 000 экз. Цана 86 кап.

**А. Дзеружынскі. Бегунок.** Малюнкі В. Кандара. 1972 г. 32 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 20 кап.

**Г. Карпава. Спляценне.** Серыя «Першая кніга паэта». Мастак С. Кавалёў. На рускай мове. 1972 г. 40 стар. Тыраж 4 000 экз. Цана 10 кап.

**Я. Маўр. Шлях з цемры.** (Успаміны дзяцінства). Серыя «Бібліятэка беларускай прозы» На рускай мове. 1972 г. 144 стар. Тыраж 100 000 экз. Цана 35 кап.

**Х. Мальцінскі. Вясёлыя вароты.** Мастак А. Філімонаў. 1972 г. 30 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 21 кап.

**Д. Маркоўка. Снежныя дзюймы.** Апавяданні і нарысы. Мастак Б. Забораў. На рускай мове. 1972 г. 136 стар. Тыраж 15 000 экз. Цана 16 кап.

**Ю. Сапажкоў. На шчасце.** Вершы. Серыя «Першая кніга паэта». Мастак С. Кавалёў. На рускай мове. 1972 г. 56 стар. Тыраж 4 000 экз. Цана 12 кап.

**І. Тургенеў. Рудзін. Дваранскае гняздо. Напярэдадні.** (Раманы). Мастак В. Тарасаў. На рускай мове. 1972 г. 368 стар. Тыраж 300 000 экз. Цана 78 кап.

### ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»

**Гомель.** Гісторыка-эканамічны нарыс. Мастацкае афармленне В. Харэўскага. На рускай мове. 1972 г. 232 стар. Тыраж 17 700 экз. Цана 61 кап. (У пераплёце з плёнкай — 70 кап.).

# А ПРЫКЛАД ПОБАЧ...

**У РАЁННЫМ ЦЭНТРЫ ЁСЦЬ ДОМ КУЛЬТУРЫ. ЛІЧЫЦЦА, ЁСЦЬ І ГУРТКІ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ, ХАПАЕ КВАЛІФІКАВАНЫХ КІРАЎНІКОЎ.**

**АЛЕ — НЕ ПРАЦУЮЦЬ ГУРТКІ. ЧАМУ? ПРА ГЭТА — У КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.**

ЗУСІМ НЯДАЎНА Чэрвеньскі раённы дом культуры большменш славіўся сваёй самадзейнасцю. Чэрвеньцы наладжвалі цікавыя вечары адпачынку дома, часта бывалі з канцэртамі ў калгасах і саўгасах не толькі свайго, але і суседняга раёна. На абласных аглядах яны займалі нават прызавыя месцы.

Але спакваля работа гурткоў пачала паслабляцца. Аддзел культуры райвыканкома не мірыўся з такімі з'явамі. Шукалі прычыны. Віна ўскладвалася на плечы дырэкцыі дома культуры. Прымаліся арганізацыйныя меры. Але ажыўленасці па-ранейшаму не заўважалася.

Не адчуваецца яе і цяпер, калі на пасаду дырэктара прыйшоў Фёдар Чэрвінскі. Прайшоў год з пачатку яго работы на новай пасадзе. За гэты час, на жаль, мастацкая самадзейнасць не палепшылася. Пры РДК няма агітбрыгады, зусім не працавалі некаторыя гурткі. А які ж калектыў можна прывесці ў прыклад? Хіба толькі танцавальны. Узначальвае яго Ніна Міхалевіч — здольная, ініцыятыўная, яна адшукала ключы да сэрцаў юнакоў і дзяўчат, асабістым прыкладам натхняе аматараў, рэгулярна праводзіць з імі рэпетыцыі, рыхтуе новыя нумары. Настойлівасць, імкненне дае свой плён.

Пад яе кіраўніцтвам два калектывы — дарослы і дзіцячы. Дзеці аднавілі танец «Лялька захварэла», дарослыя падрыхтавалі малдаўскі танец «Жок», украінскі «Віхор», беларускі «Перапёлачка» і іншыя.

Усё гэта нядрэнна. Але ж з аднаго танцавальнага калектыву канцэртную праграму не пабудуеш, бо ў астатніх нічога ў запасе няма. Драмгурткоўцы, якіх узначальваюць Уладзімір Хаўранкоў і Валянціна Марозік, толькі прыступілі да размеркавання роляў намечаных спектакляў. Раіса Жаўланкова нядаўна прыйшла на працу. Яна заўзята ўзялася за справу, стварае хор, рэпеціруе з вакалістамі. Усё гэта яшчэ наперадзе.

Выратаваць становішча імкнулася інструктар РДК Люба Няхай. Калі-нікалі яна збірала самадзейных артыстаў на рэпетыцыі, рыхтавала асобныя нумары. Здавалася, справы пойдуць на лад. Толькі ў адзіночку цяжка чаго-небудзь дабіцца. Далейшыя рэпетыцыі зрываліся, і гэта засмучала моладзь. Не бачачы перспектывы, некаторыя ўдзельнікі самадзейнасці наогул адышлі ад калектыву.

Таму не выпадкова, што апошні канцэрт у раённым доме культуры адбыўся дзевятага мая, прысвечаны дню Перамогі. Акрамя канцэрта быў праведзены тэматычны вечар «Памяці паўшых — вартыя будзьце», два вечары адпачынку моладзі. Канцэртная брыгада пад кіраўніцтвам Любы Няхай выязджала разы са тры і ў сельскія клубы. На гэтым работа гурткоў спынілася.

Праўда, у госці да чэрвеньцаў прыязджалі артысты з Украіны, Ленінграда, Мінскі тэатр лялек. Мерапрыемствы, вядома, не маглі поўнасцю задаволіць патрэбы гарадскога гледача. «За чужой славай, — як гаворыць народная прымаўка, — далёка не ўгонішся».

Яно і зразумела. Дырэктар РДК Фёдар Чэрвінскі не мае асаблівага вопыту ў рабоце культасветустаноў. Без спецыяльнай адукацыі яму нялёгка справіцца са сваімі абавязкамі. Таму ён большую схільнасць праяўляе да гаспадарчых спраў. А яго падначаленыя, хаця і адукаваныя людзі, чамусьці таксама пасіўнічаюць.

А можа ў горадзе наогул няма здольнай, ініцыятыўнай моладзі? Няпраўда. Прыкладам добрай арганізацыі адпачынку рабочых можа служыць камбінат бытавога абслугоўвання. Душа калектыву — швачка Эма Крыжаноўская. Яна паказвае прыклад не толькі ў рабоце, але і на сцэне. Палюбілі сяброўку дзяўчаты, захапіліся яе ініцыятывай, пайшлі ўслед.

На прадпрыемстве створаны хор, вакальная і танцавальная групы. Актыўнымі ўдзельнікамі самадзейнасці зарэкамендавалі сябе Лідзія Карнейчык, Кацярына Шчарбацэвіч, Алена Рэўцкая, Раіса Красоўская, Кацярына Казлова, Кацярына Пічынская і іншыя. Пасля работы збіраюцца яны на рэпетыцыі, рыхтуюць новую праграму, удасканальваюць сваё майстэрства. Цікава, змястоўна праходзяць вечары адпачынку на камбінаце. І не толькі дома выступаюць рабочыя. Яны бываюць частымі гасцямі ў хлебаробаў калгасаў і саўгасаў.

Гутарым з Кацярынай Пічынскай, удзельніцай вакальнай групы.

— Нас шэсць дзяўчат, — расказвае яна, — усе яны з ахвотай прыходзяць на рэпетыцыі, жадаюць як найлепш выступіць перад гледачамі. Наша вакальная група прыпісана і да раённага дома культуры. Толькі на працягу лета нас ніхто туды не запрашаў, таму ні разу і не выступалі.

— А чаму ж так атрымліваецца? — пытаюся ў Кацярыны.

— Мне цяжка адказаць. Напэўна, не зацікавіліся намі як след. Наогул, самадзейнасць у нашым доме культуры за апошні перыяд чамусьці пагасла.

Нядрэнна абстаяць справы і сярод навучэнцаў прафесійна-тэхнічнага вучылішча. Пра іхні адпачынак расказвае сакратар камсамольскай арганізацыі Лілія Маліноўская:

— У вучылішчы набываюць розныя прафесіі каля 270 юнакоў і дзяўчат. У кожнага свой густ, характар. Каб больш задаволіць патрэбы моладзі, культурна арганізаваць іх адпачынак, выкарыстоўваем сродкі выхавальнай, арганізацыйна-масавай работы. Адзін з такіх сродкаў — мастацкая самадзейнасць.

Стварылі ансамбль «Юнацтва». Кожную суботу праводзім вечар адпачынку. У праграме вечара — «Клуб вясёлых і знаходлівых», народныя танцы, песні, атракцыёны. І моладзь задаволена такімі мерапрыемствамі. Рыхтуюць праграму самі ж навучэнцы. А дапамагае ім кіраўнік ансамбля Мікалай Міцкевіч.

На вечары адпачынку запрашаем ветэранаў працы, старых камуністаў, удзельнікаў грамадзянскай і Айчыннай войнаў. Выязджаем, нават з канцэртамі ў гаспадаркі раёна.

Больш яскравы прыклад — народны хор эксперыментальнай базы «Натальеўск». Ім кіруе настаўнік Іван Няборскі. Нямала прыйшлося яму папрацаваць, каб хор дасягнуў майстэрства. Былі пошукі, няўдачы, хваляванні, клопаты. Сапраўднае майстэрства лёгка не даецца. Але ж здолелі набыць яго ў Натальеўску. І ўмовы працы тут ніколькі не лепшыя, чым у доме культуры. Усё залежыць, напэўна, ад жадання, настойлівасці, пошукаў.

Каму з чэрвеньцаў не знаёмы ансамбль народных інструментаў і аркестр дудароў, якіх згуртаваў Іван Іосіфавіч Лычкоўскі. Гэта чалавек без спецыяльнай адукацыі. Затое ён здольны, рухавы, грамадскі. І сваімі здольнасцямі прыносіць карысць людзям.

Удзельнікі гэтых калектываў выступалі ў сталіцы, іх запісвалі на радыё і тэлебачанні. Яны ўзнагароджаны шматлікімі дыпломамі і памятным жэтонам да пяцідзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. І ўсё гэта нягледзячы на тое, што цымбалісты і дудары рэпетыцыі праводзяць у хатніх умовах.

Аднак прыклады выдатных пачынанняў застаюцца па-за ўвагаю работнікаў дома культуры. Чаму? Як ні дзіўна, але іхняй работай слаба цікавяцца, не падтрымліваюць ужо створаныя калектывы. Што перашкаджае гэтаму? На самай справе — нічога. Памяркуйце самі, на працягу лета ў раённым доме культуры панавала цішыня. Акрамя танцавальнага калектыву рэпетыцыі з другімі гурткамі не праводзілі, усё чакалі зручнага мо-

---

# ТАЯМНІЦА

Адам МАЛЬДЗІС



ЯК І НАЛЕЖЫЦЬ у кожным дэтэктыве, усё пачалося са званка ў дзверы. Ён раздаўся жнівеньскім суботнім поўднем. На парозе стаяў акуратны сівы чалавек з на дзіва глыбокімі блакітнымі вачыма.

— Не прыпамінаеце? Я вартаўнік бібліятэкі імя Багушэвіча ў Кушлянах. Калісьці вы прыязджалі да нас шукаць шкатулку з багушэвічаўскімі паперамі...

Вядома ж, прыпамінаю. Запрашаю Міхала Сямёнавіча Ляпеху прайсці ў кватэру, адпачыць з дарогі.

— Адпачываць няма калі, — адказвае госць. — Я да вас па пільнай справе. У Жупраны, па запрашэнні сваякоў Вянцкоўскіх, прыехала з Польшчы ўнучка Францішка Багушэвіча, Станіслава Тамашэўская. Яна павінна ведаць, дзе закапаны архіў яе дзеда.

Ліхаманкава пачынаю ўзнаўляць у памяці «генеалагічнае дрэва» Багушэвічаў. У аўтара «Дудкі беларускай» было двое дзяцей — дачка Канстанцыя і сын Тамаш. Канстанцыя мела цудоўны голас, вучылася спяваць ажно за граніцай. Але голас прапаў. Туся, як яе змяншальна звалі ў сям'і, вярнулася дамоў і наперакор усім выйшла замуж за стрыечнага брата Яна Мняховіча. Памерла каля 1935 года. Сын пісьменніка Тамаш быў пры буржуазнай Польшчы банкаўскім чыноўнікам у Ашмянах. У мяне склалася ўражанне, што ён крыху саромеўся «беларускасці» свайго бацькі або яна перашкаджала яму ў банкаўскай кар'еры. Прынамсі ў дзвюх старэйшых дачок Тамаша, Габрыелі Мэндыграловай і Канстанцыі Пшэднікоўскай, асаблівай гордасці за беларускую творчасць свайго дзеда ўсё ж не было. У 1946, выязджаючы ў Польшчу, яны захавалі рукапісы Багушэвіча ў Кушлянах. Так мне сказала сама Канстанцыя Пшэднікоўская, калі летам 1966 года я наведаў яе ў Сопаце разам з папулярызатарам беларускай літаратуры ў Польшчы Мацеем Канапацкім.

— Час быў трывожны, — растлумачыла мне Пшэднікоўская. — Везці рукапісы дзеда з сабой мы пабаяліся. Былі яны ў шкатулцы з чырвонага дрэва. Паперы мы загадалі закапаць жанчыне па імю Мальвіна. Яна была ў нашым доме сваім чалавекам і засталася даглядаць хворага сына цёткі Тусі. Як прозвішча той жанчыны— не памятаю. Дзе яна схавала рукапісы—не ведаю.

Вярнуўшыся тады ў Беларусь, я адразу паехаў у Кушляны, з дапамогай таго ж М. Ляпехі ўстанавіў, што прозвішча Мальвіны — Трусевіч. Але самой жанчыны ўжо не было ў жывых. А яе дачка, Марыя Дудэк, пра лёс багушэвічаўскай шкатулкі нічога не чула. Пошукі прыйшлося спыніць.

І вось Міхал Сямёнавіч, не шкадуючы ні часу, ні энергіі, спецыяльна адправіўся ў няблізкую дарогу, каб паведаміць аб прыездзе самай малодшай унучкі Багушэвіча. Здаецца, з беларускіх даследчыкаў з ёй яшчэ не сустракаўся ніхто. Значыць, трэба хутчэй заказаць аўтобусны білет у Жупраны!

Станіслава Тамашэўская аказалася маладжавай інтэлігентнай жанчынай. Яна нарадзілася ў 1910 годзе, таму, натуральна, дзеда не памятае. Але памятае атмасферу, якая панавала ў багушэвічаўскім доме. Памятае апавяданні бабкі, якая дажыла да 1929 года і любіла, курачы люльку, расказваць пра былое.

— Я пакінула Кушляны ў 1940 годзе, — паведамляе С. Тамашэўская. — Таму не магла прысутнічаць пры тым, як хавалі рукапісы ў 1946 годзе. Адно добра ведаю, што яны былі. У вялікай разной шкатулцы з чырвонага дрэва. Перагортваючы іх, я звярнула ўвагу на пісьмы Э. Ажэшкі да Ф. Багушэвіча, упрыгожаныя сушанымі кветачкамі, на акт XVIII стагоддзя, выдадзены на імя нейкага харунжага Зыгмунта Карыцкага. Калі пасля вайны я праз Індыю пераехала ў Польшчу і сустрэлася з сёстрамі, першым маім пытаннем было: дзе паперы дзядуні? Сёстры адказалі, што паперы закапаны ў хляве дзядзькі Мняховіча, зяця Ф. Багушэвіча. Закапаны ў вялізнай бутлі з-пад віна. Потым сёстры адмаўляліся ад ранейшых слоў. Баяліся адказнасці ці яшчэ чаго. Яны адгаворвалі мяне ехаць сюды, палохалі. Але я ўсё ж прыехала. І не пашкадавала. Мяне тут так сардэчна прымаюць. Я ганаруся тым, что ў Савецкай Беларусі так шануюць памяць майго дзеда, што ў Жупранах яму ўзвялі прыгожы помнік. Таму я была абавязана расказаць вам усю праўду.

— Ці значыць гэта, — спытаў я, — што мы можам разам паехаць у Кушляны і пачаць там канкрэтныя пошукі?

— Безумоўна. Заўтра ж і паедзем.

Назаўтра мы — гэта значыць унучка Багушэвіча, яе муж Кароль, завуч Жупранскай дзесяцігодкі Канстанцін Аляксеевіч Кадырка, фотакарэспандэнт ашмянскай раённай газеты і я — едзем аўтобусам, спецыяльна выдзеленым ашмянскім раённым аддзелам культуры, з Жупран у Кушляны. Нацянькі, па лясных сцежаках, тут недалёка, кіламетраў з сем. Наўкруг жа, па лепшай дарозе, будзе цэлых пятнаццаць. З хваляваннем падыходзім да драўлянага дома, дзе жыў і памёр пісьменнік-дэмакрат. Будынак захаваўся нядрэнна, хаця і патрабуе кваліфікаванага рамонту. Нашым «гідам» бярэцца быць С. Тамашэўская:

— Дом нямнога змяніўся. Толькі крыху абнізіўся. Ды раней веранда, што ідзе з паўднёвага боку ўздоўж усяго дома, не была ашклёна. Яна стаяла на слупках з чырвонай цэглы, была ўпрыгожана драўлянай разной балюстрадай у палавіну чалавечага росту. Злева і справа на веранду вялі драўляныя прыступкі. Насупраць іх былі дзверы, масіўныя, у кліны, з унутранымі жалезнымі крукамі.

Праз калідорчык з левага боку можна было трапіць у салон. У ім стаяла фартэпіяна. Паміж вокнамі, што выходзілі на веранду, — столік з чырвонага дрэва. У куце — круглая печка з чырвонай бляхі. Каля яе — шафа з кнігамі. Над фартэпіяна віселі партрэты Ф. Багушэвіча і яго жонкі работы Андрыёлі. З салона вялі дзверы ў кабінет, венецыянскае акно якога выходзіла таксама на веранду, і ў спальню, адкуль акно глядзела ўжо на поўнач. Са спальні і з кабінета можна было прайсці ў дзіцячы пакой, з яго — на кухню, дзе стаяла сялянская цагляная печ. У кухню з кабінета вёў яшчэ адзін ход — праз сталовую. Сталовая і кухня былі ўжо звязаны з другім калідорчыкам—гаспадарчым, «чорным». У ім стаяла лесвіца, што вяла на паддашак, у пакой, дзе звычайна жыла дачка Багушэвіча Канстанцыя. На паддашку, успамінае Тамашэўская, ляжалі старыя кнігі. Сярод іх былі і беларускія.

манту, спасылаючыся на благія ўмовы працы. Гэтых умоў і цяпер няма.

А хто іх павінен ствараць? Самі ж работнікі РДК. Пад адным дахам з домам культуры і кінатэатр. Гэта некалькі ўскладняе работу калектываў. Аднак, прыкінуўшы гаспадарлівым вокам, выйсце можна адшукаць. У даволі прасторным памяшканні размешчана майстэрня мастакоў. Не аднойчы вялася гутарка аб пераводзе яе ў другі пакой на першы паверх, які, дарэчы, нікім не эксплуатуецца. Аднак далей гаворкі справы не пайшлі. Нарэшце, ёсць магчымасць абсталяваць як след фае паміж пакоем дырэктара і майстэрняй мастакоў. Хто замінае гэтаму? Ніхто.

Адсюль і вынікі. А ад таго, што работу самадзейных калектываў неабходна ажыўляць, не адмаўляюцца самі ж работнікі дома культуры.

Вось што гаворыць Леанід Панько, які ўзначальвае ансамбль народных інструментаў...

— Яшчэ ў мінулую восень стварылі наш ансамбль. У складзе яго сем чалавек. На жаль, выступалі толькі летась. Цяпер пачалі рыхтавацца занава. Здаецца, і нічога не замінае ў нашай рабоце. Хіба толькі недахоп інструментаў.

А іх можна набыць у самім Чэрвені. Іван Іосіфавіч Лычкоўскі не толькі заўзяты музыкант, але ён сам і вырабляе народныя інструменты: дудкі, цымбалы. Раней выконваў заказы смаленскім, маскоўскім і ўкраінскім аматарам народнай музыкі. А суседзі не змогуць дамовіцца з ім.

Наконт недахопаў у рабоце раённага дома культуры вялася гутарка і ў аддзеле культуры Чэрвеньскага райвыканкома. Вось што сказаў яго загадчык Міхаіл Раманенка:

— Разумеем усё. Пастараемся дапамагчы. Часта мяняліся дырэктары і гэта таксама адмоўна падзейнічала на работу самадзейнасці. Становішча ў даны момант нас таксама не задавальняе. Прыйдзецца шукаць выйсце. Якім чынам, памяркуем пасля.

Такую самую думку выказаў загадчык аддзела прапаганды Чэрвеньскага райкома партыі М. А. Бычак.

Правільна, выйсце шукаць патрэбна. «Узяўся за гуж — не кажы, што нядуж», — гаворыць народная прымаўка.

**І. МАРКЕВІЧ,**
спец. кар.
«Літаратуры і мастацтва».



# МІХАСЮ ДАНІЛЕНКУ — 50

*Заўтра спаўняецца 50 год празаіку Міхасю Даніленку. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася да юбіляра з прывітаннем, у якім гаворыцца:*



**«Дарагі Міхась Пятровіч!**

**З нагоды Вашага пяцідзесяцігоддзя прыміце ад нас, Вашых сяброў і калег па пяру, шчырае гарачае прывітанне.**

**Жыццёвы Ваш шлях пачаўся з працы на Рэчыцкім фанерным заводзе. У часе Вялікай Айчыннай вайны Вы прымалі актыўны ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Было раненне, палон, а потым уцёкі з фашысцкай няволі.**

**Пасля вайны Вы некалькі год прысвяцілі нялёгкай справе — настаўнічалі ў адной з палескіх школ. А потым Вас паклікала журналістыка.**

**Журналісцкія дарогі далі Вам шмат назіранняў, узбагацілі Ваш жыццёвы вопыт. У 1952 г. выйшла Ваша першая кніга апавяданняў «Мая песня». За ёй паявіліся іншыя — «Майская раніца», «Наваселле», «Наш дом», «Запаветны акіян». Прыемна адзначыць, што Вашы творы ў пераважнай большасці прысвечаны паказу нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, у іх раскрываецца прыгажосць душы савецкага чалавека, яго натхнёная праца на карысць народу, Радзіме.**

**Нямала твораў Вы напісалі для юных чытачоў. Яны выйшлі асобнымі кнігамі: «Вернасць слову», «Зачараваны гарлачык», «На вуліцы Сонечнай».**

**З 1952 года Вы нязменна працуеце ў газеце «Гомельская праўда», пастаянна выступаеце як публіцыст і нарысіст, шмат сіл і клопатаў аддаяце выхаванню маладых літаратараў сваёй вобласці.**

**Жадаем Вам, дарагі Міхась Пятровіч, новага плёну ў творчай рабоце, добрага здароўя, шчасця».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і жадае юбіляру поспехаў.*

●

**НЯДАЎНА мне трапілася ў рукі кніжка прозы майго земляка, малодшага паплечніка і таварыша Міхася Даніленкі. Трошкі экзатычная назва яе «Запаветны акіян» нават здзівіла мяне: а ці Міхась гэта напісаў, ці пазнаю я яго па почырку?**

**Я ведаў, што аўтару кнігі неўзабаве спаўняецца пяцьдзесят гадоў. Гэта пара чалавечай сталасці, пара, калі ён становіцца мудрым, ва ўсім разважлівым. У свае пяцьдзесят гадоў, мабыць, кожны чалавек павінен паглядзець з вышыні пражытых гадоў на тое, што ён зрабіў. Міхаілу Пятровічу Даніленку не сорамна будзе азірнуцца назад: тое, што ён зрабіў, як радавы баец нашай роднай літаратуры, вельмі патрэбна ўсім нам.**

**Як я казаў ужо вышэй, мяне насцярожвала назва новай кніжкі, і перш за ўсё я шукаў апраўдання гэтай назве. І знайшоў. Гэта — апошняе, вельмі шчырае, аднайменнае апавяданне кніжкі. У ім пісьменнік паэтычна расказвае пра лес, называючы яго зялёным акіянам.**

**Аповесць «Альпы», якой адкрываецца кніжка, канчаткова развеяла маю насцярожанасць. Яна хоць і напісана на «цяжкім» матэрыяле — пра палон у часе Вялікай Айчыннай вайны, але не пакідае ўражання безнадзейнасці, безвыходнасці. Твор поўны рашучасці і чалавечай нязломнасці. Героі аповесці, не зважаючы на, здавалася б, безвыходнасць становішча, ні на момант не трацяць веры ў жыццё, у тое, што яно возьме верх над смерцю, над спуставаннем. І яны нават ва ўмовах цяжкага палону змагаюцца за будучае шчасце чалавека.**

**Нязломнасць характараў герояў аповесці «Альпы» падкрэсліваецца амаль у кожным абзацы яе. Вось адзін прыклад. Групка нашых байцоў трапіла ў акружэнне. Трапіў з імі і палітрук Міхайла Цімчанка. Гэта — бясстрашны чалавек. Ён ніколі не пойдзе ні на які кампраміс толькі дзеля таго, каб ратаваць сваё жыццё.**

**...Кольца акружэння вакол нашых байцоў усё сціскалася і сціскалася. Нехта з байцоў прапанаваў палітруку зрэзаць на ўсякі выпадак пяцікантовую зорку з рукава гімнасцёркі.**

**— К чорту! — сказаў Цімчанка. — Жывымі не здадзімся.**

**І вось гэтым пачуццём бясстрашнасці і нязломнасці — «Жывымі не здадзімся!» — вызначаецца ўся аповесць. Чытач верыць даніленкавым героям. Уся будова, уся фактура аповесці прасякнута адчуваннем таго, што людзі, якія насяляюць старонкі яе, нязломныя, гераічныя. І ў тым, што яны такія ў творы, заслуга перш за ўсё пісьменніка, яго вопытнай рукі, яго жыццёвай мудрасці.**

**У свой час пісьменніку самому давялося пахадзіць па цяжкіх дарогах чужыны. І што б там ні казалі тэарэтыкі спецыфікі мастацкага мыслення, усёроўна асабісты вопыт творцы вельмі важны, і калі ён умела кладзецца ў аснову таго ці іншага мастацкага твора, ад гэтага твор толькі выйграе. Пра гэта красамоўна сведчыць даніленкава аповесць «Альпы».**

**Для таго, каб сёй-той не падумаў, што Даніленка, як пісьменнік, жывіцца выключна «падножным кормам», я хачу адаслаць цікаўнага чытача да яго апавядання з вельмі простай, беспрэтэнцыёзнай назвай. Яна нават, як мне здаецца, трошкі прыземленая: «Апанаска Лугавы». Вобразы герояў гэтага апавядання — самога Апанаскі, яго нявесткі Любы, ягоных дзяцей Васіля, Пятра, Валі гэтак скрупулёзна, дакладна выпісаны пісьменнікам, што, здаецца, яны з карэннем перасаджаны пісьменнікам з самога жыцця на глебу мастацкага твора.**

**Апавяданне, як аповесць, як і наогул усе творы Даніленкі, напісана добраю, сакавітаю народнай мовай.**

**Я не выпадкова спыніўся на аповесці «Альпы» і апавяданні «Апанаска Лугавы» ў гэтым сваім амаль юбілейным артыкуле. Яны, думаецца, найбольш характэрны для сённяшняй творчасці Міхася Даніленкі — пісьменніка са сваім почыркам і, я сказаў бы, адметным у нашай літаратуры. Яго пільнае вока прывыкла бачыць жыццё ва ўсёй яго красе і разнастайнасці. А гэта вунь як важна для пісьменніка.**

**Няхай жа і надалей спорным крокам ідзе ў жыццё наш сябар, наш паплечнік, наш сталы ўжо таварыш. Пажадаем жа яму добрай дарогі!**

**Раман САБАЛЕНКА.**

# ШКЛЯНОГА СЛОІКА

З дома зноў выходзім на жнівеньскую спёку. Прашу Тамашэўскую расказаць, як тут усё выглядала да першай сусветнай вайны.

— На поўдзень ад дома была сажалка і калодзеж з карытам для паення жывёлы. На захад, да афіцыны і гумна, вяла дарожка, абсаджаная парэчкамі. Афіцына не захавалася. А вось гумно — стаіць. Багушэвіч узвёў яго з камення, каб даказаць мясцовым сялянам, што камень — цудоўны будаўнічы матэрыял. Каля афіцыны быў яшчэ адзін калодзеж з журавом. Адтуль бралі ваду для піцця. З паўночнага боку, на тоўстым пні, ляжала чыгунная пліта з сонечным гадзіннікам. За гадзіннікам — драўляная каплічка, пабудаваная пасля паўстання 1863 г. Багушэвіч перанёс туды драўлянае распяцце XVIII ст., якое вісела над ложкам яго бацькі. Я вельмі рада, што і каплічка, і распяцце захаваліся.

— А калі пабудаваны гэты дом? Мемарыяльная дошка сведчыць, што Ф. Багушэвіч у ім нарадзіўся. На самай жа справе, як высветлілася з метрыкі, знойдзенай Г. Кісялёвым, нарадзіўся ён не тут, а ў Свіранах, пад Вільняй.

— Гэта для мяне нечаканасць. Увогуле ж пра Свіраны ў нашым доме ўспаміналі. Там у дзявоцтве жыла маці паэта, мая прабабка. Мабыць, як тады было прынята, раджаць яна паехала ў бацькоўскі дом. Бо ўвогуле Багушэвічы бязвыезна прабывалі ў Кушлянах год нешта з трыста. Раней жылі ў старой афіцыне. Гэты ж дом паэт пабудаваў у 1896 г., калі атрымаў спадчыну. Па кім? Бабка не казала. Успамінала толькі, што дзед дужа клапаціўся, каб усё ў доме было зручна, каб вакол рос вялікі сад.

Ад капліцы абсаджаная дрэвамі алейка вядзе нас на Лысую гару. Калісьці паэт любіў тут адпачываць, марыць, пісаць. У альтанцы, ад якой засталіся яшчэ сляды, наладжвалі вечарынкі. Непадалёку ляжыць вялізны камень з надпісам «Памяці Мацея Бурачка». У першую сусветную вайну немцы, кажуць, знайшлі пад ім нейкія паперы. Цяпер стараннямі М. Ляпехі камень агароджаны, абсаджаны кветкамі.

— Ужо хутка поўдзень, — асцярожна напомніў К. Кадырка, калі мы спускаліся з Лысай гары. — Пойдзем шукаць той хлеў.

Знайсці сядзібу Мняховічаў аказался не так проста. Мясцовасць змянілася. Многіх дамоў не стала. У 50-х гадах перанеслі на калгасны двор і само гумно. Старажылы паказалі нам яго колішнія фундаменты. Нішта сабе было гумно — соткі з тры займала. Паспрабуй, раскапай такое!

Пакорпаўшыся крыху лапатай, мы прыходзім да вываду, што адным нам тут не справіцца. Патрэбна дапамога. Дамаўляемся, што ўсе вяртаюцца ў Жупраны, а я паеду у раённы цэнтр, у Смаргонь.

Нягледзячы на суботні вечар, у будынку Смаргонскага РК КПБ было ажыўлена. Не да адпачынку, калі на палях гарачая пара. Першы сакратар Аляксандр Мікалаевіч Патапаў адразу ж дамовіўся са старшынёй кушлянскага калгаса Дзмітрыем Аляксандравічам Шостакам, што той дасць на панядзелак з дзесятак землякопаў, паабяцаў сам пад'ехаць на месца раскопак, пасадзейнічаць рамонту кушлянскіх будынкаў. У Жупраны я вяртаўся абнадзееным.

У нядзелю настаўнікі Жупранскай школы арганізавалі ў сельскім клубе сустрэчу з Станіславай Тамашэўскай. Прыйшло мноства людзей. Аб значэнні творчасці Багушэвіча хораша выступіў К. Кадырка. Госця расчулена гаварыла пра тое светлае, што яна вынесла ў сэрцы з кушлянскага дома. А потым на сцэну нечакана выйшла калгасніца-пенсіянерка Станіслава Ігнатаўна Апцэвіч і расказала верш Багушэвіча «Здарэнні», праспявала некалькі беларускіх народных песень. Піянеры паднеслі госці кветкі, калгаснікі і настаўнікі — падарункі.

З клуба амаль усе пайшлі ў школьны багушэвічаўскі музей. С. Тамашэўская падрабязна каменціравала здымкі, выстаўленыя на стэндах: вось тут — не Ф. Багушэвіч, а яго брат, а гэты здымак не мае дачынення да сям'і Багушэвічаў — на ім дзеці графа Чапскага...

Заходзіць гаворка аб тым, што такая ж блытаніна дапушчана на жупранскіх могілках. У 50-х гадах там устаноўлены тры помнічкі (дарэчы, што за царкоўная лексіка надпісаў: «Здесь покоится прах...», — самому Ф. Багушэвічу, яго бацьку Казіміру і брату Уладзіславу (на помніку ён ператварыўся ў сястру Уладзіславу). Але ж апрача іх на могілках яшчэ пахаваны маці, жонка, дачка і сын паэта. Аб гэтым жа — ні слова. Даўно пара ўстанавіць на могілках больш густоўны помнік, на якім адзначыць імёны ўсіх пахаваных.

З прыемнасцю паведамляю прысутным, што ў запасніках Дзяржаўнага музея БССР урэшце знайшоўся авальны партрэт Багушэвіча, самавольна зняты колькі год назад з мемарыяльнай дошкі ў жупранскім касцёле. Перад ад'ездам з Мінска я званіў у музей — адказалі, што ёсць рашэнне Міністэрства культуры БССР вярнуць партрэт туды, адкуль ён быў зняты.

Мемарыяльная дошка ў жупранскім касцёле, — дапаўняе мяне С. Тамашэўская, — устаноўлена па жаданню сяброўкі Багушэвіча Элізы Ажэшка. Партрэт выканаў мастак Busловіч.

Назаўтра ўстаём чуць зара, каб зноў ехаць у Кушляны. Д. Шостак стрымаў сваё слова. На месцы, дзе калісьці стаяў хлеў Мняховічаў, нас ужо чакала групка калгаснікаў з лапатамі і жалезнымі прутамі. Пачынаем капаць па кутах, ля вушакоў, уздоўж сцен — хто ж будзе хаваць усярэдзіне, дзе няма ніякіх арыенціраў?! Бульдозер асцярожна зразае верхні, дзёрнавы слой. Нарэшце нешта ёсць! З паўметровай глыбіні дастаём шкляны слоік. На вечку яго — карона і назва польскай фірмы «Гартэнзія». На жаль, той, хто закапваў слоік, не ўлічыў, што хлеў будзе стаяць не вечна, што грунт пачне прамакаць і прамярзаць. Мабыць, пад уплывам розніцы тэмператур шкло ў некалькіх месцах трэснула. У сярэдзіну пранікла вільгаць. Загорнутыя ў чырвонажоўтую шарсцяную тканіну паперы пачарнелі, зліпліся ў крохкі камяк. Адганяючы дзяцей, якім абавязкова хочацца ўсё пакратаць, далікатна кладзем скрутак у кардонную каробку. Хай раскручваюць спецыялісты.

Капаем далей. Недзе ж павінна быць яшчэ бутля з-пад віна. Замест яе знаходзім гліняны збанок, дакладней аскалёпкі ад яго. Больш-менш цэлае толькі адно вушка. Ад таго, што было ўнутры, засталася адна пацяруха. Энтузіязм яўна падае. Хаваючыся ад дажджу, калгаснікі подбегам ідуць пад дуб, закурваюць, пачынаюць расказы аб розных скарбах. Хтосьці ўспамінае, што адразу пасля вайны ў доме Мняховічаў жылі перасяленцы з Беласточчыны па прозвішчу Сац. У іх бачылі багушэвічаўскія партрэты работы Ан-

(Заканчэнне на 15-й стар.)

# САПРАЎДНАЕ ЗАСТАЕЦЦА...

Музыка... Калі яна хвалюе, хочацца расказаць пра яе словамі. А словы, якія маглі б перадаць тваё ўражанне, знайсці цяжка.

Слухаю музыку Рыгора Суруса. Гучыць першая сімфонія маладога кампазітара. Потым—канцэрт для скрыпкі з аркестрам. Перада мной як разгортваюцца старонкі Сімфаніеты для камернага аркестра, Санаты для фартэпіяна... Як расказаць аб тым, што я чую?

*Спачатку два маналогі.*



**Народны артыст БССР, прафесар А. БАГАТЫРОЎ:**

— Рыгор Сурус? Так, мой вучань... Трэба сказаць, што на яго музыцы адчуваеш плённы ўплыў творчасці Пракоф'ева. Сяргей Пракоф'еў — з'ява глыбока нацыянальная, глыбока руская. Калі малады аўтар вывучае яго вопыт, ён разумее, што каб быць інтэрнацыянальным, трэба быць нацыянальным. А як стаць нацыянальным? Шлях да гэтага —творчае асэнсаванне народных вытокаў мастацтва, фальклору.

Мне здаецца, што Сурус мае схільнасць да інструментальнай музыкі, таму ў ёй і дасягнуў ён найбольшых поспехаў. Але сказаць: «Сурус канчаткова знайшоў сябе»,—я пакуль што не магу... Што характэрна для яго? Перш-наперш, мэтанакіраванасць і працаздольнасць. Вельмі вялікія.

З ужо напісанага Рыгорам Сурусам можна вылучыць Першую сімфонію, асабліва другую частку з яе распрацоўкай фальклорнай тэмы. Многа каштоўнага ёсць у фартэпіянных п'есах, асабліва ў Санаце для фартэпіяна. А ў Канцэрце для скрыпкі з аркестрам адчуваеш цікавае спалучэнне і суадносіны інтанацый беларускай народнай творчасці з сучаснымі прыёмамі музычнай мовы...

**Галоўны дырыжор Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР Ю. ЯФІМАЎ:**

— Наш калектыў выконваў два творы Рыгора Суруса—Сімфанічныя варыяцыі і Канцэрт для скрыпкі з аркестрам. Канцэрт выконваўся ў двух рэдакцыях. Першая не зусім задавальняла і нас, і аўтара. У другой рэдакцыі праяснілася партыя скрыпкі, больш выразнай стала фактура твора наогул... Тут выкарыстаны прыёмы, якія мы ўмоўна называем сучаснымі. Наогул пошукі кампазітара, на мой погляд, вельмі цікавыя, што, праўда, надае некалькі эксперыментальны характар усяму Канцэрту...

□

Я слухаю музыку Рыгора Суруса. Першая сімфонія... Канцэрт для скрыпкі з аркестрам...

Здаецца, у маіх уражаннях ёсць «усё»: эмацыянальная ўзрушанасць і адчуванне свету вобразаў, я разумею і задуму аўтара. Час пісаць, а на паперы ніводнай паметы. Нечага не хапае, неабходны нейкі штуршок, каб пачутае выказаць словамі.

Піяністка Людміла Малышава выконвае яшчэ раз фартэпіянныя п'есы Рыгора Суруса. «Шэсць настрояў». Невялікі, усяго на сем хвілін, цыкл. Шэсць п'ес. У кожнай свой настрой, свая тэма...

Першая п'еса—гэта абуджэнне прыроды. Задумлівы, чысты малюнак раніцы. Прыгожа, але традыцыйна... І раптам вось яно, «сурусаўскае»! Лёгка і натуральна ўсплывае фальклорная тэма на аснове народнай песні «Пасеялі дзеўкі лён». Раніца не толькі для прыроды, раніца і для людзей. Для іх песень і працы. Кампазітар завяршае роздум пра светлы ранак і, амаль непрыкметна, намячае асноўную тэму ўсяго цыкла.

**...Недзе ў музыцы Суруса я ўжо адчуваў такі прыём. Успамінаю: першая частка Канцэрта для скрыпкі з аркестрам.**

**Задумана першая частка Канцэрта цікава. Тэмы, якія потым з усёй сілай прагучаць у другой частцы і фінале, тут ледзь-ледзь намячаюцца. Яны так захаваны ў фактуры аркестра, што іх амаль немагчыма ўлавіць. Наўмысна прыглушаны ў першай частцы і агульны настрой Канцэрта. Толькі контурна акрэслены тыя рытмы і гармоніі, якія атрымамаюць сваё развіццё ў частках другой і трэцяй.**

**Складаная партыя скрыпкі (яе, дарэчы, натхнёна, з высокім прафесіяналізмам выканаў заслужаны артыст БССР Леў Гарэлік). Наяўнасць ва ўсіх частках інтанацый беларускага фальклору — усё гэта лагічна абумоўлена і таму музыкальная мова паўстае яснай і зразумелай.**

**Канцэрт — твор складаны —гэта так, але не ўскладнёны!**

**Агульны напрамак развіцця музыкі Канцэрта для скрыпкі з аркестрам — гэта напрамак ад ледзь акрэсленых настрояў, ад толькі зароджаных у першай частцы валявых пачаткаў да жыццесцвярджэння іх праз лірычнага складу другую частку ў фінале. Фінал па свайму рытму ўспрымаецца як разгорнутая карціна сучаснага горада.**

...Людміла Малышава грае п'есы фартэпіяннага цыкла. У кожнай п'есе асобны стан думак і разважанняў. Лёгкая кантыленная вальсавая мелодыя пранікнёна перадае інтымную лірыку 2-й п'есы. Яна нагадвае лірычную тэму першай часткі Сімфоніі і трыо другой часткі Канцэрта для скрыпкі з аркестрам.

Хуткі маторны рытм трэцяй п'есы. Тэмп расце, мелодыя нібы ўзлятае над зямлёй. Здаецца, ніхто ўжо не зможа стрымаць яе імклівы палёт, засланіць яе ад святла...

І гучыць чацвёртая п'еса — напамін аб тым, што не заўсёды людзі на зямлі толькі працавалі і спявалі песні. Былі войны і не забыта пра гэта. Ні людзьмі, ні прыродай. Мелодыя гучыць бы ў самой зямлі, разважальна-драматычная, падобная да апавядання. І тут зусім відавочным становіцца для мяне моцны драматычны пачатак у творчасці Суруса. Успамінаецца другая частка Сімфоніі, напісаная ў жанры пасакальі. Яе драматызм адчуваецца ва ўсім развіцці паліфанічнай тканіны. Аўтар выкарыстоўвае прыём basso ostinato і ўся другая частка Сімфоніі складаецца з цыкла варыяцый, якія даводзяць музыку да высокага драматызму.

Пятая п'еса фартэпіяннага цыкла. Я ўжо ўпэўнены, што і ў ёй знойдуцца рысы, характэрныя для ўсёй творчасці кампазітара. Акварэльная, празрыстая мелодыя, вытрыманая ў імпрэсіяністычных танах. Мімалётны настрой, радасць жыцця, нават гарэзлівасць. У сярэдзіне п'есы трансфармацыя гарэзлівасці ва ўрачыстасць, нібы чалавек запыніўся на хвіліну і ўбачыў высокае неба над сабой... І зноў мелодыя акварэлі.

У тых жа танах напісана другая частка Санаты для фартэпіяна. Але ўрачысты настрой тут узнікае не з гарэзлівасці п'есы, а з агульнага драматызму Санаты.

Пачатак шостай п'есы цыкла з'яўляецца працягам першай, развіццём яе тэмы і фактурных прёмаў. Тым самым ствараецца цэласнасць, завершанасць твора. З настроем другой п'есы звязаны вальсавы эпізод шостай і ўся шостая п'еса—вынік драматургіі цыкла, ідэйна-эмацыянальная выснова яго...

**Прыём такой драматургічнай пабудовы, калі матэрыял падаецца ў варыяцыях, скарыстаны Сурусам і ў Першай Сімфоніі, у фінале якой лірычная тэма першай часткі і драматычная тэма другой уводзяцца ў агульную святочную карціну фінала і набываюць якасна новае гучанне.**

**Усе гэтыя стылявыя асаблівасці творчасці Суруса прыкметны і ў яго Сімфаніеце для камернага аркестра. Сімфаніета па сутнасці сваёй — маленькая сімфонія. Таму ёй уласцівы такія рысы сімфанічнасці, як значнасць тэмы і ідэй, якія яе пранізваюць, прыёмы развіцця музыкі. У цэнтры ўвагі і сімфоніі, і сімфаніеты—чалавек, пранікненне ў яго ўнутраны стан. Сімфаніета Суруса пра тое, як па рознаму ўспрымае сусвет чалавек у дзяцінстве, юнацтве і сталасці. Прычым, не наогул нейкі чалавек, а канкрэтны чалавек, асоба, можа нават сам кампазітар.**

Першая частка—дзяцінства. Мелодыя гарэзлівая... Абрыўкі летуценняў... Гарэзлівасць добра перадае апрацоўка народнай песні «Гусі». Сусвет успрымаецца як з'ява суцэльная, поўная чароўных, няясных пакуль фарбаў і гукаў.

Другая частка —юнацтва. Музыка напоўнена рухам і рамантыкай, вытрымана ў мажорных танах. Але паступова, зусім непрыкметна уплятаецца тэма трэцяй часткі, з яе ўскладненым інтанацыйным ладам, з настроем, які можна назваць сканцэнтраванасцю. Яна як бы прадвяшчае частку трэцюю.

Трэцяя частка павольная, паліфанічная, напісаная ў асноўным для струннай групы аркестра. Паглыбленасць разважанняў, адчуванне значнасці жыцця, яго складанасці і драматызму—аб гэтым апавядае музыка.

...Апошнія гукі шостай п'есы фартэпіяннага цыкла. Нібы віхор праляцеў і заціх...

Музыка адгучала. Музыка засталася.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

# СЛУХАЮЧЫ ШАСТАКОВІЧА

**Шчыра кажучы, збіраючыся 18 кастрычніка ў філармонію на канцэрт камернай музыкі, я зусім не думала пісаць аб ім. Мяне прывабіла праграма канцэрта. Хацелася яшчэ раз паслухаць заўсёды значную, заўсёды хвалюючую, трывожную музыку Д. Д. Шастаковіча. Мае нататкі не рэцэнзія — проста ўражанні пра тое, што закранула і пра што не змагла прамаўчаць.**

**Гэты канцэртны вечар прадставіў нам выдатны інструментальны ансамбль: народны артыст СССР П. Серабракоў (фартэпіяна), народны артыст РСФСР М. Вайман (скрыпка), лаўрэат міжнароднага конкурсу А. Лазько (віяланчэль). Вялікае ансамблевае адчуванне, умелае валоданне фарбамі, тонкае разуменне стылявых асаблівасцей музыкі Шастаковіча — гэтыя рысы праявіліся ўжо ў першым выкананым творы, глыбока трагічным фартэпіянным трыо.**

**Філасофская тэма жыцця і смерці, увасобленая ў цэлым шэрагу сімфанічных твораў Шастаковіча, набыла ў трыо больш канцэнтраванае, суб'ектыўна-асабістае праламленне: трыо прысвечана памяці І. Салярцінскага — выдатнага музыканта, вучонага, блізкага сябра кампазітара. Тэма жалобы пададзена ў траурнай пасакаліі (3-я частка), з якой у цыкле адбываецца пералом у бок трагічнасці (фінальная 4-я частка — гэта свайго роду «танец смерці»). Аднак музыка трыо апавядае не толькі аб смерці, але і аб жыцці. Гэта падкрэсліваецца і спакойнай, элегічнай першай часткай, і дынамікай імкліва-кантраснага скерца (2-я частка), і вяртанне у фінале тэм першай і трэцяй частак, што нібы знамянуе супрацьстаянне вобразам смерці і тлену...**

**Уражанне глыбокай трагедыйнасці пакінула інтэрпрэтацыя фіналу, што было абумоўлена не толькі незвычайнай напоўненасцю вядучых тэм, але і агульным драматычным напалам выканання. Трэба зазначыць таксама яскравае адчуванне музыкантамі формы, чысціню тэмбраў скрыпкі і віяланчэлі. Тонкім ансамблістам паказаў сябе П. Серабракоў, які паўстае перад мінскімі слухачамі ў крыху новым амплуа.**

**Калі асноўным настроем Фартэпіяннага трыо была жалобная патэтыка, то «Сем рамансаў на вершы А. Блока»—твор лірыка-філасофскага характару, у якім вобразы блокаўскай паэзіі атрымалі сваё дасканалае ўвасабленне. Высокая прастата, тонкі псіхалагізм. гэтага трагедыйнага твора, асабліва адчувальны ўнутраны падтэкст уяўляюць значную цяжкасць для выканання. Музычна-сцэнічны вобраз, створаны галоўнай выканаўцай цыкла заслужанай артысткай РСФСР Кірай Ізотавай, вызначаецца вялікай глыбінёй і пераканальнасцю. Яе выкананню ўласцівы, перш за ўсё, інтанацыйная дакладнасць, пачуццё меры, тонкая, глыбока прачутая фразіроўка і пазбаўленая ўсялякай афектацыі трагічнасць. Ізотавай падуладны і перадача стану жалобнай адчужанасці. безвыходнага смутку ў «Песні Афеліі» (пранікнёны дуэт з віяланчэллю), і драматычны пафас раманса «Гамаюн — птушка вешчая». Гэты раманс—сэнсавы цэнтр цыкла, ад якога працягваюцца ніці да ўсяго наступнага. І спявачка падкрэслівае гэта эмацыянальнай важкасцю. рэльефнасцю выканання. Яе партнёр па рамансе Павел Серабракоў знаходзіць для грознага поступу фартэпіянных басоў энергічную, заўзята жосткую гучнасць, дапаўняючы вобраз птушкі, якая прарочыць «іга злых татар», «крывавыя падкопы», прадракае гора, пакуты, смерць. У трэцім рамансе («Мы былі разам»), які называюць лірычным інтэрмецца цыкла, голас К. Ізотавай гучыць ціха, прасветлена. Яго нібы ахінае, выступаючы на першы план, мелодыя скрыпкі. Драматычная, дзейсная кульмінацыя цыкла — пяты раманс «Бура», карціна ўзрушанай стыхіі, якая раскрывае, і гэта было падкрэслена спявачкай, грамадзянскі пафас блокаўскіх строф:**

...В такую ночь
Мне жаль людей, лишенных
крова,
И сожаленье гонит прочь —
В объятья холода сырого!..
Бороться с мраком и дождем,
Страдальцев участь разделяя...

**Узрушыў слухачоў і «Раманс» — вяршыня цыкла...**

**Апошнім выкананым у канцэрце творам быў вакальны цыкл Шастаковіча «Сатыры» («Малюнкі мінулага») на словы Сашы Чорнага. Тут, у гэтым цыкле, зусім іншы Шастаковіч: дасціпны, злы, з'едлівы. Ён бязлітасна высмейвае мяшчанства, абывацельшчыну. Перад намі — нібы напісаны з натуры, пададзены буйным планам партрэт усясветнага абывацеля ў асобе цынічнага мешчаніна, якому надакучылі ідэалы («Нашчадкі»), манернай ханжы-паэтэсы з яе пачуццёва-эратычнымі вершамі («Непаразуменне»), інтэлігентнага пашляка-кватаранта, які ад няма чаго рабіць заводзіць раман з прачкай («Крэйцарава саната»). Шастаковіч выступае знаўцам і прадаўжальнікам традыцый рускай сатыры. Як тут не ўспомніць Мусаргскага, яго музычны памфлет «Раёк», які таксама высмейвае «персаніфікаваныя» паронкі грамадства: тупасць, ханжаства, абмежаванасць! І тут — пасля тонкай лірыкі Блока — К. Ізотава і П. Серабракоў былі надзвычай «шастаковічскімі» музыкантамі...**

**У кароткіх нататках, на жаль, немагчыма перадаць усё хараство выканання музыкі на канцэрце, аб якім ідзе гаворка. Шастаковіч знайшоў у артыстах, якія складаюць арыгінальны ансамбль, удумлівых і натхнёных інтэрпрэтатараў. Трэба спадзявацца, што мінчане яшчэ не раз сустрэнуц-**

**Ала ВАЛАДКОВІЧ.**

# МАЛДАВІЯ ДЗЯКУЕ

...Калі думаеш аб тым, што адрознівае калектыў «Песняроў» ад іншых эстрадных ансамбляў таго ж тыпу (жанру), неабходна адзначыць, што ўсе яго музыканты высока цэняць беларускі мелас, што ў музычных аранжыроўках яны адштурхоўваюцца ад меладычнай асновы, ад унутранай структуры песні, імкнучыся захаваць гэту аснову. Іншымі словамі, гэта эстрадны калектыў з добра акрэсленай спецыфікай, асноўная задача якога перакласці ў сучасную форму, перавесці на сучасныя рытмы старадаўнія, абрадавыя, жартоўныя песні і мелодыі.

«Песняры» — ансамбль аднадумцаў у мастацтве, якія, аднак, стараюцца не ўпасці ў другую крайнасць: ператвараць народныя песні ў шлягеры. Змены ў транспанаванні, аранжыроўках, ідуць у асноўным па лініі гарманічнай і рытмічнай, гэта значыць па лініі больш складанай музычнай мовы. Менавіта таму такія абрадавыя песні, як «Рэчанька», «У ноч на Івана Купалу», «Вярба» захоўваюць спецыфіку, сутнасць народнай песні, і ў той жа час паўстаюць перад намі як бы абноўленыя...

Гледачы падоўгу апладзіравалі песням, прысвечаным 50-годдзю з дня ўтварэння СССР. Гэта ў першую чаргу «Дразды» — песня рэдкай меладычнай прыгажосці і глыбокага патрыятычнага гучання, «Далуры» Мачаварыяні, «Дзвіна — Даўгава» Мулявіна і іншыя.

У рэпертуар ансамбля арганічна ўпісваюцца і песні падкрэслена патрыятычнага гучання на словы вядучых савецкіх паэтаў. Такая, напрыклад, «Балада аб чатырох заложніках», якая расказвае пра дзяцей легендарнага камандзіра беларускіх партызан Міная. Гэта песня гучыць так пранікнёна (спявае Леанід Барткевіч), поўны драматызму змест выяўлены так проста і шчыра, што па-сапраўднаму ўзрушае гледачоў усіх узростаў. Паспяхова супрацоўнічае ансамбль з кампазітарамі І. Лучанком, Ю. Семянякам.

Цёплы прыём быў аказаны трубадурам беларускай зямлі ў час канцэртаў у Малдавіі (яны выступалі ў Ціраспалі, Бендэрах, Бельцах і Кішынёве).

**Олга БЕЖЭНАРУ.**

Кішынёў.

# З УСЯГО СВЕТУ— У МІНСК

Сярод гасцей беларускай сталіцы — замежныя музыканты. Многія зарубежныя гастралёры прыязджаюць да нас не ўпершыню. Іх вабіць чулая, улюбёная ў музыку аўдыторыя, якая іх добра разумее, высокі клас Беларускага сімфанічнага аркестра, цудоўная канцэртная зала...

Аматарам музыкі вядома ж запомніліся канцэрты аркестра Дэ Пары, якімі дырыжыраваў малады музыкант Жан-П'ер Жакійя. Днямі ён зноў прыязджаў да нас. У праграму яго новага выступлення былі ўключаны творы Чайкоўскага, Равеля, Пракоф'ева.

Магчыма, аматарам музыкі будзе цікава даведацца, што Жан-П'ер Жакійя закончыў Парыжскую кансерваторыю па класе ўдарных інструментаў і пачаў сваю кар'еру ў якасці выканаўцы-ўдарніка. І толькі праз некалькі гадоў ён стаў за дырыжорскі пульт у адным з буйнейшых сімфанічных аркестраў Парыжа. Ён дырыжыраваў аркестрам з удзелам такіх салістаў, як Самсон Франсуа, Габрыель Такіна і інш. Жан-П'ер Жакійя зрабіў шэраг цікавых запісаў на французскім радыё — «Азарэнне» Бенджаміна Брытэна, «Нонэ» Аарона Копленда. Яго выступленні карыстаюцца вялікім поспехам, дзякуючы дакладнасці, яркасці выканання, глыбокаму пранікненню ў задуму твора.

Наперадзе сустрэча з вядомым у Еўропе калектывам — Лейпцыгскім сімфанічным аркестрам «Гевандхаўз» на чале з выдатным дырыжорам Куртам Мазурам. Салістам у канцэртах выступіць Петэр Рэзаль.

У лістападзе мы пазнаёмімся з дырыжорскім майстэрствам маладога Кадзуёсі Акіяма. Музыкай Акіяма пачаў займацца ў трохгадовым узросце. У 1963 годзе ён закончыў кансерваторыю. У 1964 Акіяма становіцца дырыжорам Такійскага аркестра, Кадзуёсі Акіяма — выдатны оперны і балетны дырыжор. Пад кіраўніцтвам Кадзуёсі Акіяма прагучыць уверцюра Берліёза «Рымскі карнавал», канцэрт мі-мажор Баха з салістам — заслужаным артыстам РСФСР Ігарам Бязродным, упершыню ў Мінску будзе выканана 3-я сімфонія Сен-Санса.

І яшчэ пра аднаго дырыжора. Гэта наш стары і добры знаёмы Карла Цэкі з Італіі. Канцэрты гэтага дырыжора заўсёды выклікаюць вялікую цікавасць слухачоў. Мінчане сустракаліся з ім не аднойчы. І вось новы прыезд. Пад кіраўніцтвам Карла Цэкі наш аркестр выканае ўверцюру «Расчараваная нявернасць» Гайдна, Дывертысмент Моцарта і Канцэрт для скрыпкі з аркестрам Бетховена.

З піяністаў, якія прыязджаюць да нас на гастролі, асабліва хочацца адзначыць маладога выканаўцу Золтана Кочыша з Будапешта. У 1970 годзе на конкурсе піяністаў імя Бетховена 18-гадоваму Кочышу была прысуджана вышэйшая прэмія. Кочыш мае бліскучыя музычныя здольнасці. Дастаткова сказаць, што ў 11 гадоў ён выдатна здаў экзамены ў кансерваторыю імя Бартака, дзе вучыўся па класах фартэпіяна і кампазіцыі. У 1968 годзе Золтан Кочыш паступіў у Музычную акадэмію імя Ліста, дзе займаецца зараз. Вось што піша сусветны друк пра гэтага цудоўнага муаыканта: «З такім талентам піяніста можна сустрэцца толькі раз у дваццаць пяць гадоў», «Новая зорка ў міжнародным сузор'і сапраўды выдатных піяністаў»... У канцы лістапада гэты майстар дае ў зале філармоніі канцэрт. А крыху раней нашым госцем будзе выдатны чэшскі арганіст Іржы Рэйнбергер. З гэтым чалавекам мінчан звязвае даўняя дружба. Рэйнбергер — аўтар і праекціроўшчык Мінскага аргана. Ён рэгулярна наведвае Мінск, праглядае механіку інструмента, кансультуе майстра па доглядзе за арганам. Сёлета Рэйнбергер будзе ў нас сёмы раз. Мы рады вітаць нашага чэхаславацкага друга, які спалучае талент музыканта і інжынера.

З арганістаў у Мінску пабываюць сёлета Вебер Зінке і Эрык Плязецкі з ГДР, піяніст з ФРГ Кляўс Хельвіг, скрыпач Алазар Можы з Чэхаславакіі, піяніст з Італіі Марыя Тыпо і іншыя выканаўцы.

Яркае сузор'е талентаў!

**М. ЖУХАВІЦКІ,**
рэжысёр Беларускай дзяржаўнай філармоніі.



Карла Цэкі.



Жан-П'ер Жакійя.



Кадзуёсі Акіяма.



Золтан Кочыш.

# ЮБІЛЕЙ МАСТАКА КІНО

Па забалочанай рацэ бяжыць жанчына. На яе з высокага берагу ў шалёным скачку кідаецца аўчарка. Сабаку нацкавалі прафесійныя забойцы, якія з асалодай наглядаюць, як ён наганяе ахвяру. Ідзе паляванне на чалавека. Вось ён, звярыны твар фашызму!

Гэта адна з работ заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Яўгена Маркавіча Ганкіна на выстаўцы эскізаў да кінафільмаў, што прысвечана 50-годдзю з дня нараджэння і 30-годдзю творчай дзейнасці мастака.

Гледачы добра ведаюць кінастужкі, аформленыя Я. Ганкіным: «Іван Грозны», «Зігмунд Каласоўскі», «Паўлінка», «Хто смяецца апошнім», «Нашы суседзі», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Я родам з дзяцінства», «Вайна пад дахамі», «Сыны ідуць у бой» і многія іншыя.

Пасля адкрыцця выстаўкі ў Саюзе кінематаграфістаў БССР юбіляра віталі прадстаўнікі творчых саюзаў, часопіса «Вожык», у якім Я. Ганкін плённа працаваў не адзін год, шматлікія калегі з «Беларусьфільма».

Былі паказаны фрагменты з новага фільма «Заўтра будзе позна», у якой беларускія і чэхаславацкія кінематаграфісты расказваюць пра сумесную барацьбу беларускіх, украінскіх і славацкіх партызан супраць агульнага ворага — фашысцкіх акупантаў. Мастак-пастаноўшчык гэтай стужкі — Я. Ганкін.

# ЦІ МОЖНА ЗЛАВІЦЬ ПТУШКУ ІКС?

Кіно прыехала! У школу прыехала кіно.

І хай быў цяжкі дзень, хай ты атрымаў двойку, заўвагу ў дзённіку, хай пасварыўся з суседам па парце, але ўсё роўна настрой адразу ўздымаецца, бо няма на свеце хлопчыка ці дзяўчынкі, якія б не адчулі радаснага хвалявання пры слове «кіно».

Вялізную залу 111-й мінскай школы Заводскага раёна запаўняюць вучні, іх таты, мамы, бабулі, дзядулі, настаўнікі. Толькі доўга пустуюць самыя лепшыя месцы ў цэнтры. І вось з'яўляюцца тыя, для каго яны прызначаны: 2 «А» клас. Дзяўчынкі нібы гатовы ўзляцець на белых крылах фартушкоў і бантаў, хлопчыкі ў адпрасаваных касцюмах перапоўнены пачуццём уласнай годнасці. Імяніннікі?

Так, імяніннікі. Сёння яны і ўсе прысутныя ў зале пабачаць іх мінулае, не такое ўжо, праўда, далёкае, а ўсё ж такі...

Тады яны вучыліся ў першым класе. І да іх прыязджалі рэжысёр «Беларусьфільма» Д. Міхлееў і аператар Ул. Цяслюк здымаць фільм. А зараз яны пабачаць той самы фільм, які называецца «Птушка ікс». Назва падслухана з іх размоў:

— Раней я думаў, што ікс — гэта такая птушка, якую ўсё ловяць, ловяць, а злавіць не могуць. Аказваецца, птушка называецца фенікс...

Фільм пачынаецца кадрамі, знятымі на перапынку. Шум на экране змешваецца з шумам у зале. Дзеці пазнаюць сябе, сваю настаўніцу Раісу Мікалаеўну Кароль. Захапленню няма межаў. Але вось пачынаецца ўрок, і Раіса Мікалаеўна ўсталёўвае ў класе цішыню. І ёй, экраннай, падпарадкоўваецца зала. Усе ўважліва сочаць, як Раіса Мікалаеўна дапамагае сваім маленькім выхаванцам «злавіць» гэтую загадкавую птушку — невядомую велічыню ікс (па новых праграмах элементы алгебры і геаметрыі ўводзяцца ў курс матэматыкі з першага класа).

Удзельнікам здымачнай групы, якія прыехалі да сваіх маленькіх сяброў, натуральна, цікавей было глядзець на публіку, чым на экран. Тут у зале «прападаў» матэрыял для другога фільма.

Дырэктар і настаўнікі горача дзякавалі аўтарам за цікавую, змястоўную стужку. Гаварылі, што фільм дапаможа ім лепш зразумець сваіх выхаванцаў, бо ў ім выдатна «схоплены» характары.

Дзецям фільм таксама спадабаўся. Акрамя таго, ён будзе мець выхаваўчае значэнне, як паўжартам, паўсур'ёзна сказала Раіса Мікалаеўна:

— Я папярэдзіла — хто будзе дрэнна сябе паводзіць, таго выражуць з фільма. І хоць яны ў мяне вельмі разумныя і нават пасцігаюць алгебру і геаметрыю, але тут, уявіце сабе, паверылі.

С. КЛІМКОВІЧ.

# ТАЯМНІЦА ШКЛЯНОГА СЛОІКА

(Заканчэнне. Пачатак на 12-й стар.)

дрыёлі. Дзе цяпер тыя Сацы? Гэта нібы вядома Станіславу Граковічу з вёскі Глінна. На ўсякі выпадак запісваю гэты след...

Вярнуўшыся ў Мінск, я адразу ж пазваніў у навукова-даследчы інстытут судовай экспертызы Міністэрства юстыцыі БССР. Загадчык лабараторыі Леанід Міхайлавіч Гулькевіч запэўнівае мяне, што будзе зроблена ўсё магчымае. Калі, вядома, за 26 год паперы на збуцвелі. Цудаў не бывае.

Так, цудаў не бывае. У гэтым я пераканаўся праз колькі дзён, калі атрымаў заключэнне эксперта І. Жыхаравай. У заключэнні гаварылася: «Праведзеным даследаваннем устаноўлена, што выкапаныя з зямлі кавалачкі паперы, якія паступілі на даследаванне, маюць буры колер, трухлявыя. Многія кавалачкі зліпліся. Значная частка паперы ўяўляе сабой бясформенную, здробненую масу. На некаторых кавалачках ёсць штрыхі ў выглядзе палос зялёнага і жоўтага колераў, лініі нанесеныя фарбавальнікам сіняга і чорнага колераў у выглядзе касой лінейкі, асобныя штрыхі чорнага колера, якія нельга прачытаць. На адным з кавалачкаў ёсць рэльефная выява ў выглядзе крыжа і дзвюх вертыкальных палос. Устанавіць, які тэкст быў на трухлявых кавалачках паперы, не ўяўляецца магчымым».

Няўжо мы так ніколі і не даведаемся, што знаходзілася ў шкляным слоіку?

— Раскрыць таямніцу, — сказала мне Станіслава Тамашэўская, якая праз некалькі дзён прыехала ў Мінск, каб паглядзець багушэвічаўскі альбом у Дзяржаўным музеі БССР, — можа толькі адзін чалавек. Гэта мая старэйшая сястра Габрыеля Мэндыгралова, якая цяпер жыве ў Польшчы, у Влоцлаўку. На яе сумленні ляжыць тое, што рукапісы ў слоіку загінулі. Зрэшты, у слоіку не магло змясціцца ўсё. Па аб'ёму папераў было намнога больш. Куды дзелася сама шкатулка? Чаму сёстры гаварылі пра бутлю, а тут слоік? Запытайцеся пра ўсё гэта асцярожна ў Г. Мэндыграловай. Бо я з ёю кантактаў цяпер асаблівых не маю.

У Дзяржаўным музеі БССР мы доўга гарталі старадаўні альбом, які спачатку належыў Ф. Багушэвічу, а потым яго дачцы Канстанцыі. У ім — каля 70 здымкаў XIX стагоддзя. Многія з іх неапазнаныя. С. Тамашэўская лёгка арыентуецца ў альбоме: вось сам паэт, вось яго браты Уладзіслаў, Валеры, Антон, што ўцёк з Сібіры ў Германію; вось сваякі Галаўня, Абрамовічы, Валчацкія. Вось цесць Багушэвіча адвакат Міхал Шкленнік. Вось сувязная Багушэвіча па паўстанні 1863 г. Ганна Галяеўская, якая памерла ў Вільні каля 1915 года. Вось Юлія Радзевіч, пляменніца жонкі Багушэвіча — яна «кіравала «школкай» Э. Ажэшкі ў Вільні, і ўладкаваў яе туды на работу безумоўна сам паэт. Вось дрэздэнская настаўніца спеваў Канстанцыі Багушэвіч Адэліна дэ Пасхаліс. Вось маці Багушэвіча, жонка, сын, дачка... Усяго вызначана больш трыццаці здымкаў.

З хваляваннем С. Тамашэўская аглядае ў музеі асабістыя рэчы Ф. Багушэвіча — крэсла, настольны гадзіннік, чарнільніцу.

— Так, усё гэта сапраўды стаяла ў нашым доме. Толькі на гадзінніку была яшчэ статуэтка Беранжэ. Усё тут аўтэнтычнае. Не так, як у Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Багушэвіча. Там знаходзяцца столік, люстэрка, два мяккія крэслы, ласіныя рогі, што нібыта былі паляўнічым трафеем паэта, гравюра з гуралем, што курыць люльку. У нашым доме я ніколі іх не бачыла. Мой дзядуня ўвогуле не прызнаваў палявання на звяроў. Не любіў ён і гравюр — аддаваў перавагу алейным карцінам. Усе гэтыя рэчы выдаў за багушэвічаўскія і прадаў музею мой сваяк па мацярынскай лініі Альхімовіч. Ні да паэта, ні да ягоных рэчаў ён ніякага дачынення не меў.

— Што ж, — кажу С. Тамашэўскай на развітанне, — для ашмянскага музея гэта будзе непрыемная вестка. Але суровая праўда заўсёды лепш салодзенькай няпраўды... Шчаслівай дарогі вам! А Мэндыграловай я абавязкова напішу.

Праз месяц у паштовай скрынцы я знайшоў канверт з польскімі паштовымі маркамі. У адказ на маю просьбу растлумачыць, што ж было ў шкляным слоіку, Габрыеля Мэндыгралова ў ветліва-здзеклівым тоне паведаміла, што... першы раз пра ўсё гэта чуе. Паводле слоў старшай унучкі Багушэвіча, рукапісаў яе дзеда «відаць увогуле не было». І тут жа, абзацам ніжэй, яна супярэчыла сама сабе: «Усім маім домам, у якім знаходзіліся **рукапісы** (падкрэслена мною — **А. М.**) і памятныя рэчы (Ф. Фагурэвіча — **А. М.**), заапекаваўся старшыня тагачасных адміністрацыйных мясцовых улад. Прозвішча яго я на жаль не памятаю». Вось табе і на! Не было ніякіх рукапісаў — і ўсё ж яны засталіся ў доме. Не было ніякага слоіка — і ўсё ж ён існуе рэальна. Цяжка тут звязаць канцы з канцамі.

Вось пакуль што і ўся «дэтэктыўная» гісторыя таямнічага шклянога слоіка. Гісторыя — што і казаць — сумнаватая. Але апошнюю кропку ставіць у ёй пакуль што рана. Я спадзяюся, што з дапамогай чытачоў газеты знойдуцца людзі, якія ведаюць усю праўду, затоеную Г. Мэндыграловай, памятаюць, што адбылося з рукапісамі Багушэвіча ў пасляваенным 1946 годзе. Спадзяюся на дапамогу юных следапытаў Жупранскай і іншых навакольных школ. У час летніх канікул варта было б яшчэ раз уважліва перакапаць усю тэрыторыю, дзе стаяў хлеў Мняховічаў, пакапацца ў іхнім гумне, якое захавалася на тым жа месцы.

Фінальныя старонкі «дэтэктыва», паважаныя чытачы, за вамі!

Адам МАЛЬДЗІС.

*Лёгкім штрыхам*

**Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА.**



Максім Танк.



Янка Брыль.

**Р. ЛАЗУРКІН**

# ДАЧАКАЎСЯ

Схуднелы сівы дзядок, а дакладней Цімох Цімохавіч Ямб, ляжыць на ложку, хваравіта, цяжка дыхае і, прыжмурыўшы вочы, успамінае... Вось ён зусім яшчэ малады, ружовашчокі, вясёлы, бадзёра крочыць па вясновай вуліцы, а ў руцэ трымае два пісьмы... Спыніўшыся ля паштовай скрынкі, ён нерашуча таўчэцца хвіліну-другую, яшчэ раз перачытвае адрасы. Не, усё правільна, усё ў парадку: адно пісьмо Марыльцы, другое — рэдакцыі літаратурнага часопіса... У адным — палымянае прызнанне закаханага, у другім — амаль тое ж: першыя вершы пра каханне! Божа, якія гучныя словы там, якія светлыя пачуцці! Ці зразумеюць яго, ці адкажуць яму спагадлівым словам? Ад хвалявання аж дрыжаць рукі... Юнак апускае ў скрынку пісьмы. І гатоў чакаць адказу нават усё жыццё...

І — чакае...

Але што ж было далей? Стары квола ўсміхаецца ў сівыя вусы, прыгадаўшы, як атрымаў нарэшце адказ на першае сваё пісьмо. Ад радасці ён быў на сёмым небе... Яго — кахалі! Кахала Марылька і кахаў, здавалася, увесь белы свет! Што яму яшчэ трэба было? Згода... Адна толькі Марыльчына згода выйсці за яго замуж... І ён паслаў ёй яшчэ пісьмо. І паслаў новыя вершы (зноў не ўтрымаўся!) пра сваё вялікае шчасце ў часопіс.

Чакай, што ж было далей? На першае пісьмо зноў хутка атрымаў адказ — яна згаджалася стаць яго жонкай. А вось на другое пісьмо, адказу не было і не было.

Стары Цімох Цімохавіч Ямб кашляе, тузаецца на ложку, вохкае. Цяжка паміраць чалавеку, калі нешта яшчэ ў жыцці не зроблена, не ўладкавана... Не, не, не падумайце, з жонкай сваёй ён пражыў жыццё добра — кожнаму б так! Дзяцей пагадаваў, унукаў паняньчыў. Усім, здаецца, задаволены. Ды вось нешта яшчэ трывожыць, шкрабе на сэрцы, не дае спакойна памерці.

— Гэй, унучка, Галінка! Што за ліст... трымаеш? Прачытай мне, даражэнькая...

Першакласніца Галя падбягае да дзеда і ціхенька пачынае чытаць:

— Шаноўны Цімох Цімохавіч! Вашы вершы пра першае каханне нам спадабаліся... У вас ёсць густ. Ёсць юначы запал. Дык працуйце ж, дарагі! Можа з цягам часу нешта і атрымаецца...

Тое, што чытаецца далей, стары ўжо не чуе. На вачах у яго слёзы. Шчаслівыя слёзы. На твары — супакоенасць, лагоднасць. Нарэшце! Дачакаўся-такі. Цяпер і памерці не страшна.

# ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

*Абсталяваць—пасадзіць за стол.*
*Адолець — атрымаць сваю долю.*
*Акунь — ныральшчык.*
*Акурак—куранятя.*
*Варэнік—повар.*
*Выступаць—таўчы ваду ў ступе.*
*Гатавальня—сталовая.*
*Гуляш—прагульшчык.*
*Дзірван—галадранец.*
*Дэлікатэс—далікатны чалавек.*
*Заморак—заморскі госць.*
*Заносіць — задзіраць нос.*
*Злыдзень — злы цэлы дзень.*
*Касяк—чалавек на падпітку.*
*Корцік—невялікая спортпляцоўка.*
*Матрац—рацыяналізатар лаянкі.*
*Метан—спартыўны снарад.*
*Метэор—дворнік.*
*Морква—эпідэмія ў жаб.*
*Напільнік — п'яніца.*
*Начоўкі—гасцініца.*
*Пакутнік — валацуга.*
*Пардон — пусты паравы кацёл.*
*Пасудзіна—лава для падсудных.*

**М. КОЗЕЛ, С. КУХАРЧУК, М. НОЖНІКАЎ, П. ШЫБУТ.**

Малюнкі М. ЧАРНЯЎСКАГА.





— Каб ведаў, што так кожную восень будзе, стварыў бы ім толькі хвойнікі...



— Гэтым я думаў прывабіць у горад турыстаў, а мяне пад суд..



Паэт на дачы.

**Сеймур ДЖОЗЕФ**

# ЯК З ЛЫСАГА СКАЛЬП

У СВАІМ ІНТЭРВ'Ю часопісу «Плэйбой» кінаакцёр Джон Уэйн сказаў: «Думаю, мы не зрабілі нічога благога, адабраўшы ў індзейцаў нашу вялікую краіну. Мноству людзей патрэбны былі новыя землі, а індзейцы эгаістычна не хацелі падзяліцца... Тое, што адбылося паміж іхнімі і нашымі продкамі, было настолькі даўно, што я не бачу, чым менавіта мы абавязаны тубыльцам. І не разумею, чаму створаныя ўрадам рэзервацыі могуць камунебудзь не падабацца. Але спецыялісты, пэўна, хочуць, каб пра індзейцаў клапаціліся ад калыскі да магілы. Гэтак мы самі неўзабаве апынемся ў рэзервацыях, калі і надалей будзем выдаткаваць на іх нашы падаткі».

Я страшэнна расчараваўся, прачытаўшы гэтыя словы, бо, паміж намі кажучы, сабраўся быў паслаць яму па пошце новы кінасцэнарый, ад якога цяпер ён, думаю, адмовіцца. А паводле маёй задумы яму прызначалася галоўная роля ў фільме «Як з лысага скальп».

Уэйн іграў бы вёрткага, самаўпэўненага экс-шэрыфа, які, насмактаўшыся віскі, натыкаецца раптам на індзейскае паселішча. Экс-шэрыфа прыводзяць да правадыра, і той гаворыць:

— Гэтыя бледнатварыя са сваёй вогненнай вадой прынадзяць да нас злога спірытуснага духа.

Уэйн асоўваецца да ног правадыра. А крыху ачомаўшыся, просіць дазволу застацца жыць у паселішчы.

— Усё жыццё я марыў стаць індзейцам, — заяўляе ён, скачучы вакол вогнішча з крыкамі: — Уху-уп! Уху-уп! Уху-уп!

Правадыр загадвае Уэйну не ламаць камедыю, бо іначай з яго знімуць скальп. Але, як чалавек велікадушны, правадыр згаджаецца прыняць Уэйна ў індзейцы, але толькі пасля некаторых выпрабаванняў.

— Перш-наперш трэба, пераапрануўшыся ў індзейскае адзенне, прабыць цэлы дзень у суседнім гарадку.

Уэйн выконвае загад. І што ж: белыя дзеці закідваюць яго каменнем, а белыя выпівохі выганяюць з рэстарана, каўбоі збіваюць да паўсмерці, і нарэшце, паліцыя арыштоўвае яго за валацужніцтва.

Калі ж Уэйн вяртаецца з турмы, правадыр дае яму новае заданне: сцерагчы пашу, на якую нацэліла вока падраздзяленне амерыканскай кавалерыі —трэба ж і ім нечым карміць коней. Імклівым наскокам кавалерыйскі эскадрон авалодвае пашай і здзірае з Джона Уэйна скальп.

— Ты яшчэ не адмовіўся ад мары стаць індзейцам?—пытаецца ў яго правадыр.

— Адпусціце мяне на свет божы, — мармыча Уэйн.

— Што ж, ідзі сабе, адкуль прыйшоў, — кажа правадыр. — Навошта ты нам без скальпа?

Каля варот кавалерыйскага форта індзейцы скідаюць Уэйна з каня. Вароты расчыняюцца, і двое салдат валакуць нашага героя ў форт.

— Пусціце, сам пайду,—гаворыць ён.

Стужка заканчваецца тым, што аскальпаваны кульгавы Джон Уэйн цягнецца ў салун.

Меркавалася, што фільм будзе здымацца ва ўмовах, найбольш блізкіх да рэалій сюжэта. Ролі індзейцаў выконвалі б сапраўдныя індзейцы, а ў Джона Уэйна не было б дублёра. А што да скальпавання, дык тут яму няма чаго баяцца: ён жа лысы, як калена. І усё ж, на маю думку, роля яго не зацікавіць. Ліха яму ў бок!

Пераклаў з англійскай С. ДОРСКІ.

**Рыгор ЯЎСЕЕЎ**

# ГУЗАК

**Спатыкнуўся, —**
**Сам сабе**
**Пасадзіў**
**Гузак на лбе.**
**Лоб жа мой,**
**Баліць—яму.**
**Што да гэтага каму?!**
**Я ж магу**
**Уласны лоб**
**Біць**
**Аб што там ні было б!**

**Ды да вечара ад рання —**
**Мне пытанне за пытаннем.**
**Меркаванні ходзяць,**
**як**
**Я набіў сабе гузак.**

□

**Каб такія гузакі**
**Ды на злыя языкі.**

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62 аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.